ЯНКА МАЎР

# АПОВЕСЬЦЬ будучых дзён

ПРЭМІЯВАНА НА ЎСЕБЕЛАРУСКІМ КОНКУРСЕ ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ Ў 1930 ГОДЗЕ

---

1932 ЮНДЗЕТСЭКТАР
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

Рэдактар *А. Платун*
Аформіў тэхрэд *К. Пуроўскі*
Карэктар *Е. Перская*

Малюнкі і вокладка
мастака І. Давідовіча

Заказ № 2578. 7.000 экз. (13½ арк.). Галоўлітбел № 1225.
Друкарня імя Сталіна.





## 1 ПАД ЧОРНЫМ ДАХАМ

Юзік жыў у вялікім нізкім мураваным доме. Пабеленыя крэйдай сьцены былі націснуты шырокім чорным дахам, нібы капялюшом, з-пад якога выглядалі падсьлепаватыя вокны. У доме было шмат каморак, дзе туліліся батракі пана Загорскага.

З-пад даху нясуцца прыдушаныя крыкі дзяцей, лаянка матак, ляск начыньня. Часам з тых ці іншых дзьвярэй выкаціцца камяк бруднай дзетвары, распаўзецца, сашчэпіцца, зноў схаваецца. Там высунецца жанчына і выпляхне памыі бадай што на галовы дзяцей.

Але поўным жыцьцём дом пачынае жыць увечары, калі вернуцца з работы бацькі. У доме замільгаюць жоўтыя агоньчыкі, нават электрычныя, бо пан Загорскі быў „культурны“ гаспадар і да батракоў правёў электрычнасьць з лямпачкамі па восем сьвечак. Рух і гамонка пад дахам узмацняюцца, з вакон і дзьвярэй вырываецца моцная мужчынская гаворка, часам заверашчыць гармонь, загучыць сьпеў, падобны да плачу, ці то плач, падобны да сьпеву.

Але хутка ўсё гэта сьціхае, бо не да сьпеваў і не да плачу зморыным людзям. Праз гадзіну дом ужо сьпіць цяжкім сном. На нарах, лавах, а то і на падлозе параскідаліся паспляталіся насельнікі дому, мармычаць ува сьне. Густое, душнае паветра прыці-



скае грудзі; нават рванае рызьзё, у якое яны загарнуліся, душыць бы камень. І ад цяжкага дыханьня, здаецца, варушыцца чорны дах і белыя сьцены.

А на другі дзень аконам заўважыў вылітыя памыі і падняў цэлы гармідар:

— Пся крэў! Зноў набрудзілі! Хто гэта? Колькі разоў вам казалі, каб захоўваць чыстату! Быдла! Калі мы навучым вас жыць па-культурнаму?

Дзядзінец быў сапраўды культурны,—нібы выган. Ён займаў вялізную плошчу; з аднаго боку яе стаяў батрацкі дом, з двух бакоў—хлявы і іншыя гаспадарчыя будынкі, а з трэцяга—панскі сад, а ў ім панскі палац. Раней на гэтай плошчы бадзялася ўсялякая жывёла, а цяпер пан забараніў пускаць яе, нават загадаў пасадзіць навакол дрэвы.

Каля дому на слупох, пад дахам, бы ў галубоўні, стаяў гучнагаварыльнік. Ён злучаўся з панскім палацам, і адтуль час-ад-часу пускалі радыё, часьцей за ўсё набажэнства з Варшаўскага катэдральнага касьцёлу. Моцныя густыя гукі органаў запаўнялі



ўвесь дзядзінец, чуліся званочкі і лацінскія выгукі „самога“ біскупа. Жанчыны слухалі ўсё гэта з нейкім сьвятым жахам, уздыхалі, хрысьціліся. Мужчыны стаялі, апусьціўшы галовы.

Толькі Антэк, пазнанец, часам скажа:

— От! Завялі ўжо сваю дуду,—лепш марш які зайгралі-б.

Дзесяткі вачэй зірнуць на яго, але нічога ня скажуць. Дый што казаць яму, гэтаму блазну? Заўсёды ён што-небудзь такое выкіне. Ні бога, ні чорта, нават пан не паважае. Шмат каму з мужчын і падабалася гэта, але рызыкоўна было згаджацца з ім. Гэты Антэк зусім ужо сапсаваў сабе кар'еру. У лепшым выпадку, можа сёньня ці заўтра звольняць яго, ну, а ў горшым—і арыштаваць могуць.

Нярэдка радыё казала прамовы аб тым, што Польшча самая вялікая, магутная дзяржава, а палякі—сам вялікі, культурны і шчасьлівы народ. Што ёсьць суседзі, якія зайздросьцяць гэтаму і імкнуцца загубіць Рэч Паспаліту, зьнішчыць культуру. Што ўсім трэба памятаць аб гэтым і быць гатовымі па першым выкліку ойчызны стаць на абарону яе.

— Ох! Будзе вайна!—чуўся трывожны гоман.— На якое ліха і каму яна патрэбна?

— Паном!—кідаў Антэк і адыходзіў прэч.

Увечары Юзік пытаўся ў бацькі:

— Аб якіх гэта суседзях кажуць, што яны зьбіраюцца напасьці на нас?

— Аб Савецкім Саюзе, вядома.

— Завошта яны хочуць ісьці на Польшчу?

— А ліха іх разьбярэ. Сварацца чамусьці. Эх, гэтая вайна! — уздыхаў бацька.—Шмат народу яшчэ памятае яе.

— І ты таксама?

— А як-жа ж? Мне-ж тады было чатырнаццаць ці пятнаццаць год. Жылі мы ў вёсцы Курычы, ля Слуцку. Пачалася вайна. Шмат людзей з нашай вёскі пайшло. Але нас вайна не датычылася. Ваявалі недзе далёка, хто з кім—нават і цяпер ня ведаю. Аднак, нарэшце, дакацілася і да нас. Пайшлі чуткі, што немцы ідуць. Пацягнуліся міма нас тысячы сялян-бежанцаў, якім загадалі ўцякаць ад немцаў. Потым пачаўся нейкі гармідар: рэволюцыя, значыцца, прышла, цара скінулі. Зьявіліся бальшавікі, нашы сталі ўцякаць.

— А якія яны, гэтыя бальшавікі? Ты бачыў іх?

— Ды звычайныя нашыя людзі, якія ішлі супроць паноў. Наш сусед, Раман, вярнуўся з войска і таксама быў бальшавіком. Ну, а потым і немцы прышлі.

— Што-ж яны рабілі?

— Ды нічога. Паставілі па вёсках салдат, зьбіралі сала, хлеб, часам нават плацілі. А потым зноў прышлі бальшавікі. Ня памятаю добра, што рабілася, толькі ведаю, што ўсё пайшло дагары нагамі. Адабралі ад паноў зямлю і аддалі сялянам. Але вельмі неспакойна і цяжка было жыць. Бацька, твой дзед, вельмі скардзіўся.

Завошта-ж?—дзівіўся Юзік.—Яны-ж паноў прагналі, зямлю сялянам аддалі.

— Ды што за карысьць з яе, калі навакол гармідар. Калі працаваць спакойна нельга. Калі кожны дзень чакалі, што паны зноў прыдуць.

— І што-ж далей было?

— Ну і прышлі. Рамана злавілі і расстралялі. Дасталося і тым, хто карыстаўся панскай маемасьцю. Нас не кранулі, бо бацька не пакваліўся на чужое



добро. А вайна ўсё цягнулася. Шмат хлапцоў з нашай вёскі паўцякалі ў лясы і нападалі на палякаў.

— Вось якія!—нібы спачувальна прамовіў Юзік.

Бацька сурова зірнуў на яго.

— Ну што-ж тут добрага? Палова з іх загінула. А сядзелі-б спакойна,—жылі-б і да гэтага часу.

— А ты як сюды трапіў?

— Аднаго разу заварушыліся палякі, сталі забіраць свае і чужыя рэчы і ўцякаць. Бачыш, зноў бальшавікі націснулі на іх. Я ў гэты час ехаў на поле па снапы. Жаўнеры захапілі мяне і загадалі адвезьці іх у мястэчка, што знаходзілася кілёмэтраў за пятнаццаць ад нас. А там пагналі мяне далей і далей, аж да Варшавы. Некаторыя з нашых адракліся сваіх коняй і вярнуліся да хаты пешшу. А мне шкада было каня і колаў, ды жаўнеры кожны раз казалі мне, што калі даедзем да наступнага пункту, дык мяне і адпусьцяць.

— І адпусьцілі?

Бацька махнуў рукой.

— Дзе там! Дурны яшчэ быў, таму і паверыў. Нарэшце яны мяне зусім прагналі, нават бізуном пачаставалі, а каня і панарад пакінулі сабе.

Ён змоўк і ўтаропіўся вачыма ў кут, успамінаючы далёкія, незразумелыя для яго падзеі. Успомнілася родная вёска на ўзгорку, саджалка, дзе ён з таварышамі плёхаўся, вясёлы гай на другім беразе. Якімі шчасьлівымі здаваліся яму тыя часы! Але дзесяткі гадоў, якія прайшлі з таго часу, засланілі ўсё гэта такім туманом, што цяпер нават ня верылася, ці сапраўды было іншае жыцьцё.

— Чаму-ж ты не вярнуўся?—дапытваўся Юзік.

— Дзе-ж там было вяртацца, калі я апынуўся за сотні кілёмэтраў ад дому. Трэба было трымацца і працаваць, каб не памерці з голаду. На дарогу-ж патрэбны грошы, а дзе там было сабраць іх. Добра было, што хоць пракарміцца мог. Дзесяткі розных паноў зьмяніў, і вялікіх і маленькіх; кожны з іх прымаў на працу, нібы ласку рабіў. Дзякуй, кажуць, што цябе, бяспрытульнага, харчуем. Праз некалькі год я дабраўся бліжэй да мяжы і пачаў быў клопаты, каб вярнуцца, але ня пусьцілі. Кажуць, нейкія тэрміны прайшлі. Дый наогул беднаму няпісьменнаму чалавеку і думаць нельга было дайсьці да ўсіх гэтых парадкаў. Нарэшце, знайшоў сталае месца ў нашага пана, супакоіўся, сустрэўся вось з тваёй маткай і жыву сабе, дзякуй богу, ня горш ад людзей. Усюды працаваць трэба. Гаспадары вось у нашых Смалякох жывуць ня лепш ад мяне. А ты, дзякуючы пану, навучышся і будзеш жыць лепш за мяне.

— А мама таксама адтуль?—зьвярнуўся Юзік да яе.

— Не, здаецца, аднекуль бліжэй. Кажуць, што мае бацькі, калі ўцякалі ад немцаў, па дарозе памёрлі, а мяне, двухгадовую, узяла да сябе адна ўдава. Яна выгадавала мяне да дванаццаці год і аддала сюды. Сама яна даўно памерла.

— Ці жывы дзед? Ці пісалі яму?

— Гадоў праз тры ці пяць папрасіўся я ў аднаго чалавека, каб напісаў ад мяне ліст, але нічога з гэтага ня вышла. Ці то няправільна напісаў, ці не дайшоў ліст, а можа і бацькі там ужо ня было. На гэтым і скончылася. Дый там, кажуць, нясоладка жывецца. Як і раней, ніякага парадку няма. Прагналі, зьнішчылі паноў, а потым узяліся і за сялян. Паадбіралі гаспадаркі і прымусілі працаваць на дзяржаўных маёнтках, таксама батракамі, як і мы тут. Невядома яшчэ, ці лепш гэта. Тутака, калі дагадзіш пану, сёе-тое і перападзе: і ордынарыю атрымліваеш, і часам карову можна завесьці, а там, кажуць, нічога не атрымліваюць; жывуць, як жаўнеры, у казармах і ніякай уласнасьці ня маюць. Усюды дрэнна беднаму чалавеку. Тут, прынамсі, хоць кут маем, сьвіньню, дый хлеба хапае. Але мы надта забалакаліся; кладземся спаць. І табе, Юзік, трэба заўтра рана ўставаць.



Бацька зяхнуў і палез на свае нары. Маці прымасьціла Юзіка на яго заслоне, пагасіла электрычнасьць і, шэпчучы нейкую мяшаную малітву, пайшла на сваё месца.

Міхал, Юзікаў бацька, па натуры быў ціхі і пакорлівы чалавек. Асабліва пасьля таго, як пабатрачыў з чатырнаццаці год і нацярпеўся гора. Ён быў рады, што знайшоў, нарэшце, сталы прытулак і працаваў не за страх, а за сумленьне, каб ня страціць свайго месца. Жонка яго, Марыля, таксама нацярпелася ў сіроцтве і таксама была здаволена сваім лёсам. Яна нават была пісьменная, умела чытаць па-польску. Пачала вучыць і Юзіка, які меў ужо дзесяць год, але справа ня рухалася, бо сама маці надта мала ведала.

Юзік і да гэтага часу чуў, што бацька паходзіць адтуль, з Савецкай Беларусі, але сёньня ўпяршыню даведаўся аб гэтым больш дакладна.

Цікава было-б убачыць свайго дзеда, вёску Курычы, саджалку, паглядзець, як там людзі жывуць, сваякі. Хоць і тут нядрэнна, але лепш было-б мець сваю гаспадарку, пасьвіць сваю ўласную жывёлу, а ня панскую. На сваім кані ён бы езьдзіў, колькі ўлезе.

Але шкада, што і там усе батракамі служаць,нават горш, чымся тут—у казармах жывуць. Мусіць і парадкі суровыя, вайсковыя.

Каб толькі хутчэй трапіць у школу! Ён будзе добра вучыцца, каб вывучыцца на пісара. Ён тады будзе панічом, і тады, можа, сам пан паздароўкаецца з ім за руку...

## 2 АНТЭК

Юзік, як і ўсе іншыя батрацкія дзеці, яго таварышы, быў падпаскам у панскага галоўнага пастуха. Пасьвілі яны па чарзе і досыць часта мелі вольныя дні.

І скарыстоўвалі гэтыя дні досыць цікава. Швэндаліся сярод сельскагаспадарчых машын, совалі нос у малочную, у бровар, а часам нават і ў панскі сад. Апошняя справа вымагала шмат адвагі, геройства, бо няўдача заўсёды мела вынікам добрую лупцоўку. Трэба было сьцерагчыся і бацькоў, і іншых батракоў, і садоўніка, і чэлядзі, што служыла ў палацы. Але страшней за ўсіх быў пан. Яны нават ня ведалі, чаму яны гэтак яго баяцца, бо сам ён ніколі ня біўся. Зірне толькі і крыкне:

— Цо то ест?!

І больш нічога.

Але на гэты крык беглі і садоўнік, і лёкаі, і ўсе, хто быў паблізкасьці. Пан нават ня лаяў хлапцоў, а чамусьці толькі сваіх людзей. Але затое тыя стараліся...

Панскі маёнтак складаў асобны гарадок. Той квартал, дзе жыў Юзік, быў, так сказаць, земляробскі. Тут былі трактары, малатарні, жняяркі, сеялкі, пуні, сьвіраны. Далей—хлявы, дзе было штук пяцьсот кароў, і побач—малочная з рознымі машынамі. А там уздымаліся коміны бровару, тут-жа розныя майстэрні, кузьні і шэраг іншых устаноў, якіх Юзік нават і ня ведаў.

Зранку да вечара ішла там праца. Быў і там спэцыяльны, агульны дом, дзе жылі рабочыя. Але гэты дом быў ня нізкі і белы, як Юзікаў, а двухпавярховы, з чырвонай цэглы. Тут таксама пан загадаў пасадзіць дрэвы і сачыць за чыстатой, але гэтая чыстата была толькі ў той час, калі ня было дажджу. Увосень-жа ўсе загразалі ў балоце.

Яшчэ далей, на рэчцы, была грэбля, млын і невялікая электрычная станцыя. Там адбывалася нешта таемнае, што пасылала па дроце сьвятло. Хлапцоў туды ня пускалі, і яны толькі здалёк бачылі бліскучыя часткі нейкіх машын.

За высокім-жа жалезным плотам пачыналася другое царства: асфальтавыя сьцежкі, розныя дзіўныя дрэвы, абрэзаныя ў выглядзе фігур, шмат кветак, і далёка ў сярэдзіне з-за дрэў высоўваўся высокі белы палац з дзьвюма радыявымі мачтамі.

Там жылі зусім асобныя, шчасьлівыя людзі—паны. Няшмат было шчасьліўцаў, якія ўваходзілі ў той будынак. Затое тыя, хто бачыў, доўга памяталі аб ім.

Усё, што давала праца навакольных людзей, усе тыя нязграбныя і простыя рэчы—горы снапоў, саломы, сена, бульбы, збожжа,—усё гэта ператваралася ў грошы, цякло ў палац, адтуль некуды далей і варочалася назад у выглядзе самых прыгожых і дарагіх рэчаў, заморскіх він і ўсялякіх ласункаў. Казалі нават, што там ёсьць такое радыё, якое адначасова паказвае на экране і падзеі, што адбываюцца ў сьвеце.

Але Юзік не адчуваў ні зайздрасьці, ні злосьці да паноў. Як-жа ж іначай магло быць? Вядома, паны павінны жыць па-панску, ня ўсім-жа ж быць панамі.

Часта прыяжджалі да пана госьці на аўтомобілях. Тады ўвесь палац зьзяў агнямі, чулася музыка, сьпевы. Тады ня толькі дзеці, але і дарослыя стаялі ля плоту, прыглядаліся, прыслухоўваліся.

— Вось каму добра жыць,—уздыхне які-небудзь парабак.

— На то яны і паны,—адзавецца жанчына.

— А што-ж? Не такія самыя яны людзі, ці што?— крыкне хто-небудзь.—Чаму-ж ім усё дарма ідзе? Чаму-ж мы павінны на іх працаваць?

— Ну дык і не працуй. Хто цябе прымушае?

Здавалася, вось-вось разгарнуцца спрэчкі. Але чамусьці гутарка ў такіх выпадках зараз-жа спынялася.

У розных мясцох, у розныя часы Юзік часта чуў падобныя гутаркі, але яны яго ня цікавілі. Толькі аднаго разу ён больш зацікавіўся, калі чорны лахматы каваль пачаў даводзіць:

— У добрых людзей даўно ўжо паноў няма, даўно ўжо адабралі ўсе фабрыкі і маёнткі, а ў нас сьмеласьці нехапае, сядзім і маўчым.

Ведаю я гэтую справу,—заўважыў тут Юзікаў бацька,—сам бачыў. Нічога салодкага няма. Паспрабуй падзяліць паміж усіх усё панскае дабро, ці дужа дастанецца кожнаму, ці разбагацеем мы ўсе?

Юзік сьцяміў, аб якіх гэта „добрых людзях“ гаворыцца. Ён падумаў сабе:

„А цікава было-б паразьбіраць сабе ўсе рэчы з панскага палацу. Я-б пастараўся сьцягнуць сабе тую машыну, якая прымае радыё. Тады можна было-б не чакаць, пакуль пан пусьціць радыё, а самому слухаць, што захочаш“.



А назаўтрае Юзік пачуў ціхія гутаркі, што каваль уначы зьнік, што нехта схапіў яго і павёз ні то ў турму, ні то на расстрэл.

— Дурны гэты Вінцусь!—сказаў бацька матцы.— Сам палез у пятлю. Ну што ён мог зрабіць сваімі словамі? А тымчасам загубіў сябе.

Зьнікненьне каваля зрабіла на Юзіка вялікае ўражаньне, але ў той час ён хутка на гэта забыўся. Толькі пазьней ён пераканаўся, што гэтае здарэньне пакінула ў ім глыбокі сьлед.

Больш за ўсіх падабаўся Юзіку Антэк, спрытны, вясёлы дзяцюк гадоў дваццаці двух. Ён не ўваходзіў у доўгія разважаньні, спрэчкі, а кідаў словы мімаходзь. Трапныя, вострыя словы, нібы стрэлы. І нельга было пазнаць, ці ён жартуе, ці гаворыць сур'ёзна.

Асабліва даставалася ад яго Юзікаваму бацьку. Антэк чамусьці называў яго „бальшавіком“.

— Ну, таварыш бальшавік, ці хутка пан падаруе табе ўласную кароўку?

— Хай табе хутчэй падорыць вяроўку, зараза!— плёваўся Міхал.

Добра яшчэ, што Міхал лічыўся ў адміністрацыі добрым, надзейным работнікам, а то-б мянюшка „бальшавік“ магла нават загубіць яго. Міхал часам з кулакамі кідаўся на Антэка, а таму хоць-бы што.

Юзік не разумеў, у чым тут справа, і чамусьці шчыра імкнуўся да Антэка, стараўся яму дагадзіць. Але той і да Юзіка адносіўся неяк дзіўна, называў яго нейкім незразумелым словам „піонэр“, і па голасе Антэка нельга было пазнаць, ці гэта лаянка, ці добрае слова.

— А што такое піонэр?—пытаўся ён у Антэка.

— Гэта, браток, запытайся ў свайго бацькі, ён павінен ведаць.

Але бацька таксама ня ведаў.

— Вось што я табе скажу,—сур'ёзна заўважыў ён сыну.—Трымайся ты далей ад гэтага блазна, калі ня хочаш загінуць, як той каваль. Падрасьцеш, успомніш мае словы.

Але аднаго разу адбылося здарэньне, пасьля якога адносіны з Антэкам зусім зьмяніліся.

Міхал майстраваў нешта пад страхой. Юзік круціўся каля яго. Вось ідзе Антэк.

— Добры дзень, бальшавікі—прамовіў ён, як звычайна, з насьмешкай.

Злосна бліснулі вочы ў Міхала, ён выпрастаўся, цьвёрда зірнуў Антэку ў твар і нават сьціснуў кулакі. Юзік спалохаўся. Ніколі ня бачыў ён бацьку такім злосным, рашучым. Нават у Антэка зьнікла ўсьмешка.

Міхал нічога не казаў, упарта глядзеў у твар Антэка і цяжка дыхаў. Здавалася, нібы ён устрымліваецца ад нечага, змагаецца сам з сабой. Нарэшце ён прамовіў ціхім, цьвёрдым голасам:

— Ці ведаеш ты, што я бачыў і чуў усё, што адбывалася пазаўчора аб адзінаццатай гадзіне вунь там, пад малатарняй?

Юзік выразна ўбачыў, як зьмяніўся твар Антэка, як ён зьбялеўся...

— Падпільнаваў?—сказаў ён з нейкай агідай.

— Не, выпадкова,—адказаў Міхал сурова.

— Сказаў ужо?

— Не,—адсек той.

— Зараз пабяжыш?

— Не,—цьвёрда паўтарыў бацька.

Антэк неяк крыва ўсьміхнуўся.

— Няўжо-ж праўду гаворыш?—прамовіў ён дрыжачым голасам.



— Каб я хацеў сказаць, я меў на гэта два дні часу.

— І ня скажаш?

— Ніколі.

— Даруй, Міхал,—прашаптаў Антэк і працягнуў руку.—Я мыляўся, я лічыў цябе зусім іншым.

— Ты і цяпер мыляешся. Я не такі, як ты думаеш. Я досыць нацярпеўся на сваім вяку і хачу толькі спакою, хачу выгадаваць сваё дзіця. Я не хачу ўмешвацца ў гэтыя справы. Я не магуісьці з вамі, але і супроць вас не пайду. Мая хата з краю. Але-ж і ты не чапляйся да мяне.

— Ці-ж можна аб гэтым цяпер казаць?—шчыра сказаў Антэк.

— І яшчэ адно скажу табе: не чапай і майго хлопца. Я не жадаю яго згубы. Вось усё, што я ад цябе вымагаю.

Антэк нерашуча патупаўся на месцы.

— Слухай, Міхал,—прамовіў ён нарэшце,—скажы шчыра, ці ня зьменіш ты сваёй думкі заўтра?

— Кажу-ж табе, што я два дні думаў аб гэтым. І калі пад уплывам гневу не зрабіў, дык думаю надалей тым болей не падумаю. Толькі не чапайце мяне і майго сына.

— Дзякую, Міхал!—з пачуцьцём сказаў Антэк.— Я ніколі гэтага не забуду.

Калі ён адышоўся, Юзік хацеў быў запытацца, у чым справа, што такое бачыў бацька пад малатарняй, але той быў такі сур'ёзны, што Юзік не адважыўся пытацца.

Шмат дзён думаў Юзік аб гэтым здарэньні і нічога ня мог прыдумаць, каб уразумець яго. Паміж Антэкам і бацькам адносіны зрабіліся зусім іншымі. І на Юзіка Антэк пачаў глядзець ужо зусім іншымі

вачыма. Але ад гутарак і сустрэч з імі ухіляўся. Ад усяго гэтага Антэк здаваўся Юзіку яшчэ больш таемным яшчэ больш цікавіла яго гісторыя з малатарняй. Ён нават хадзіў туды паглядзець, ці няма нейкай асаблівасьці, але, вядома, нічога не знайшоў.

Ні Антэк, ні бацька не здагадаліся папярэдзіць Юзіка, каб ён нікому не казаў аб гутарцы. Відаць, яны лічылі, што нічога дакладнага ня было сказана, што Юзік ня чуў ніякіх фактаў, а калі і чуў, дык, вядома, ня мог зразумець. Нават і рызыкоўна было папераджаць, бо тады хлапец мог ухапіцца за тое, на што ён цяпер, можа, і зусім не зьвярнуў увагі.

Але трэба аддаць справядлівасьць Юзіку: ён нутром адчуў, што справа нейкая важная і што аб гэтым трэба маўчаць. Таму, хоць сам ён і ламаў галаву над гэтым пытаньнем, але ня вынес яго на абгаварэньне нават сваім таварышом.

З цягам часу Юзік наогул пачаў забывацца аб ўсёй гэтай гісторыі, бо ў яго былі свае дзіцячыя справы і інтарэсы.

## 3 ТУБЫЛЬЦЫ

Калі Юзік пасьвіў каровы, дык яму даводзілася сустракацца з хлапцамі вёскі Смалякі, што была ля маёнтку. Але сустрэчы гэтыя большай часткай мелі ваенны характар.

Маёнтак разьмяшчаўся на абодвых берагох рэчкі. Адзін бераг цалкам належаў пану; уздоўж рэчкі далёка цягнуліся панскія паплавы, за імі па ўзгорках ішла пахаць. На другім-жа беразе, балацістым, купчастым, была паша. Але яна межавала з вёскай, таму тут заўсёды былі непаразуменьні. Ня было таго



дня, каб на панскую пашу ня сунулася вясковая жывёліна, і абавязкам панскіх пастухоў было бараніць сваю пашу. Для такіх хлапцоў, як Юзік, гэта было нават прыемнай справай. Ваенныя дзеяньні, перастрэлка з вясковымі хлапцамі былі для іх цікавай гульнёй у нуднай аднастайнай пасьбе. Тым болей, што перамога над ворагам заўсёды была забясьпечана. Часам траплялася ўзяць у палон карову, і тады падпасак гнаў яе ў маёнтак з такой урачыстасьцю, нібы ён вяртаўся пераможцам у сур'ёзнай вялікай вайне.

Пасьля гэтага ў маёнтак прыходзіў бедны, нікчэмны селянін, падыходзіў да аконама, здымаў шапку і цалаваў руку.

— Паночку, аддай карову!

Пакуль селянін цалаваў руку, аконам лаяўся:

— Пся крэў! Лайдакі! Чаго ня пільнуеце сваёй жывёлы? Дзесяць злотых штрафу!

— Паночку! Ды адкуль-жа ж я вазьму?

— Тады два дні адпрацуй!

Селянін згаджаўся. Аконам запісваў яго і аддаваў карову. Трымаючы ў адной руцэ шапку, а другой учапіўшыся за шыю каровы, селянін ішоў праз увесь маёнтак і надзяваў шапку толькі тады, калі нікога навакол ня было відаць.

На падпаскаў, у тым ліку і на Юзіка, гэтае зьявішча ніякага ўражаньня не рабіла. Што-ж тут асаблівага? Так яно заўсёды бывае і павінна быць.

Вёска складалася з сарака двароў і займала нібы пясчаны востраў сярод балота. З аднаго боку была рака, з другога — панская паша, а з трэцяга яе ахапляў панскі лес. Можа з чацьвертага боку сялянская зямля цягнулася і далей, але Юзіку не траплялася там быць.

Маленькія кавалкі пясчанай зямлі пракарміць гаспадароў не маглі, таму ўсе сяляне працавалі ў маёнтку. У дажджлівае надвор'е ўсе кідаліся ратаваць панскае сена ці жыта, а потым ужо браліся за свае.

Для пана гэта быў надзвычайна каштоўны запас рабочай сілы. Ня трэба было клапаціцца ні аб памяшканьні для іх, ні аб харчаваньні, ня трэба было плаціць за тыя дні, калі працы няма. Каб пану Загорскаму прапанавалі аддаць усіх гэтых сялян у поўную ўласнасьць, у прыгон, ён, напэўна, адмовіўся-б. Бо сучасны стан быў для яго куды лепшым.

Апрача ўсяго гэтага, ён яшчэ лічыўся добрым панам. Так, калі аднаго селяніна прыдушыла дрэвам на распрацоўках панскага лесу, дык пан Загорскі выдаў дошкі для труны зусім дармова, ня ўзяў аніводнага злотага. Калі ў сялян быў вялікі неўраджай, ён адпусьціў ім жыта, хоць яны і ня мелі чым заплаціць: яны толькі на працягу доўгага часу адпрацоўвалі за хлеб. Нават быў выпадак, калі аднаму шматсямейнаму селяніну так сабе даў дзесяць злотых на сукенку для голага дзіцяці. І, нарэшце, паставіў у вёсцы такі самы гучнагаварыльнік, як і ў парабкаў.

Адным словам, добры быў пан.

Вось толькі электрычнасьці не правёў, бо гэта было-б ужо занадта для хлопаў. Ня толькі пану, але і самім сялянам ня прыходзіла ў галаву думка аб такой раскошы. І бяз гэтага кожны селянін задаўжаўся працай бадай што на год уперад; дзе там было думаць аб балаўніцтве.

Паміж вясковымі хлапцамі і панскімі падпаскамі заўсёды было ваеннае становішча ня толькі на пашы але пры кожнай сустрэчы. Юзіку нават падабалася такое становішча, асабліва ўзімку, калі ваенныя опэрацыі прымалі больш цікавы характар.



Бойкі адбываліся на рэчцы, на лёдзе. Варта было хлапцом з маёнтку крыху наблізіцца да вёскі, як адтуль кідаліся варожыя атрады, і наадварот,— хлопцы з маёнтку пільна сачылі за ворагам у сваіх абшарах.

Але трэба зазначыць, што злосьці на сваіх ворагаў Юзік ня меў аніякай. Уся гэтая вайна адбывалася так сабе, па звычаі.

Аднаго разу ўзімку да хлапцоў далучыўся панскі сын, Зыгмусь, хлопчык таксама гадоў дзесяці. Як магло здарыцца, што ён адзін адлучыўся з палацу і далучыўся да простых дзяцей,—невядома. Але факт той, што ён апынуўся на рэчцы разам з хлапцамі і прыняў удзел у бойцы.

Які гонар адчувалі Юзікавы таварышы, што сам паніч з імі! Цяпер ужо перамога забясьпечана!

— Сьмялей! Уперад!

Ад нечаканага дружнага націску вораг пахіснуўся і пачаў адступаць. Але хутка сярод іх пачуліся галасы:

— Гляньце! Здаецца, панскае шчанё тамака! Бі яго!

Гэты кліч стрымаў вясковых хлапцоў. Яны прыпыніліся і зараз-жа перайшлі ў контрнаступ. Не пасьпеў панскі атрад апамятацца, як панічу ўляпілі сьнежку ў твар, нібы простаму сьмяротнаму.

Жаласны плач пакаціўся над рэчкай.

А тут якраз з маёнтку бегла шукаць яго чалавек дваццаць народу. Жах ахапіў абодва войскі, і ўсё яно мігам зьнікла, пакінуўшы на лёдзе аднаго паніча.

Сьледзтва па гэтай справе цягнулася два дні, і ў выніку некалькі чалавек дарослых атрымала кару.

Дасталося і Юзіку ад бацькі.

Калі бацька казаў Юзіку, што, „дзякуючы пану“, ён будзе вучыцца, дык мелася на ўвазе школа, якую будаваў у маёнтку пан Загорскі.

Да гэтага часу бліжэйшая школа была ў мястэчку, якое знаходзілася за шэсьць кілёмэтраў ад іх. Зразумела, там маглі вучыцца толькі некаторыя з служачых у маёнтку, а вяскоўцы і дзеці парабкаў дык і зусім не маглі наведваць яе. Ды яны і ня надта імкнуліся, бо школа была польская. Яны лічылі за лепшае сяк-так, адзін ад аднаго, навучыцца чытаць па-беларуску і карыстацца выпадкова беларускай газэткай ці кніжкай, якія часам траплялiся з Вільні.

У мястэчковай школе вучыўся толькі сын вясковага кулака Захара. Ён мог наймаць там кватэру на ўсю зіму. Мала таго, пасьля сканчэньня школы сын Захара паехаў вучыцца яшчэ некуды далей, казалі, што ён вучыцца на афіцэра.

Даўно ўжо адчувалася патрэба мець сваю школу ў гэтым раёне, але нікога гэта ня цікавіла. Для аднэй нікчэмнай малой вёскі будаваць школу ўлада ня лічыла патрэбным. А аб маёнтку павінен быў клапаціцца сам пан. Ён і клапаціўся, толькі не аб школе, а аб сваёй гаспадарцы.

Нарэшце, ён парашыў пабудаваць і абсталяваць у сябе школу з тым, каб далейшае ўтрыманьне яе ўзяла на сябе ўлада.

Такім чынам, аб адзінаццатым годзе Юзік паступіў у школу. У першы год набралося вучняў чалавек з дваццаць, у тым ліку толькі адзін з вёскі. Пазьней, калі Юзік быў у старэйшай групе, вяскоўцаў было шэсьць чалавек, хоць наогул у вёсцы дзяцей вучнёўскага ўзросту павінна было быць чалавек пяцьдзесят.



Дзяўчынак-жа з вёскі ня было аніводнай. Дый з маёнтку дзяўчынак было мала; павучацца гады са два і на гэтым канчаецца навука.

Наогул трэба сказаць, што ў школе навучаліся толькі „простыя“ дзеці. Больш-менш заможныя вучылі дзяцей у нейкіх „гімназіумах“, у павятовым горадзе. Там навучаліся дзеці аконама, бухгальтара, загадчыкаў бровару, малочнай і г. д. А дзеці самога пана выхоўваліся ўжо ў Варшаве.

„Навучыцелькай“ была прызначана маладая, жвавая і прыгожая паненка. Калі вучням не давалася польская грамата, настаўніца злавала, тупала нагамі, білася, нават плакала.

З першых-жа дзён з мястэчку пачаў прыяжджаць на закон божы ксёндз. Ён таксама быў малады, белы, пульхны. Ён здаваўся такім мяккім, добрым, але з вучнямі быў суровы. Калі вучань ня вывучыў малітвы, дык ксёндз ставіў яго на калены перад абразом і ня пускаў да таго часу, пакуль той ня вывучыць.

Затое з навучыцелькай яны добра пасябраваліся; сьмяяліся, жартавалі. Бывала задасьць вучням зубрыць „Ойчэ наш“, а сам у настаўніцы сядзіць. Дзякуючы гэтаму, ён пачаў езьдзіць часьцей, чымся трэба, а вучням ад гэтага бадай кожны дзень трэба было вучыць абрыдлы закон божы.

Праз некаторы час нешта такое здарылася, што і навучыцелька паехала і ксяндза зьмянілі. Зьявіўся новы настаўнік, таксама малады, але паважны, сур‘ёзны. Асабліва злаваў ён, калі хто ўжываў беларускае слова.

— Што за хамскае слова — „трэба“?! — крычаў ён. — Калі вы навучыцеся казаць па-людзку: „тшэба“! „тшэба“!

Юзік лепш уладаў польскай мовай, таму мала цярпеў. А іншым было дрэнна, асабліва вясковым

Настаўнік быў вельмі „культурны“ чалавек: задаваўся горш за самога пана Загорскага. У часе заняткаў увесь час сачыў, каб не дакрануцца сваім гарнітурам да сьценкі, дошкі, парты, вучня; улетку насіў пальчаткі, вучняў біў ці лінейкай, ці кнігай, ці чым-небудзь іншым. Калі аднаго разу, раззлаваўшыся, ён адцягаў вучня голымі рукамі за кучмы, дык потым на працягу доўгага часу ня мог даравацъ гэтаму вучню, што той вымусіў настаўніка запаскудзіць свае рукі.

Новы ксёндз таксама быў горшы за першага. Стары, тоўсты, з круглай, голай, бы гарбуз, галавой. Ніяк яму нельга было дагадзіць, увесь час ён бурчэў і злаваў. Ён прымушаў вучыць напамяць ня толькі розныя малітвы, але і некаторыя свае ўласныя выразы.

„Кожны чалавек павінен быць у тым стане, які яму прызначыў бог“ ці:

„Найвялікшы грэх—зайздрасьць да чужой маемасьці“.

І вучні ўсёю клясаю паўтаралі гэтыя мудрыя словы.

Тут-жа ксёндз тлумачыў, што багацьце ёсьць вялікае няшчасьце для душы і што сам пан бог Езус хрыстус казаў:

„Лягчэй вярблюду праціснуцца праз ігольнае вушка, чымся багатаму трапіць у рай“.

— Значыцца, усе нашыя паны трапяць у пекла?— зьдзіўлена запытаўся вучань Максімка.

Ксёндз аж подскочыў.

— Цо? Цо? Хто гэта?—грозна крыкнуў ён.

Вучні зашыліся ў свае парты.



Праз хвіліну ксёндз, відаць, зразумеў, што пытаньне было слушнае і пачаў тлумачыць, што гэта залежыць ад таго, як хто будзе скарыстоўваць сваё багацьце; калі ён будзе даваць грошы на бога, у касьцёл, тады зусім іншая справа. Але ў кожным разе тыя, што ня маюць маемасьці, хутчэй трапяць у рай.

Тут Юзік успомніў словы свайго бацькі, што ў Савецкай дзяржаве ніхто ня мае маемасьці, і падумаў: „Вось дзе, мусіць, шчасьлівы, сьвяты народ,— усе трапяць у рай“.

Але, на вялікае дзіва, ён далей пачуў:

— Чорт заўсёды пільнуе, каб загубіць душу чалавека. Ён часта падбухторвае людзей ісьці супроць бога. Часам ён праз сваіх слуг зьбівае з правільнага шляху ўвесь народ. Так, у нашых суседзяў, Савецкай краіне, чорт усіх людзей адбіў ад бога і падначаліў сабе. Бог адступіўся ад гэтага народу і пакінуў яго. Гэтая краіна ўжо цяпер зьяўляецца пеклам.

Усе людзі там — рабы, жывуць у грахох, наругаюцца над богам, моляцца чорту, душаць адзін аднаго, галадуюць. Бог дапусьціў гэта дзеля таго, каб паказаць усім іншым людзям, да чаго можа давесьці бязбожжа. Мы павінны радавацца і дзякаваць богу, што ён дапамог Польшчы выратаваць хоць палову Беларусі з-пад улады чарцей-бальшавікоў. І заўсёды мы павінны маліцца богу, каб ён дапамог вызваліць і рэшту нашых братоў.

Юзік падумаў аб сваім дзеду, які там цяпер пакутуе і гіне. Уявіў сабе, як усе людзі там, узяўшыся за рукі, скачуць і славяць чорта. Але і гэты тоўсты чужы ксёндз ня вабіў да сябе. Усе яго паводзіны і словы нейкія халодныя, няпрыемныя, няшчырыя. Гаворыць ён ім, глядзіць, а сам, здаецца, і ня бачыць іх. Ды і ўся яго навука нейкая блытаная,

супярэчная, нудная. Здаецца, такія важныя рэчы гаворыць, а слухаць ня хочацца.

Куды цікавей было-б зірнуць хоць адным вокам на той цікавы бязбожны народ. Што-ж там такое, нарэшце, робіцца? Як там людзі жывуць?

Вера наогул Юзіка ня цікавіла. Бацькі лічыліся праваслаўнымі і навучылі яго нейкім малітвам, якія час-ад-часу і прымушалі мармытаць. Складаліся яны з нейкіх незразумелых чужаземных слоў, сэнс якіх быў невядомы ня толькі Юзіку, але і самім бацьком:

„Матка боска, прыснадзева, плод чрэва твоего, хлеб наш насушны (відаць, сушаны), прыпанцыцкім пілаце"...

Крыху больш зразумела вучыў ксёндз:

„Ойчэ наш, ктуры на небе".

Але ад усяго гэтага ў галаве Юзіка стварылася такая каша, што ён зусім махнуў рукой на ўсю гэтую справу. Кожная лекцыя закону божага была для яго пакутай. Тое самае было і для яго таварышоў, асабліва вясковых. Праваслаўных прымушалі вывучаць каталіцкі закон божы таму, што ў ваколіцы зусім ня было папа.

— Бог адзін для ўсіх,—казалі ксёндз і настаўнік.— Калі хто зусім ня будзе вывучаць закону божага, той будзе шкодным чалавекам у дзяржаве і ня знойдзе сабе месца ў жыцьці. Такому і ў школе ня можа быць месца.

На гэтай падставе нават адзін яўрэй, Мотэль, вывучаў у ксяндза закон божы. Ён так шпарыў „Ойчэ наш", што ксёндз толькі задаволена ўсьміхаўся і гладзіў сабе жывот.

— Маладзец, Мотэль! Гэта табе ніколі не пашкодзіць.



Гэты Мотэль, сын рымара, быў жвавы, спрытны хлопец. Юзік любіў яго за вясёласьць і шчырую таварыскасьць. Дзеці дробных служачых, майстраў, адносіліся да яго з пагардай; нават настаўнік папікаў яго, што ён яўрэй. Затое тыя, хто падыходзіў да яго па-таварыску, хутка пераконваліся, што ён зьяўляецца лепшым сябром.

— Навошта-ж ты вучыш гэты закон?—спытаўся яго Юзік.—Што скажуць твае бацькі?

Мотэль весела зарагатаў.

— Бацька сьмяецца таксама, як і я. Ён даўно ўжо не прызнае ніякіх багоў, ні сваіх, ні чужых. А мне проста цікава пацешыць гэтага кабана-ксяндза.

Юзіку адразу зрабілася лягчэй на сэрцы. Ён увесь час адчуваў сябе зьвязаным, заблытаным гэтай справай. Ён усёй сваёй істотай адчуваў тут нейкую недарэчнасьць, але самому яму яшчэ нехапала сьмеласьці скінуць путы. Цяпер ён убачыў, што справа вырашаецца проста, што ёсьць людзі, якія вызвалілі сябе ад гэтага павуціньня і, ня гледзячы на гэта, застаюцца такімі самымі, як і ўсе, нават лепшымі за іншых.

Адно толькі пытаньне трывожыла яго: Мотэль з бацькам яўрэі, а вера іх, як усе кажуць, несапраўдная, горшая; чаму-ж ім і не адмовіцца ад яе? Авось, каб пагутарыць з хрысьціянінам, напрыклад, з Антэкамі.

І вось ён выбраў зручны момант і падступіўся да Антэка.

— Слу... слухай,—пачаў Юзік, засаромеўшыся,— ці верыш ты ў бога?

Антэк зьдзіўлена зірнуў на яго і засьмяяўся.

— Што гэта табе прышло ў галаву? Навошта гэта табе ведаць?

— Ды так... Мы з Мотэлем гаварылі. Ні ён, ні яго бацька ня вераць.

— Але-ж яны яўрэі. У іхнюю веру нельга верыць.

Антэк ужо зусім пакаціўся ад сьмеху.

— А ты думаеш, ксяндзоўская вера лепшая?—сказаў ён, але зараз-жа схамянуўся, зрабіўся сурёзным і сказаў.—Гэта я так сабе сказаў, сам я гэтай справай ня цікаўлюся і нічога не магу табе сказаць. Кожны хай сам сабе думае, як хоча.

— Але ўсё-ж такі, як ты сам глядзіш на гэта?—настойваў Юзік.

Антэк палажыў яму руку на плячо.

— Відаць, ты добры хлопец,—прамовіў ён ласкава,—але я не магу табе нічога сказаць. Памятаеш, як бацька тады казаў, каб я цябе не чапаў?

— Я-ж сам пытаюся.

— Усяроўна. Мае словы да цябе не падыходзяць. Бацька даведаецца—бяда будзе.

— Я яму не скажу.

— А калі прагаварышся?

— Ані ў якім разе!—горача ўскрыкнуў Юзік.

— Ты ўпэўнены?—усьміхаючыся, сказаў Антэк.

— Магу паклясьціся, чым хочаш!—цьвёрда сказаў Юзік.

Антэк памаўчаў, падумаў. Відаць было, што яму хочацца сказаць, але нешта ўстрымлівае. Нарэшце, наважыўся.

— Вось што я табе скажу: у гэтыя рэлігійныя забабоны ніхто з сьвядомых людзей ня верыць. Мусіць, і сам пан і нават ксёндз.

— Чаму-ж тады нас вучаць?!—ускрыкнуў Юзік.

— А што яны гавораць? Каб бедны чалавек цярпеў, ня імкнуўся да лепшага, слухаўся паноў, быў задаволены сваім лёсам, што бог гэтак патрабуе. Так?



— Так.

— Ну дык цяпер і сам зразумець можаш, чаму яны так навучаюць. Бо каб уся бедната вызвалілася ад гэтых рэлігійных ланцугоў, дык даўно ўжо прагнала-б усіх паноў і ксяндзоў, як гэта зрабілі ў Савецкім Саюзе. Вядома, яны павінны дурманіць людзей, каб утрымаць сваё панскае становішча. Колькі табе гадоў?

— Дванаццаць.

— Гэтага ўжо даволі каб зразумець. А падрасьцеш—усё ясна будзе. Толькі памятай, не прагаварыся перад бацькам. Я яму абяцаў, што ня буду табе нічога казаць.

— Чаму?

— Вольныя і разумныя думкі ў нас выказваць небясьпечна. За адно гэта могуць пасадзіць у турму. Вось бацька твой і баіцца гэтага. Вось чаму і ты павінен маўчаць. Ну ідзі, а то заўважаць.

З гэтага часу Юзік пачаў глядзець на сьвет зусім іншымі вачыма. Праўда, агульнага становішча ён не разумеў, у якім грамадзкім жыцьці разабрацца ня мог, зусім мала меў ведаў наогул,—але добра было ўжо тое, што пачаў вызваляцца ад рэлігійнага дурману. Нельга сказаць, каб гэта сталася адразу: ад такога павуціньня вызваліцца нялёгка. Але ён стаяў на верным шляху і з кожным днём адчуваў, як яму ўсё лягчэй і лягчэй робіцца, як зьнікае боязьнь перад рознымі таемнымі рэчамі, як сьмешнымі робяцца ўсе гэтыя байкі пра бога, чорта, анёлаў і розных духаў.

Значна лягчэй яму было вылечыцца ад гэтай хваробы яшчэ і таму, што з ім быў Мотэль. Весела было ім падміргваць адзін аднаму і з сур'ёзным выглядам расказваць ксяндзу, як бог дужаўся з

нейкім там Якубам, як тры хлопцы хадзілі сабе і сьпявалі ў распаленай печцы, як чорт вадзіў хрыста і г. д.

Да іх далучыліся і вясковыя хлопцы, якім лягчэй было пазбавіцца веры таму, што яны да гэтага часу ня бачылі папа, ні ксяндза. Нават двое хлапцоў з польскіх сямействаў падтрымлівалі нашых таварышоў.

Такім чынам, пад носам у ксяндза стварылася ячэйка бязбожнікаў, якая зьдзеквалася з яго навук, а яму і ў думку не магла прысьці такая рэч, бо бязбожнікі адказвалі яму часам лепш за „божнікаў".

Шкадавалі толькі хлопцы на тое, што ксяндзу нельга было ставіць ніякіх запытаньняў. Ён страшэнна тады злаваў і пагражаў усялякімі карамі. У гэтых справах развражаць нельга было; тут трэба было толькі завучваць словы і адказваць, як папуга.

Другая навука, якая займала такое самае месца, што і закон божы, была гісторыя. Яе выкладаў настаўнік. Гэта навука была трохі цікавей за закон божы, але, нарэшце, і яна абрыдала, бо трэба было ведаць усіх польскіх каралёў за тысячу гадоў. Калі хто жыў, што рабіў, што казаў, што еў, як сядзеў, як глядзеў.

Трэба было ведаць, як Пяст, сын Попела, у 861 годзе сам араў зямлю. Як Мешка, дзякуючы сваёй жонцы Домброўцы (а яна была сястрой караля чэскага Балясклава II) прыняў каталіцтва і прымусова ахрысьціў свой народ. А потым быў Баляслаў Сьмелы, які ледзь не заваяваў увесь сьвет. У горадзе Гнезьне (Познань) былі ўжо тады мошчы сьвятога Войцэха, да якога прыяжджаў на багамаленьне рымскі імпэратар Отон III і за гэта каранаваў Балясклава сваёй каронаю. А сын Балясклава—Мешка II—сварыўся з сваімі братамі Бяспрымам і Отонам. А сыны Мешкі—Баляслаў і Казімір—таксама сварыліся паміж сабой. А сын Казіміра—Баляслаў—уласнымі рукамі забіў біскупа Станіслава (у 1079 г.). Пасьля яго каралём польскім быў Уладыслаў (ад 1080 да 1102 года) але яго прагнаў родны сын яго, Баляслаў Крывавусты (ад 1102 да 1139 года). А ў гэтага Балясклава Крывавустага было пяць сыноў: Уладыслаў, Баляслаў Кучаравы, Мешка Скоры, Генрых і маленькі Казімір. Яны таксама сварыліся паміж сабой. Па чарзе яны ганялі адзін аднаго і царствавалі над Польшчай. Нарэшце і апошняга з іх, Мешку Старога, прагнаў Казімір II Справядлівы (для ксяндзоў). Пасьля яго сьмерці (у 1114 г.) каралямі зрабіліся два яго сыны разам, але той паганы Мешка Стары прагнаў абодвых сыноў, таксама разам (у 1200 годзе). Калі ён памёр (у 1202 г.), каралём зрабіўся сын яго Уладыслаў Тонканогі, але ён пасварыўся з арцыбіскупам гнезьненскім і біскупам кракаўскім—і тыя яго прагналі і высунулі каралём Лешк уБелага (1206—1227). Але, нажаль, яго забіў Сьвятаполк Паморскі; аднак удава Лешкі, з сынам Баляславам Саромлівым, ашукалі Сьвятаполка і перадалі Польшчу Генрыгу Барадатаму, а ад яго Польшча перайшла да сына яго, Генрыха Набожнага, якраз у 1239 годзе. Але Баляслаў Саромлівы ня спаў у шапку і, як толькі памёр Генрых Набожны, зараз-жа аўладаў Польшчай і кіраваў аж да 1278 г. Вельмі хітры быў кароль Уладыслаў Лакетка; ён выдаў дачку сваю Альжбету за Робэрта, караля вэнгерскага, а сына Казіміра ажаніў з Альдонай, дачкою літоўскага караля Гэдыміна. Дзякуючы гэтаму ён пратрымаўся аж да 1333 году. Сына яго, Казіміра, назвалі Вялікім за тое, што ён шмат ваяваў і прадаў немцам Добжынскую зямлю за 8000 коп

прускіх грошаў. Але ён памёр, не пакінуўшы сына; таму, пасьля доўгіх меркаваньняў, Польшчу аддалі Ядвізе, дачцы Альжбеты, якая была жонкай Людовіка, сына Кароля-Альбэрта.

Вось якую гісторыю трэба было вывучаць вучням Польскай рэспублікі!

А гэта яшчэ толькі палова гісторыі, да 1384 году. Колькі яшчэ такіх самых падзей ідзе далей.

Здавалася, што на сьвеце нікога ня было апрача каралёў, і што яны забіралі, перадавалі, мянялі, прадавалі дзяржаву, нібы свайго каня. А як жыла рэшта народу, у якіх умовах, як разьвівалася грамадзкае і культурнае жыцьцё,—аб гэтым ня было ані слова.

Больш цікавымі для Юзіка былі падзеі 1914—1918 гадоў. Расійская рэволюцыя, стварэньне польскай дзяржавы. Але мала карыснага можна было пазнаць у школе аб гэтых часох, бо гутарка ўвесь час ішла галоўным чынам аб Пілсудзкім: які ён быў вялікі чалавек, як ён ратаваў айчызну ад бальшавікоў, як ён жыў, што ён любіў, куды езьдзіў і г. д.

Юзік прагнуў даведацца больш дасканала аб падзеях і жыцьці ў суседняй Савецкай дзяржаве, але так нічога і не даведаўся, апрача таго, што там жывуць бязбожнікі і пакутуюць, бы ў пекле, ды яшчэ імкнуцца загубіць усіх іншых добрых людзей на сьвеце.

Закон божы і гісторыя складалі бадай усю школьную навуку, і іншых ведаў вучні атрымалі зусім мала.

Юзік заахвоціўся чытаньнем кніг, але і тая невялікая колькасьць кніг, якая была ў школе, таксама складалася большасьцю з боскіх. Больш цікавымі былі гістарычныя. Ён перачытаў усе кнігі Крашэўскага, Сянькевіча, Ожэшкі, Канапніцкай. Асабліва спадабалася кніга „Агнём і мячом“ Сянкевіча. Польская шляхта там была такая сумленная, геройская, і каралі ўсё добрыя. Больш за ўсіх застаўся ў памяці нейкі Подбіпэнта, які ўсё стараўся на вайне адным махам сьсячы тры галавы. І здолеў, нарэшце!



Пад уплывам такіх кніг Юзік зусім забыўся аб сучасным жыцьці, аб таемных учынках Антэка і нават аб Савецкай краіне і сваім дзеду.

## 5 АСЬВЕТА ПАЗАШКОЛЬНАЯ

Аднаго разу Максімка, вясковец, пасьля лекцый паклікаў Юзіка, завёў у кут і, азіраючыся па баках, вынуў нейкую скамячаную паперку.

— Вось паглядзі,—шапнуў ён таемна.

Гэта быў кавалак друкаванай жаўтаватай паперы нібы старой газэты. Юзік узяў, паглядзеў, але прачытаць ня мог: літары былі незнаёмыя.

— Па-якому гэта напісана? Я не разумею.

— Па-нашаму-ж, па-беларуску! — зьдзівіўся Максімка.

Юзік павінен быў прызнацца, што па-беларуску чытаць ня ўмее.

— Пачытай ты,—сказаў ён.

Максімка шэптам пачаў чытаць:

*Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!*

**Да ўсіх працоўных Заходняй Беларусі.**

Таварышы! Блізіцца час, калі працоўная бедната сапхне з свайго карку паразытаў—паноў, капіталістаў і іхніх прыхвасьняў, калі рабочыя і сяляне самі возьмуць уладу ў свае рукі і пачнуць гаспадарыць на карысьць усіх працоўных, як гэта даўно ўжо зрабілі нашыя браты на Ўсходзе.

Эксплёататары добра ведаюць, што набліжаецца іх канец. Таму яны асабліва ўзмацняюць націск на рабочых, якія ў першых шэрагах вядуць з імі барацьбу. Тысячы рабочых пасаджаны ў турмы. Але заместа іх зьяўляюцца новыя тысячы. У Лодзі, Сасновіцах, Варшаве, Кракаве і іншых гарадох адбываюцца забастоўкі, бойкі; рабочая кроў льлецца ракой.

Таварышы! Няўжо-ж мы будзем маўчаць? Няўжо-ж мы не дапаможам ім?

Працоўныя Заходняй Беларусі! Памятайце, што там, у Польшчы, рабочыя палякі змагаюцца з тымі самымі панамі, якія тут ссуць вашу кроў. Памятайце, што яны змагаюцца і за ваша вызваленьне ня толькі ад уціску экономічнага і палітычнага, але і культурнага.

Наш абавязак прыняць удзел у гэтым змаганьні. Організуйцеся, выступайце супроць прыгнятальнікаў. Кожны ўдар па пану на Ўсходзе адаб'ецца на капіталісьце на Захадзе.

Хай жыве саюз працоўных усяго сьвету! Хай жыве сусьветная рэволюцыя! Хай жыве сусьветная комуністычная партыя, правадыр пролетарыяту ўсіх краін!

*Комуністычная Партыя Заходняй Беларусі.*

— Адкуль ты ўзяў гэта?—спытаўся Юзік.

— Ды яна ў нас даўно па руках ходзіць,—адказаў Максімка.

Ня ўсё зразумеў Юзік, таксама, як і Максімка. Слова „пролетары“ трохі было знаёмае, а з „паразытамі“ „эксплёататарамі“ і „экономічным уціскам“ было ўжо горш. Але ўвесь зьмест, тон паперкі моцна ўразіў Юзіка. Гэтак сьмела, адкрыта пішуць! Зусім не баяцца паноў.

Зноў узяў у рукі паперку Юзік і ўбачыў дату, якая была два гады назад. Відаць гэтая старая адозва хадзіла па руках і захоўвалася, як каштоўнасьць.

Пра комуністаў Юзік чуў. Бацька казаў, што гэта тыя людзі, якія там у Расіі адабралі ў паноў зямлю, але разам, з тым устанавілі нейкі незразумелы парадак, ці лепшы ці горшы—бацька і сам ня ведаў.



Ад ксяндза і настаўніка Юзік таксама чуў пра комуністаў, але тут яны здаваліся злодзеямі, бязбожнікамі, бандытамі. Яны яшчэ завуцца бальшавікамі.

Юзік не даваў веры словам ксяндза і настаўніка; ён больш верыў бацьку, які сам бачыў комуністаў. Але і бацька нічога дакладнага і дадатнага ня мог сказаць.

У кожным разе ў Юзіка складалася ўражаньне, што гэтыя комуністы жывуць толькі ў Савецкім Саюзе. І вось цяпер ён бачыць, што яны ёсьць і ў Заходняй Беларусі і, відаць, у Польшчы.

Дзе-ж яны? Якія яны?

— А ты бачыў хоць аднаго комуніста?—запытаў Юзік у Максімкі.

— Не,—адказаў той.—Але можна было-б паслухаць іх.

— Якім чынам?

— А каб зрабіць самім радыё, тады можна было-б паслухаць, што гавораць з Менску.

— А ты ведаеш, як зрабіць?

— Не. А ты?

— Таксама. Але гэта няхітрая справа. Трэба паглядзець у кніжку ды здабыць матэрыялы.

— Кніжку можна дзе-небудзь дастаць, але дзе ўзяць грошай?—паскроб патыліцу Максімка.

— Гэта, кажуць, нядорага каштуе. Некалькі злотаў павінна хапіць.

— Я аніводнага граша не магу дастаць,—панура сказаў Максімка.

— Я таксама. Але змайструем самі. Якую-небудзь раду знойдзем. Прыладжваць будзем у цябе, бо ў нас няма як: усё на вачох.

— Добра!—згадзіўся Максімка.

— А тымчасам пакажы мне літары, — сказаў Юзік, — я таксама хачу навучыцца чытаць. Ты мне напішы пад гэтымі літарамі польскія, і я сам вывучуся.

Максімка напісаў, і Юзік узяў паперку сабе.

— Толькі глядзі, каб ніхто ня бачыў, — папярэдзіў Максімка, — а то трапім мы ўсе ў бяду.

— Ня бойся! — з гонарам адказаў Юзік, успомніўшы Антэка. — Ня першы раз маўчаць.

Як-бы там ні было, Юзіку ўжо пайшоў чатырнаццаты год, і ён мог разумець, што гэта — сур'ёзная справа.

Ён палажыў паперку ў кніжку і вучыў сабе яе дома, бы лекцыі, на вачох у бацькоў. Ды каб бацькі і ўбачылі, яны-б нічога не зразумелі, бо бацька, як мы ведаем, быў няпісьменны, а маці таксама ня ведала беларускіх літараў.

Для пісьменнага чалавека вывучыць чужыя літары і навучыцца чытаць нічога ня варта. Уся справа толькі ў тым, каб разумець тое, што чытаеш. А як гэта была яго родная мова, дык Юзік праз некалькі дзён зусім аўладаў беларускай граматай.

Затое-ж і вывучыў ён гэтую проклямацыю! Напамяць ведаў ад слова да слова.

На другі дзень ён зьвярнуўся да Мотэля.

— Ты ведаеш, як зрабіць радыё?

— Трохі ведаю. А што?

Юзік схіліўся да вуха Мотэля і прашаптаў:

— Мы хочам паслухаць, што гавораць з Менску.

У Мотэля аж вочы заблішчэлі.

— Дзе? Як? Хто? — пасыпаліся пытаньні.

— Мы з Максімкам. У іх на вёсцы. Хочаш далучыцца да нас?

— Вядома! — адказаў Мотэль.



Праз некалькі дзён хлопцы мелі кніжку, трохі дроту, некалькі шрубаў і капітал у два злотых. Галоўным інжынэрам адразу зрабіўся Мотэль; падзяліў працу, даў кожнаму заданьне, адным словам, наладзіў вытворчасьць так, што справа была хоць і марудная, але пэўная.

Пры такіх адносінах з Мотэлем, Юзік, вядома, ня мог утоіць ад яго справу з проклямацыяй. З вялікай таемнасьцю і ўрачыстасьцю адкрыў ён свой сакрэт.

Але, на дзіва, Мотэль аднёсься да гэтага зусім спакойна.

— Ведаю, — сказаў ён, — сам чытаў, нават польскія.

— І польскія! — ускрыкнуў Юзік.

— І яўрэйскія, — дадаў Мотэль.

— Адкуль ты ўзяў?

Тут ужо і Мотэль устрымаўся.

— Бачыш, гэтага сказаць я не магу.

— Чаму-ж? — пачаў прасіцца Юзік. — Я-ж табе сказаў.

Мотэль падумаў крыху.

— Гэтая справа сур'ёзьней за тваю, — прамовіў ён.

Юзік скрыўдзіўся,

— Ня думаў я, што ты такі таварыш, — буркнуў ён.

— Ну добра! — наважыўся Мотэль. — Я бачыў гэта ў бацькі. А ён ня ведае, што я бачыў.

— Можа, твой бацька сустракаецца і з камуністамі? — пацікавіўся Юзік.

— Сустракаецца.

— Ну? Дзе? — аж падскочыў Юзік.

— Тут.

— А можа і ты сам бачыў камуніста? — дапытваўся Юзік.

— Бачыў,—спакойна адказаў Мотэль.

— Сапраўднага? Жывога?

— Зусім жывога і здаровага,—засьмяяўся Мотэль.

— Хто-ж гэта?

— Гэта, браце мой, зноў вельмі сур'ёзная справа.

— Ды чаго-ж ты зьдзекуешся!—ледзь не заплакаў Юзік.—Няўжо-ж яшчэ ня ведаеш мяне?

— Ведаю,—сур'ёзна сказаў Мотэль,—але ведаю таксама, што выказаць чалавека самае вялікае злачынства.

— А ці ты чуў, каб я дзе-небудзь казаў непатрэбнае?—задзёрыста сказаў Юзік.

— Ня чуў. Таму з табой і размаўляю. Ну дык вось: камуніст гэты—Антэк.

— Антэк?!—ускрыкнуў Юзік.

Мотэль спалохана азірнуўся і штырхануў Юзіка кулаком у бок.

— Ціха, ты чорт!—прасіпеў ён.—Прыдзецца пашкадаваць, што сказаў дурню.

— Шкадаваць ня будзеш,—адказаў Юзік і расказаў Мотэлю размову Антэка з бацькам, нейкую таемную справу пад малатарняй і сваю гутарку з Антэкам.

— Бачыш, што я ўмею трымаць язык за зубамі—скончыў ён.—Аб гэтым я нікому, ні бацьку, ні матцы не казаў. Нават і табе да гэтага часу.

— Гэта добра,—з задавальненьнем сказаў Мотэль.

— Але адкуль ты ведаеш усё гэта?—спытаўся Юзік.

— Я некалькі разоў чуў іхнія размовы.

— Можа, і твой бацька комуніст?

Мотэль зноў азірнуўся навакол.

— Думаю, што так,—прашаптаў ён.



— А мой бацька нават быў у Савецкім Саюзе, дый то застаўся нейкім такім, што ад яго трэба хавацца з гэтымі справамі,—сумна прамовіў Юзік.

Пасьля гэтай размовы Юзік нібы пастарэў гады на два, зрабіўся больш сур'ёзным, удумлівым і пачаў нават ганарыцца перад сабой, больш сябе паважаць: вось які ён! Ведае такія важныя рэчы і нікому не гаворыць.

Хоць усе тры хлапцы працавалі разам, але Юзік з Мотэлем не адважваліся казаць Максімку тое, што казалі яны адзін аднаму.

Затое Максімка быў больш шчырым. Ён сказаў, што яго старэйшы брат Язэп і яшчэ адзін дзяцюк некуды зьніклі з вёскі. Ніхто ня ведае, куды яны дзеліся, але Максімку ведама, што яны ўцяклі ў лес, дзе зьбіраюцца атрады партызанаў супроць паноў.

Праз некаторы час Юзік сам знайшоў пракламацыю каля свайго дому. У ёй таксама сьмела і бадзёра заклікалі працоўны народ да барацьбы з буржуямі. Нельга сказаць, каб Юзік адчуваў нянавісьць да паноў. Паны, як паны: жывуць сабе ў палацах— і ўсё. А батракі, вядома, працуюць—як-жа ж іначай? Калі пан гоніць іх з свайго саду, таксама нічога дзіўнага няма,—вядома, сад панскі. Сам бацька кажа, што пан добры.

Гэтыя пракламацыі вабілі і цікавілі Юзіка сваёй таемнасьцю і сьмеласьцю; яны былі падобныя да тых геройскіх гісторый, якія ён любіў чытаць. І ён хацеў-бы прыняць удзел у гэтых справах таксама, як і ў кніжных падзеях.

Ён пабег да Мотэля. Той прачытаў і кажа:

— Навошта нам хавацца з ёй? Мы яе знайшлі на вуліцы і ніхто за гэта ня можа нас абвінаваціць.

Перадавай, чытай другім, хай цешацца добрыя людзі. Давай я гэта зраблю.

— Не, я сам! — не згадзіўся Юзік.

І ў той-жа дзень ён прачытаў яе бацьком.

Божа-ж мой, божа! — уздыхнула маці. — Што на сьвеце робіцца?

— Дзе ты яе ўзяў? — накінуўся на яго бацька.

— Ды тут ля нашага дому знайшоў.

— Давай яе сюды! За такія рэчы ў турму пасадзяць нас усіх. Калі другі раз знойдзеш, дык зусім не чапай. Гэта цябе не датычыцца.

І бацька парваў паперку на дробныя кавалкі.

Так і скончылася Юзікава пропаганда.

Аднаго разу хлапцом трапіла ў рукі цэлая беларуская газэта.

— Вось дзе, мусіць, шмат цікавага напісана! — сказаў Максімка. Схаваліся і пачалі чытаць. Даведаліся, што маршалак Пупскі абедаў у француского пасла Хлусье, што ў Варшаву прыехала нейкая італьянская артыстка Макароні, што ў Вільні адбылося ўрачыстае набажэнства з удзелам варшаўскага біскупа, што ў Амэрыцы, Англіі, Францыі нейкія міністры нешта такое сказалі.

Хлопцы чакалі, што тут будзе шмат чаго задзёрыстага, як у тых проклямацыях, а замест гэтага бачылі нешта незразумелае і няцікавае. Яшчэ больш зьдзівіліся яны, калі прачыталі такія радкі:

„За апошнія часы зноў заварушыліся розныя злачынцы, якія імкнуцца заліць крывёю ўсю нашу краіну. Відаць, яны атрымалі новы загад і грошы з-за мяжы. Яны незадаволены тым, што беларускі народ у братэрскай Польшчы жыве спакойна, палепшыў сваё становішча і карыстаецца ўсімі выгодамі культуры“.

Хацеў-бы я, каб ты так жыў, як мы! — буркнуў Максімка.



— Але тут зусім неяк ня так пішуць, як тады, — зьбянтэжана сказаў Юзік, — хоць і па-беларуску надрукавана.

— Ды гэта-ж тыя самыя паны пішуць! — сказаў Мотэль.

— Тут-жа ж па-беларуску напісана, — паўтарыў Юзік.

— А ты думаеш беларускіх паноў няма? — горача сказаў Мотэль. — Бацька казаў, што ўсе паны складаюць адну хэўру — і польскія, і беларускія, і яўрэйскія. Бацька раз сьмяяўся з аднэй яўрэйскай газэты, якая пісала якраз таксама, як і гэтая.

Максімка і Юзік яшчэ больш зьдзівіліся.

— Няўжо-ж?! — ускрыкнулі абодвы разам.

— А што-ж тут дзіўнага? — запытаўся Мотэль.

— Ну, які-ж пан яўрэй ці беларус? — засьмяяўся Максімка. — Паны-ж бываюць толькі палякі: Загорскі, Пшэзьдзецкі, Монтвіл. А дзе-ж ты бачыў яўрэя ці беларуса?

— Няўжо-ж ты думаеш, што ва ўсёй Польшчы няма багатых яўрэяў ці беларусоў? Вазьмі хоць вашага Захара.

— Ну, які ён пан — аж пакаціўся ад сьмеху Максімка.

— Але-ж ён стаіць за паноў?

— Стаіць, бо мае ад гэтага карысьць.

— Ну, вось усе тыя, што маюць карысьць, і пішуць вось такія рэчы, — і беларусы, і яўрэі.

— Вось яно як! — задуменна прамовіў Юзік. — Ніколі гэтага не падумаў-бы. Усе бачаць і ведаюць, што паны — толькі палякі.

— Бачаць, але не разумеюць, — ганарыста адказаў Мотэль.

Абодва хлапцы выразна адчувалі перавагу Мотэля. Адразу відаць было, што яго бацька шмат чаго яму тлумачыць. А Юзік з Максімкам нічога такога ад сваіх бацькоў ня чулі.

Максімка лепш за ўсіх ведаў гаротнае жыцьцё сваёй вёскі, сам цярпеў ад такога жыцьця, адчуваў крыўду і нянавісьць да несправядлівасьці гэткага жыцьця. Але ён быў нібы ў цёмным лесе: нешта адчуваў, але нічога ня ведаў. Цяпер-жа ён шмат чаго зразумеў, значна разьвіўся і мог глядзець на сьвет зусім іншымі вачыма.

Юзік-жа ня меў ні ведаў Мотэля, ні практыкі Максімкі, зусім ня бачыў навакольнага жыцьця, а жыў з рознымі старадаўнімі польскімі гэроямі, аб якіх чытаў у кніжках. І вось цяпер ён убачыў, што на сьвеце жыцьцё ідзе зусім ня так, як ён наглядаў да гэтага часу. Што недзе ёсьць іншыя людзі, якія імкнуцца да чагосьці іншага, цікавага, справядлівага, якія клапоцяцца аб усіх бедных, якія ідуць супроць усіх паноў. Цікавей за ўсё было тое, што гэтыя людзі адчуваліся нават недзе блізка, навакол. Вось Антэк, бацька Мотэля, брат Максімкі, а там яшчэ і яшчэ. Можа побач з ім ёсьць і яшчэ шмат такіх людзей, якіх Юзік штодзень бачыць, але ня ведае, хто яны, як ня ведаў да гэтага часу пра Антэка.

Асабліва цікава было Юзіку адчуваць, што і ён мае нейкае дачыненьне да гэтай справы, ведае нешта такое, чаго іншыя ня ведаюць, і што ён нікому аб гэтым ня кажа.

Сустракаючыся з Антэкам, Юзік усяляк выяўляў да яго прыхільнасьць. З свайго боку і Антэк палюбіў хлопчыка і асьцярожна, патрохі кідаў яму ў галаву тыя ці іншыя сьветлыя думкі. Але такія моманты былі рэдкія і кароткія, бо трэба было сьцерагчыся Юзікавага бацькі, ды і наогул Антэк ня мог рызыкаваць і выказвацца больш, як можна было перад малым хлопцам.

Паступова ў Юзіка пачаў зьмяняцца пагляд на розныя жыцьцёвыя зьявы, на якія ён да гэтага часу або зусім не зважаў, або лічыў, што так яно і павінна быць. Цяпер Юзік ужо не выяўляў з вяскоўцамі, каб захапіць карову, а калі гэта рабілі без яго, дык ён абураўся і злаваў. Часьцей задумваўся аб тым, чаму ўсе навакол працуюць на пана, а той жыве сабе і нічога ня робіць. Заўважыў, што тыя, хто менш працуе—больш багаты, вельмі стаяць за пана. Адным словам, патроху пачаў разьбірацца ў жыцьці.

Але гэта былі толькі першыя крокі. У чым тут справа, як гэта робіцца і як павінна быць інакш— Юзік яшчэ ня ведаў.

## 6 СУВЯЗЬ З ДРУГІМ СЬВЕТАМ

Праца над радыё-апаратам ішла сваім парадкам. Купілі на свае два злоты трохі дроту, шрубкаў і іншых дробных частак, сяк-так зрабілі шпулю, але хутка ўбачылі, што для скончэньня апарату ім патрэбна яшчэ прынамсі дзесяць злотых, асабліва, каб набыць навушнікі.

Ужо гэтыя два злотых для нашых хлапцоў зьяўляліся вялікім капіталам, сабраць які было вельмі цяжка. Адкуль-жа ж цяпер дастаць аж дзесяць злотых?

Зьвярнуцца да бацькоў? Але-ж і тыя два злотых ледзь наскраблі ад тых-жа бацькоў, а за дзесяцьцю

злотымі і савацца няма чаго. Тым болей, што бацькам яны не казалі аб сваёй справе.

Максімка і Юзік былі ўпэўнены, што іхнія бацькі забароняць ім гэтым займацца. Мотэлеваму бацьку, мажліва, і можна было-б сказаць, але ўпэўненасьці, што ён згадзіцца, таксама ня было.

— Лепш будзе як-небудзь абыйсьціся самім,— парашылі хлопцы.

Добра было-б дзе-небудзь зарабіць, але дзе і як? Нават дарослыя ня могуць знайсьці сабе працы, а куды тут савацца дзецям.

— У мястэчку цяпер будуюць новы касьцёл,— сказаў Максімка,—з нашай вёскі некаторыя працуюць там—цэглу нагару цягаюць. Адзін злоты за сто штук атрымоўваюць.

— Мы-б жыва ўсьцягнулі тысячу штук!—ускрыкнуў Юзік.—Пойдзем.

— Так цябе і чакаюць там!—засьмяяўся Мотэль.

— Тады мы прапануем ім за дзесяць злотых звалачы дзьве тысячы, замест аднэй,—сказаў Юзік.

— Тады табе накладуць па карку тыя дзядзькі, што працуюць!—заўважыў Максімка.

— Завошта-ж?

— Каб цану ня зьбіваў.

— Вось яно як!—прамовіў Юзік.—Ні так, ні гэтак.

— Тады вось як зробім,—прапанаваў Максімка.— Я перагавару з дзядзькам Атрахімам, які там працуе, каб ён узяў нас да сябе ў памочнікі. Ён падрадзіцца на большую колькасьць цэглы, і мы будзем яму дапамагаць, нібы як сябры сям'і.

— Ці падыйдзе да сям'і „Мотэль Атрахімаў"?— засьмяяўся Юзік.

— А я проста для забавы буду дапамагаць сваім таварышом,—сказаў Мотэль.—Хто забароніць?



— Так і парашылі зрабіць.

На другі дзень Максімка паведаміў, што дзядзька Атрахім згодзен, але з умовай, што яны перанясуць за дзесяць злотых ня тысячу, а паўтары тысячы цэглаў.

— Нават і тут эксплёатацыя!—заўважыў Мотэль.

— Я-ж яму казаў,—апраўдваўся Максімка.—Але ён кажа, навошта тады яму браць на сябе лішні клопат?

— Чорт з ім! Перацягаем!—махнуў рукой Юзік.— Толькі вось як зрабіць, каб бацькі ня ведалі. Пачнуць даведвацца, чаму ды як, ды яшчэ ня пусьцяць.

— А мяне калі пусьцяць,—сказаў Максімка,—дык скажуць, каб грошы аддаў у хату.

Пастанавілі выбраць дзень і ціхенька ўцячы. А потым адказваць, каму што прыдзе да галавы.

Але як устаць гэтак рана? Бо трэба яшчэ сабрацца разам, прайсьці шэсьць кілёмэтраў і стаць на работу ледзь золак.

— Я вас разбуджу,—прапанаваў Максімка.

— Якім чынам?—сказаў Юзік.—Ты хутчэй разбудзіш нашых бацькоў, чымся нас. Хіба зусім ня спаць гэтую ноч?

— Лепш тады пакласьці ў пасьцель калючых дзядоў,—надумаўся Мотэль.—З імі не разасьпішся.

— І то праўда!—падхапіў Юзік.

Нельга сказаць, каб добра спалася на дзядох, але сваю задачу яны выканалі добра. Мусіць, было гадзіны дзьве ночы, калі Юзік высьлізнуў з хаты. Праз некаторы час далучыўся Мотэль, а там прышоў і Максімка.

Ад маёнтку да мястэчка была пракладзена дасканалая шаса. Яна ішла і далей, за мястэчка, дзе праз дванаццаць кілёмэтраў была чыгуначная станцыя. Па

гэтай шасы звычайна быў досыць жвавы рух аўтомобіляў, панскіх, паштовых, пасажырскіх.

Але ў такую раніцу аўтомобіляў было зусім мала. За ўвесь час міма хлапцоў праехала толькі два аўтомобілі, затое досыць было сялянскіх фурманак. Дапатопныя саматужныя драбіны рыпелі, грукалі таксама, як і паўсотню гадоў назад. Толькі коні былі горшыя за тыя часы, бо ня кожны селянін мог яго пракарміць. А знайсьці заработак з канём было бадай што нельга. Фабрыкі, маёнткі, нават невялікія фальваркі карысталіся трактарамі, грузавымі аўтомобілямі. Розныя перавозкі бралі на сябе падрадчыкі, якія трымалі для гэтай справы дзесяткі грузавых аўтомобіляў. Сяляне і совацца не маглі ў гэтую справу са сваімі коньмі.

Тры хлопцы пасьпелі прайсьці ўжо кілёмэтры са два, калі ззаду блiснулі першыя праменьні сонца. Туман пачаў уздымацца ўверх і адкрыў ваколіцы. Вось з правага боку паказаўся крухмальны завод; побач з ім у садзе прыгожы, як цацка, дом. Ад галоўнай шасы пайшла туды вузкая шаса з прысадамі.

А з левага боку гібела вёска. Маленькія хаткі нібы ўрасьлі ў зямлю. Большасьць іх была з саламянай страхой. Вузенькая дарожка з глыбокімі каляінамі злучала вёску з шасой. Вось едзе па гэтай дарожцы воз, хістаецца з боку на бок так, што, здаецца, вось-вось гаспадар вылеціць з калёс. Ледзь ён выехаў на шасу, як збоку наляцеў аўтомобіль. Шофэр пасьпеў спыніць яго за якіх-небудзь мэтры са два ад каня.

— Холера! Пся крэў! Галган! — пасыпалася з аўтомобіля. — Ты куды глядзіш?

У аўтомобілі сядзела двое вайскоўцаў, дзьве паненкі і нейкі важны пан з паняй.





— Паночкі! Я-ж ня бачыў! — замітусіўся селянін, аўтоматычна зьняўшы шапку і саскочыўшы з воза.

— Вачэй ня маеш, ці што? Зараз мы навучым цябе глядзець!

— Пакуль я ўзьбіраўся на шасу, вы былі вельмі далёка, — апраўдваўся сялянін, узяўшы каня за ўзьдзечку і завярнуўшы на бок.

— А дзе твой нумар?[1]) — грозна запытаўся стары пан.

— Зараз, паночку, зараз, ёсьць! — усхапіўся селянін, кінуў каня, падбег да возу і пачаў у ім поркацца. Конь зноў стаў поперак дарогі.

— Ды варушыся хутчэй, лайдак! — нецярпліва крыкнуў афіцэр.

— Зараз, зараз, паночку! — паўтарыў селянін, з роспачу цярэбячы свой воз, але ніякага нумару не знаходзіў.

[1]) Каб лягчэй было сачыць за сялянамі Заходняй Беларусі, польская ўлада загадала кожнаму селяніну мець на павозцы свой нумар.

— Можа, у цябе і ня было?—дапытваўся пан.— Можа ты наўмысьля ня выконваеш загаду?

— Далібог, паночку, ёсьць, быў, каб яго ваўкі задушылі. Вось тут прычэплены: сёньня бачыў, але ліха яго ведае...

— Ці варта марнаваць час дзеля такога глупства?—заўважыла адна паненка.

— Гэта ня глупства, проша пані!—адазваўся стары пан.—Гэта пожондак (парадак)! Кожны сумленны грамадзянін навінен сачыць за пожондкам.

— Вось кара боская!—мармытаў селянін.—І куды ён дзеўся?

— Пане Вітольд, плюньце на яго!—сказаў афіцэр.—Едзем. Гайда!

Зароў гудок, тарганўў аўтомобіль, конь кінуўся ў бок, селянін зваліўся на зямлю, воз пеpакуліўся...

— Кары на вас няма, гадаўё!—сказаў селянін, падняўшыся з зямлі.

Хлопцы тымчасам затрымалі каня і паднялі колы.

— Будзе, дзядзенька, і на іх кара,—падхапіў Мотэль, трэба толькі самім захацець.

— Бач ты, які знайшоўся!—усьміхнуўся дзядзька з насьмешкай, але відаць было, што заўвага гэтая яму спадабалася.

Хлопцы нарыхтаваліся былі ўзяцца за агітацыю, але дзядзька сеў на воз і запытаўся.

— Вы куды? Можа падвезьці?

— Мы ў мястэчка.

— А я ў другі бок. Бывайце здаровы, дзеткі. Дзякую за дапамогу.

Хоць падобныя зьявішчы былі звычайнымі для хлапцоў, але яно ўсё-ж такі ўразіла іх. Мотэль абураўся, лаяў усіх паноў на сьвеце, пагражаў рэволю-



цыяй. Максімка глядзеў на сьвет безнадзейна, але нянавісьць яго была нават мацнейшая. А Юзік разважаў наогул ды ўяўляў, як гэта ў Савецкім Саюзе жывуць без паноў.

— Можа, дзед мой езьдзіць там на аўтомобілі, як гэтыя паны,—сказаў ён жартоўна.

— А што-ж ты думаеш?—упэўнена сказаў Мотэль.— І езьдзіць!

Над галавой загуло. Зірнулі—ляціць вялікі пасажырскі самалёт.

— Зірні, дзед твой ляціць!—засьмяяўся Максімка.

Мясцовым жыхаром было вядома, што над імі праходзіць паветраны шлях з Савецкага Саюзу. Усе прывыклі да рэгулярных рэйсаў, як да цягніка.

— Можа і так,—усьміхнуўся Юзік,—але, нажаль, я яго ня ведаю.

Вось паказалася мястэчка і рыштаваньні новага касьцёлу.

— Ня думаў я, што прыдзецца папрацаваць на карысьць бога, ды яшчэ хрысьціянскага,—са сьмехам сказаў Мотэль.

— Затое зробленыя грошы мы выкарыстаем на тое, каб паслухаць чорта,—таксама адказаў Юзік.

Шаса ішла праз мястэчка. Дамы наабапал былі вялікія, добрыя. Некаторыя ня горшыя, як у вялікім парадзе. Але побач трапляліся і зусім бедныя хібаркі. Асабліва ў бакавых завулках, якія нават былі небрукаваныя. Там капашылася яўрэйская бедната. Віселі старадаўнія шыльды: „кравец“, „шавец“, „бляхар“ і г. д., але ўсе гэтыя рамесьнікі бадай што ня мелі працы, бо фабрычная вытворчасьць давала столькі тавару,—і досыць таннага—што да саматужнікаў ніхто не зьвяртаўся. На галоўнай

вуліцы і відаць былі гэтыя тавары ў вялізных магазынах. На шыльдах былі польскія надпісы: „Варшаўскі магазын А. Завадзкага“, „Магазын начыньня М. Шнэерсона“, Мануфактурны магазын М. Сідорыка“.

Каля аднаго такога магазыну стаяў важны сівы яўрэй. Супроць яго, з шапкай у руках, худы абшарпаны селянін у шэрай сьвітцы і лапцёх.

— Пашкадуйце, паночку!—казаў ён. — Гэта-ж першы выпадак. Ну, вылічце з мяне, а то так адразу... Куды-ж я пайду?

— Не, не! Годзе ўжо—сурова адказаў яўрэй.— Што з цябе вылічыш? Ты сам ня варты той шкоды, якую можаш зрабіць па тваей нядбайнасьці. Каб яшчэ хвіліна,—загінула-б мая лепшая карова. Нам такіх ня трэба.

У гэты момант пад'ехаў аўтомобіль. Яўрэй сеў у яго і рушыў.

А дзядзька некалькі хвілін стаяў з шапкай у руках і глядзеў усьлед аўтомобілю.

— Вось ты дзівіўся,—зьвярнуўся Мотэль да Юзіка,—што беларускія і яўрэйскія газэты стаяць за паноў. А вось гэты пан чым горш за польскага? Чым яму дрэнна жывецца? Вось яны і стаяць за сучасны парадак.

Супроць такога прыкладу Юзік нічога ня мог сказаць.

Наогул трэба адзначыць, што ўсюды вельмі выразна адчуваўся падзел на багатых і бедных. Як на вёсцы, так і ў мястэчку, бадай што зусім ня відаць было так званых серадьнякоў. Або багаты,—або зусім бедны. У мястэчку, напрыклад, вылучылася чалавек дзесяць багатыроў, якія ўвесь гандаль захапілі ў свае рукі. Дробнаму гандляру няма чаго



было і думаць з імі цягацца, бо яны заўсёды маглі мець тавару і больш, і хутчэй, і танейшага і лепшага.

А тыя гаспадары, якія ў мястэчку займаліся земляробствам, ледзь маглі пракарміць сябе, а прадаваць продукты яны павінны былі таней, чымся каштавала сабе. Бо на рынку былі продукты з маёнткаў, дзе ўсё гэта выраблялася фабрычным спосабам і таму каштавала куды таней.

Да пабудовы ўжо пад'яжджалі аўтомобілі з цэглаю, цэмантам і іншымі матэрыяламі. Але сама пабудова рабілася старадаўнім спосабам, бяз ніякай машынізацыі. Бо навакол было столькі беднаты, што яна згаджалася працаваць таней, чымся каштавала-б мэханічнае абсталяваньне. Таму і цэглу насілі ўгару на сьпінах.

Максімка падвёў хлапцоў да дзядзькі Атрахіма.

— Ну, трымайцеся, шчаняты!—сказаў ён ні то сурова, ні то ласкава.

Пачалася праца. Першая гадзіна была для хлапцоў нібы гульнёй. Яны бралі з сабой цэглы больш, чымся трэба і беглі шпарчэй, чымся трэба.

— Лягчэй, лягчэй, хлопцы!—папераджаў дзядзька Атрахім.—А то хутка зморыцеся.

Але тыя і слухаць не хацелі.

Праз гадзіну яны ўжо сьцішыліся. Праз другую — працавалі мерна, павольна, праз трэцюю—канчаткова страцілі гумар і ледзь дачакаліся адпачынку. А пасьля адпачынку і зусім не хацелі прымацца за працу.

— Не, не магу!—казалі Мотэль і Юзік.—На гэты раз хопіць.

Толькі Максімка трымаўся больш бадзёра,

— Ну, яшчэ хоць гадзіну папрацуем,—угаворваў ён таварышоў.

Узяліся зноў. Патроху ўцягнуліся і працавалі яшчэ дзьве гадзіны. А далей ўжо не маглі.

— Семсот пяцьдзесят!—падлічылі яны вынікі працоўнага дня. Засталося толькі дзьвесьце пяцьдзесят.

— Не яшчэ,—сумна сказаў Максімка.—Не забывайцеся, што нам трэба паўтары тысячы.

— Хай хоць заплоціць за гэтыя,—сказаў Мотэль,—а там убачым.

Максімка падышоў да Атрахіма.

— Ці вы больш ужо ня будзеце зусім?—запытаўся той.

— Заўтра скончым.

— Ну, тады заўтра і атрымаеце грошы.

— Калі ласка, дзядзенька, дайце цяпер,—пачаў прасіцца Максімка.—Нам вельмі патрэбна.

Атрахім падумаў, пакапаўся ў кішэні.

— Ну, наце вам тры злотых,—сказаў ён.—Калі скончыце, атрымаеце ўсё.

Дахаты хлопцы ўжо ледзь валакліся. Толькі тры злотых крыху надавалі бадзёрасьці.

— Не, заўтра так рана ўжо ня пойдзем,—казалі яны і разышліся, дагаварыўшыся сустрэцца а гадзіне дзесятай-адзінаццатай.

Няпрыемна было Юзіку маніць, калі маці пачала дапытвацца, дзе ён увесь дзень прападаў. Добра яшчэ, што бацькі ня было дома. Сяк-так адбрахаўся і зараз-жа лёг спаць. Заснуў адразу і моцна праспаў да другога дня.

А калі ў вызначаны час зьявіўся Максімка, дык Юзік і Мотэль пачалі прасіцца, каб гэты дзень прапусьціць, бо адчувалі яны сябе так, нібы трапілі пад колы: і рукі, і ногі, і сьпіну—усё ламіла.



І толькі праз два дні яны адважыліся зноў пайсьці на работу.

— А за гэты час сьцены падняліся вышэй,—бурчэў дарогаю Мотэль,—нам прыдзецца лезьці куды вышэй, чымся мінулы раз.

— Але-ж затое апошні!—суцяшаў Юзік.

На гэты раз яны ўзяліся за працу больш стала, сур'ёзна. Аніводнага лішняга руху не рабілі з самага пачатку. Лічылі ня тое, колькі перацягалі, а колькі засталося.

Чатырыста пяцьдзесят...

Трыста...

Сто пяцьдзесят...

Пяцьдзесят...

І з кожнай лічбай хлопцы адчувалі сябе ўсё больш і больш бадзёрымі. А калі зьнесьлі апошнія цэгліны, здавалася, і ўся зморанасьць зьнікла.

— Ура!—заскакалі хлопцы.

Атрахім усьміхнуўся.

— Ну, наце вам вашы заробленыя чэснай працай грошы,—сказаў ён.

— А вось ты дык паклаў сабе ў кішэню пяць злотых, зусім ня чэсна заробленых,—буркнуў Юзік, калі яны адышліся.

Тут-жа ў мястэчку яны купілі пару добрых навушнікаў і пабеглі дадому так, нібы сёньня зусім не працавалі.

●

Уласна кажучы, ня было такога закону, які забараняў-бы грамадзяніну мець свой асобны радыёапарат. Але якія там грамадзяне былі нашыя хлопцы? Дый сялян з вёскі ніхто ня лічыў за грамадзян. Дзеля таго і праведзены быў ім гучнагава-

рыльнік, каб ім ня прышло ў думку мецъ уласнае радыё. За некалькі год перад гэтым быў выпадак, калі адзін дарослы хлапец захацеў быў паставіць сабе ўласны апарат і пачаў клопаты аб дазволе, але да яго так прычапіліся, што ён і сам быў ня рады.

— Дзеля чаго табе свой асобны апарат, калі побач стаіць лепшы? А? Якія такія спэцыяльныя зносіны ты маеш на ўвазе? З кім? Дзеля чаго? Нават грошай не шкадуеш. Ведаем мы ўсё гэта...

Таму нашыя хлопцы рабілі ўсё гэта патаемна. У Максімкавай пуні абралі куток, вывелі на страху дрот, а там прыладзілі дзьве жэрдкі такім чынам, каб іх лёгка было паставіць і зьняць.

Ніхто не зьвярнуў асаблівай увагі, што хлопцы, таварышы па школе, разам гуляюць. Тут Юзік упяршыню добра азнаёміўся і з вёскай, якой ён да гэтага часу зусім ня ведаў.

Чорныя старыя хаткі з саламянымі стрэхамі ледзь ліпелі. Палова з іх мела ў сярэдзіне земляную падлогу, а дзе была драўляная, дык горшая за земляную. Вокны маленькія, пазатыканыя рызьзём і паперай. Гаспадарчыя будынкі, хлявы, пуні, вядома, былі ня лепшыя. Пазагуменьнямі цягнуліся сялянскія палеткі, якія здалёк нагадвалі ўспаханую рэдкімі баразнамі суцэльную ральлю. Сапраўды-ж гэтыя барозны зьяўляліся межамі між асобнымі сялянскімі вучасткамі. Шмат гадоў сяляне дзялілі зямлю між членамі сваёй сям'і, і, нарэшце, дадзяліліся да таго, што гаспадарскае „поле“ мела 1—2 крокі шырыні.

Беднасьць вёскі вытыркалася на кожным кроку. Але-ж век быў культурны, таму мясцовая ўлада паклапацілася, каб і гэтая вёска не адставала ад веку. З абодвых бакоў вуліцы былі выкапаны раўкі для вады, а добры пан Загорскі нават даў дошак, каб сяляне зрабілі тротуары. Апрача таго, па баках вуліцы былі пасаджаны дрэвы, і кожны селянін адказваў за цэласьць іх. На ўсіх хатах былі прыбіты белыя афарбаваныя дошчачкі з нумарамі і прозьвішчамі гаспадароў.



Ва ўсёй вёсцы толькі адна Захарава хата вылучалася сваім выглядам. Вялікі добра пабудаваны дом, з ганкам, размалёванымі акяніцамі, садам, стаяў на ўзгорку і нібы панаваў над вёскай. На гэтым узгорку быў і гучнагаварыльнік. І тут-жа побач была Захарава крамка. Не зямля ўзбагаціла Захара, а яго спрытнасьць. Ён быў нібы прадстаўніком ад вёскі. Мясцовая ўлада па справах усёй вёскі зьвярталася да яго. Гандляры—таксама. Калі патрэбны былі рабочыя,—таксама зьвярталіся да Захара і той падраджаўся на працу са „сваімі“ людзьмі. Ён наймаў сялян, а тыя свой заработак пакідалі ў Захаравай краме, лепш сказаць, ня ў краме, а ў карчме, бо важнейшым таварам была гарэлка. Гэтага Захара сяляне ня любілі больш, як пана Загорскага.

Ніякай установы ў вёсцы ня было. Па ўсіх справах трэба было ехаць у суседнюю вёску, дзе была гміна (воласьць).

І вось аднаго разу замітусілася ўся ваколіца, заскакалі стражнікі, зьявіўся ў вёску войт[1]), загадаў „прыбрацца“, падчысьціць вуліцы, дзядзінцы.

Да пана Загорскага прыехаў сам міністар унутраных спраў і выказаў жаданьне азнаёміцца з падуладным народам.

На другі дзень рушыла ў Смалякі экспэдыцыя: наперадзе жандары, за імі аўтомобіль, у якім сядзелі

[1]) Старшыня воласьці.

міністар і Загорскі, за імі другі аўтомобіль з іншымі чыноўнікамі.

Ля брам вёскі стаяў „радасны народ у сьвяточным убраньні“ і вітаў уладу.

На плошчы аўтомобілі спыніліся. „Прадстаўнік сялян“, Захар, выступіў „ад імя народу“ з прамовай:

— Дзякуем яснавяльможнаму пану міністру за гонар. Дзякуем за ўважлівасьць і клопаты на карысьць народу. Мы ўсе будзем дапамагаць уладзе ва ўсіх мерапрыемствах на карысьць нашай бацькаўшчыны—Польшчы.

Міністар падзякаваў, сказаў, што ўсе клопаты ўлады накіраваны на карысьць народу, зазначыў, што ў іхняй вёсцы заўважваюцца сьляды культуры—прысады, тротуары, вадасьцёкі,—але яго дзівіць, што і ў ёй ня відаць такой простай рэчы, без якой ня можа абыйсьціся аніводзін культурны чалавек—гэта ўборных.

— Гэта-ж сорам!—скончыў ён.—У наш час, ды яшчэ ў Польшчы, такое зьявішча ганебнае. І я павінен загадаць, для вашай-жа карысьці, каб праз тыдзень усе гаспадары пабудавалі ўборныя. Адказнасьць за выкананьне ўскладаю на войта.

— Дык няма з чаго пабудаваць!—загулі сяляне.—Дошак няма, няма за што купіць. Нават падправіць хаты ня можам.

На такую рэч шмат сродкаў ня трэба,—адказаў міністар.—На гарэлку, мусіць, хапае. Адмоўцеся ад яе адзін-другі раз—і будуць сродкі.

Тут устаў пан Загорскі і заявіў:

— У адзнаку такога дня, у гонар пана міністра, я даю на гэтую справу дошкі дармова.

Захар, войт, чыноўнікі, нават сам міністар віталі гэтую заяву аплёдысмэнтамі.





— Дзякуйце яснавяльможнаму пану Загорскаму! Вялікае шчасьце маеце, што ў вас ёсьць такі вялікадушны протэктар!—урачыста сказаў міністар.

Але тут адбылося нешта такое, што сапсавала ўсю музыку. Сьцяпан, Максімаў бацька, высокі пахмурны мужчына, раптам выступіў і прамовіў:

— Шчыра дзякуем, панове, за ласку. Але мы прасілі-б яшчэ пана міністра паклапаціцца, каб прыехаў другі міністар, які даў-бы мажлівасьць выкарыстаць гэтыя ўборныя, бо нам няма з чым наведваць іх... [1])

На хвіліну ўсё навакол сьціхла...

Потым пачуўся стрыманы сьмех з аднаго боку і абураны гоман з другога.

— Хамы!—крыкнуў міністар, і аўтомобілі рушылі з вёскі.

[1]) Уся апісаная сцэна—гістарычны факт.

А на Сьцяпана накінуліся стражнікі, злупцавалі бізунамі і павалаклі ў гміну, дзе ён прасядзеў з тыдзень.

Вярнуўся яшчэ больш пахмурым, але не шкадаваў, што гэтак зрабіў. А на вёсцы доўга яшчэ рагаталі з гэтага здарэньня...

Пачыналіся першыя восенскія дні, калі хлопцы наладзілі сваё радыё. Дачакаліся цямна, залезьлі ў свой кут і пачалі прыслухоўвацца. Асабліва цяжка было разьмеркаваць два вуха на трох чалавек. Кожны раз адзін павінен быў сядзець і пакутваць, хоць мяняліся яны і часта.

— Ну, ну?—затоіўшы дыханьне, пытаўся трэці.

— Пакуль нічога...

Пакруцілі ручкі.

— Ну, ну?

— Ціха! Ёсьць!..

— Што, што? Кажэце...

— Цьфу, паганыя!—крыкнуў Мотэль.—Пра матку боску!

— Значыцца, тая самая Варшава,—з расчараваньнем сказаў Юзік.

— Ціха, ціха! Па-нямецку загаварылі!—захваляваўся Максімка, які не аднімаў тэлефону ад вуха.

Гэта было ўжо цікавей, хоць і незразумела.

Потым пачалася нейкая музыка, але адкуль—невядома. Потым тое і другое разам.

Так у першы вечар нічога і не дабіліся. Апрача таго, і доўга сядзець нельга было, каб не заўважылі.

З нецярплівасьцю чакалі наступнага вечару. Зноў чулі ўрыўкі і мешаніну з розных перадач. Потым



сёе-тое падправілі, зьмянілі ў апараце. І вось, нарэшце, пачулі беларускія словы:

„Слухайце, слухайце! Гаворыць Менск, на хвалі ў 700 мэтраў. Таварышы радыёслухачы! Слухайце далей нашу газэту:

ПЕРАХОД НА ПЯЦІГАДЗІННЫ ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ

ЦэВэКа разглядзеў і зацьвердзіў плян пераходу рэшты прадпрыемстваў на пяцігадзінны працоўны дзень. Да канца бягучага году ва ўсім СССР не застанецца ніводнага прадпрыемства з шасьцігадзінным працоўным днём. Калі ў некаторых выпадках, напрыклад, у саўгасах трэба будзе працаваць улетку больш за пяць гадзін, дык лішнія гадзіны павінны быць адлічаны ад наступных працоўных дзён. Але ні ў якім разе павялічаны працоўны дзень ня можа быць больш за восем гадзін і, апрача таго, такіх дзён у рабочага ня можа быць больш за дванаццаць у год, пры гэтым ні ў якім разе павялічаных працоўных дзён ня можа быць больш за тры адзін за адным.

НОВАЕ ПТУШНІЦКАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

У колгасе Курычы скончана пабудова птушніцкага прадпрыемства. Яно складаецца з інкубатарнага корпусу, які можа даць два мільёна куранятаў за раз, корпусу для гадоўлі куранят, корпусу для старых курэй і халадзільніку для яек. Пабудова каштавала восемнаццаць мільёнаў рублёў.

— Курычы!—ускрыкнуў Юзік.—Гэта-ж наша вёска, дзе жыве дзед!

— Ціха, ты! Не перашкаджай!—накінуліся на яго таварышы.

ДЭКРЭТ АБ ЗЬНІШЧЭНЬНІ ДЫМУ

У сучасны момант пытаньне аб зьнішчэньні дыму настолькі распрацавана і практычна падрыхтавана, што ёсьць ужо мажлівасьць поўнасьцю правесьці яго ў жыцьцё. Таму Саўнарком выдаў дэкрэт, каб у працягу году да ўсіх комінаў былі прыстасаваны ўстаноўкі для вылучэньня з дыму вугалю і докісу вуглероду, якія зараз-жа зноў вяртаюцца ў апальню, а двудокіс вуглероду ідзе на тэхнічныя патрэбы. Такіх установак, невялікіх і танных выпушчана ўжо досыць.

НОВАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Праз два тыдні будзе пушчана ў ход...

Максімка! Ідзі дахаты!—пачуўся знадворку голас бацькі.

І хлопцы павінны былі спыніць сваё слуханьне...

Максімка пабег дахаты, а Юзік з Мотэлем пайшлі ў маёнтак пазагуменьнямі.

— Курычы—гэта вёска, адкуль татка,—ня мог супакоіцца Юзік.—Але тут гаворыцца пра нейкі колгас. Што гэта такое?

— Ня ведаю,—адказаў Мотэль.—Дый наогул шмат незнаёмых рэчаў: інкубатары, саўнаркомы, цэвэка.

— А працаваць у дзень будуць толькі пяць гадзін! Нашыя бацькі па дванаццаць і болей працуюць. Няўжо-ж і пэнсія поўная?

— Вядома. Інакай ніхто не захацеў-бы працаваць толькі пяць гадзін. На тое-ж розныя машыны.

— А ў нашага пана таксама розныя машыны, а працы на ўсіх шмат.

— Бо ў нас ня ўсе працуюць. Татка казаў, што, каб усе людзі працавалі разам для сабе, тады-б усім можна было-б і яшчэ менш працаваць.

Увечары, калі бацька вярнуўся дахаты пасьля чатырнаццацігадзіннай працы, Юзік заўважыў:

— А ў Савецкай дзяржаве працуюць пяць гадзін у дзень.

Дый у нас ёсьць людзі, якія працуюць нават меней,—сказала маці,

— Не, там усе рабочыя працуюць па пяць гадзін.

— А ты адкуль гэта ведаеш?—незадаволена буркнуў бацька.

— Ды чуў... казалі...

— Ці ня Антэк?—бліснуў вачыма бацька.

— Не. Я яго і ня бачыў.

— Няма чаго квапіцца на чужыя краі,—сказаў бацька, прыстасоўваючыся да вячэры.—Ці мала што



могуць казаць? Там добра, дзе нас няма. А калі пазнаёмішся бліжэй, дык убачыш, што нідзе дарма хлеба не даюць. Вось у Амэрыцы, кажуць, таксама добра, а колькі нашых людзей паўцякала адтуль? Народу на зямлі столькі, што ўсяроўна ўсе панамі ня будуць. Лепш невялікі кавалак хлеба, але пэўны.

З нецярплівасьцю чакаў Юзік наступнага дня, каб паслухаць далей цікавыя весткі. Але ня так лёгка было зноў натрапіць. Зноў пайшлі гутаркі на розных мовах, музыка, сьпевы. Ды горш за усё тое, што чулася ўсё гэта разам.

— Нібы кірмаш які ў паветры,—казаў Мотэль.

Толькі праз дзён пяць злавілі яны яшчэ ўрывак

„савецкая ўлада ў Кітаі замацавалася канчаткова“...

А далей нічога нельга было разабраць.

Як ні хаваліся радыёслухачы, але суседнія хлопцы заўважылі. І нашыя таварышы вымушаны былі прыняць у кампанію Вінцуся, а потым і Цімоха.

Праз два дні ўдалося пачуць, што у Сасновіцах ідуць бойкі паміж рабочымі і войскам, што ў Варшаве і Лодзі зараз-жа пачаліся забастоўкі, але нейкія ППС пашкодзілі.

Разам з гэтым і сярод рабочых у маёнтку пачаліся нейкія таемныя шэпты і гутаркі.

А ўсьлед за гэтым у маёнтак прыехала дваццаць чалавек гусараў. На другі дзень пайшлі чуткі, што Антэк арыштаваны і некуды зьвезены.

Прыбег Мотэль, устрывожаны, зьбялеўшы.

— Сёньня ўначы трэсьлі нас, усё перавярнулі. Але нічога такога не знайшлі. Хацелі былі арыштаваць і татку, але чамусьці пакінулі. Мусіць таму, што зьбілі бізуном. Цяпер прыдзецца сядзець ціха-ціха, бо яны сочаць.

Як-жа ж шкадаваў Юзік, што арыштавалі Антэка! Юзік увесь час зьбіраўся пагутарыць з ім больш сур'ёзна; сказаць, што яны ўжо шмат чаго ведаюць, прызнацца, што слухалі Менск. Ён спадзяваўся, што Антэк растлумачыць усё тое, што ім было незразумелым, а можа нават дасьць якое даручэньне...

Ї вось не пасьпеў! Дый самога Антэка шкада— такі добры быў дзяцюк.

— Даўно гэтага трэба было чакаць,—сказаў бацька, пачуўшы аб арышце Антэка.—Сам вінен. Няма чаго было совацца, куды ня трэба.

Два тыдні стаялі салдаты. За гэты час і хлопцы ня зьбіраліся ля свайго радыё.

Тымчасам пачалося вучэньне ў школе. Ксёндз грымеў:

— Беражэце, дзеці, вашыя душы. Бязбожнікі-камуністы хочуць загубіць і айчызну і ўсіх добрых хрысьціян. Атрута іх прасякае ўсюды. Сачэце за усімі ворагамі, дапамагайце выкрываць іх.

Настаўнік даводзіў, што Польшча самая вялікая і шчасьлівая краіна, што ў ёй усім людзям жывецца добра, што ў ёй найлепшыя парадкі і што ўся ранейшая гісторыя яе сьведчыць аб гэтым.

Калі раней усе гэтыя гутаркі часам цікавілі Юзіка, потым нудзілі, дык цяпер ўжо Юзік адчуваў нейкую злосьць і ледзь устрымліваўся, каб не сказаць чаго-небудзь насупроць. Але ён быў у чацьвертай клясе, вучыўся апошні год і цешыў сябе, што ня доўга ўжо засталося слухаць гэтыя абрыдлыя навучаньні.

А што далей?

У пятнаццаць год Юзік мог разважаць аб гэтым больш сгала, але прыдумаць нічога ня мог. Ён адчуваў, што навакол нешта робіцца, што-ёсьць людзі



як той Антэк, якія робяць нешта пэўнае, вялікае, карыснае для ўсіх працоўных. Але што? Як?

Нават, калі дамагацца такога самага становішча як у Савецкім Саюзе, дык і то Юзік зусім ня мог сабе ўявіць, якое там становішча. Адно толькі ён добра ведаў—там робіцца нешта цікавае і нязвычайнае.

Эх, каб трапіць да дзеда!

## 7 РАЗГРОМ РАДЫЁСТАНЦЫІ

Аднаго разу жыхары вёскі ўбачылі ў сябе маладога польскага афіцэра. У бліскучым вайсковым убраньні, з цыгаркай у зубах, заламаўшы конфэдэратку[1]), ішоў ён па вуліцы і пляскаў па халявах стэкам[2]).

— Гляньце: Чэсь, Захараў сын!—дзівіліся людзі.

— Бач, якім панам зрабіўся!

— За грошы ўсюды будзеш панам.

Цяпер і не падыходзь да яго.

Але адзін ранейшы таварыш Чэся, Мікола, падышоў.

— Здароў, Чэсь!

— Добры дзень!—адказаў той лагодна, але рук не падаў.

— У госьці прыехаў?

— Трэба наведаць хату.

— Ці на доўга? Можа, зноў будзем рыбу лавіць як калісьці?—ліслива сказаў Мікола.

— Наўрад.

— Куды ідзеш?

---

[1]) Чатырохкутная шапка.

[2]) Абшыты скураю дубец.

— Ды трэба наведаць пана Загорскага,—абыякім тонам адказаў Чэсь. Крыўдзіцца будуць: два дні як прыехаў, і ня быў яшчэ ў яго.

— О!..—прамовіў Мікола ні то з жахам, ні то з надзвычайнай пашанай.

А Чэсь пайшоў далей.

І зараз-жа па ўсёй вёсцы загулі, што Чэсь пайшоў у госьці да самога пана...

Пан Загорскі сядзеў у сваім габінэце за шклянкай кавы і пераглядаў газэту. Часам званіў тэлефон.

— Варшава? Але, я. А хто гаворыць? Пан Пржэсмыцкі? Бардзо пшыемне. Так... так... вельмі рады. Дзякую пана за фатыгу. Довідзэня.

Увайшоў лёкай.

— Там да пана афіцэр прышоў.

— Які?

— Пан Купрэйчык.

— Купрэйчык? Ня ведаю такога.

— Захара з вёскі сын.

— А... Што яму трэба?

— Проста кажа, што вас жадае бачыць.

— Ну, хай ідзе.

Чэсь прыпыніўся перад дзьвярыма, паправіў свае рамяні, каўнер, кашлянуў і пераступіў парог.

Перш за усё яму кінуўся ў вочы вялізны портрэт Пілсудзкага, потым шэраг каралёў. Вялізныя шафы з кнігамі, пісьмовы стол і за ім пан Загорскі, важны, голены мужчына. Як перадавы і дзелавы чалавек, ён нават галіў афіцыйныя панскія вусы.

Чэсь стукнуў ботам аб бот і ледзь не пасьлізнуўся на бліскучым паркеце.

— Мае ошанованьне пану!—прамовіў ён, шпарка схіліўшы галаву.



— Проша,—прамовіў пан Загорскі, неахвотна падымаючыся з крэсла.—Сядайце.

— Апынуўшыся ў гэтых краёх, палічыў патрэбным засьведчыць пашану да пана,—казаў Чэсь, сядаючы ў крэсла.

— Дзякую пану. Ці надоўга да нас?

— На тыдні два.

Памаўчалі.

— Дзе пан служы?—спытаўся Загорскі.

— У семнаццатым палку.

— Так... так...,—прамовіў пан Загорскі, ня ведаючы, што далей рабіць з сваім госьцем.

Чэсь таксама адчуваў сябе неяк няёмка.

— Дзе ваш полк стаіць?—нарэшце запытаўся гаспадар.

— У Сасновіцах.

— Можа, пан прымаў удзел у апошніх падзеях?

— А як-жа ж—ажывіўся Чэсь.—Шмат палажылі мы гэтых забастоўшчыкаў.

Ажывіўся і пан Загорскі.

— Добрая рэч! Добрая рэч!—сказаў ён, паціраючы рукі.—А то, ведаеце, за апошнія часы яны надта асьмялеліся.

— Але. Кожны месяц ідуць сутычкі ў розных гарадох. Але мы з імі справімся. Плакалі маскоўскія грошы.

— Хо-хо-хо!—задрыгаў жыватом пан Загорскі і нават пaпляскаў Чэся па калене.—Добра сказана! Хо-хо-хо!

У гэты момант у габінэт увайшла прыгожая паненка, дачка пана Загорскага. Убачыўшы госьця, яна спынілася ля парогу. Чэсь устаў і яшчэ раз пляснуў ботамі.

— Знаёмцеся,—сказаў, Загорскі, — мая дачка, панна Мальвіна. Пан... пан...

— Купрэйчык,—падказаў Чэсь.

Ён узяў паненкіну руку і асьцярожна дакрануўся да яе вуснамі.

— Проша ў гасьцінную,—прапанаваў Загорскі.

Яны ўвайшлі ў багаты пакой. Вялізныя вокны, аксамітная мэбля, карціны ў залатых аправах, дываны, пальмы, мастацкія столікі з рознакаляровага мармуру, статуэткі і шмат розных дарагіх рэчаў— усё гэта так уразіла Чэся, што ён ледзь ня страціў усю сваю сьмеласьць.

Панна Мальвіна зараз-жа засыпала Чэся пытаньнямі: ці даўно ён з Варшавы? Які там цяпер тэатр? Ці бачыў ён Ягодэка ў ролі Отэлло? і г. д. і г. д.

У габінэце пазваніў тэлефон. Пан Загорскі папрасіў выбачэньня і пайшоў да сябе.

Чэсю вельмі цяжка было адказваць на запытаньні панны Мальвіны, бо ён рэдка і мала быў у Варшаве ды і ва ўсіх гэтых справах мала разумеў.

Паненка пачала траціць цікавасьць.

— Да каго вы тут прыехалі?—запыталася яна нарэшце.

— Да... бацькі...—нерашуча прамовіў ён.

— А дзе ваш бацька?

— Тут... на вёсцы...

— Кім?

— Э...э... гмм... се...селянін...

— А-а!...—працягнула паненка і ўтаропіла вочы некуды ў кут.

З хвіліну ніхто нічога не казаў. Паненка перабірала пальцамі па століку. Чэсь калупаў боты сваёй шабляй.



— Выбачайце, я на хвіліну да таты,—ускочыла панна і пабегла ў габінэт.

— Тата!—кінулася яна да бацькі.—Што-ж гэта ты нарабіў? Прыняў у дом хама ды яшчэ знаёміш яго са мной. Паглядзеў-бы хоць на яго рукі. Няўжо-ж мы да таго дажыліся, што вымушаны сябраваць з хлопамі?

— Ды ён-жа ж афіцэр польскай арміі,—апраўдваўся бацька,—ён-жа ж ваяваў за нас з бунтаўшчыкамі.

— Дзеля гэтага ён служыць і грошы атрымоўвае!—крыкнула дачка.—Няўжо-ж з кожным, хто служыць, я павінна знаёміцца? Гэтак з усімі служачымі хлопамі прыдзецца сябраваць. Ці Загорскім нехапае адпаведнага знаёмства?

— Ды ніхто ня зьбіраецца весьці з ім знаёмства. Ён зайшоў выпадкова. Няўжо-ж было гнаць яго, афіцэра польскай арміі?

— Ну, дык важдайся з ім сам!—тупнула нагой панна Мальвіна і выйшла праз другія дзьверы.

Пан Загорскі пачухаў патыліцу. Ён сам убачыў, што даў маху.

Афіцыйную гутарку, якая ні да чаго не прымушала, ён, вядома, мог мець. Але чаму было знаёміць з сям'ёй? Гэты хлоп можа ўзяць сабе ў галаву, што ёй роўны і захоча весьці далей знаёмства. Можа нават уціснуцца і тады, калі тут будуць сапраўдныя госьці. А здарылася ўсё гэта таму, што пану Загорскаму спадабаліся словы гэтага чалавека: „Плакалі маскоўскія грошы".

Пан Загорскі ў дрэнным настроі вышаў да Чэся. Той сядзеў, увесь чырвоны і лаяў сябе за тое, што так лёгка і хутка прызнаўся ў сваім пахаджэньні.

— Выбачайце,—пачаў пан Загорскі з лагоднай усьмешкай.—У панны Мальвіны разбалелася галава. Прыдзецца ўжо мне замясьціць яе, калі пана задаволіць такое замяшчэньне.

— Ня турбуйцеся, пане,—сказаў Чэсь.—Я-ж толькі на хвіліну, па дарозе. А займаць ваш час я ні ў якім разе ня маю права. Я-ж сам бачу вашу працу, сам чую бязупынны тэлефон.

— Але,—уздыхнуў задаволены пан Загорскі.— Працаваць даводзіцца за ўсіх. Нават з добрымі сябрамі пабалакаць няма часу.

Чэсь устаў і разьвітаўся. Пан Загорскі праводзіў яго аж на самы ганак.

Пахмуры вяртаўся Чэсь дахаты. Сьцебануў сваім стэкам сьвіньню, якая трапілася на дарозе. А калі той-жа Мікола зноў сустрэў яго на вуліцы і закрануў, дык Чэсь толькі буркнуў—„адчапіся“!—і пайшоў далей.

— Вось што значыць пазнаёміцца з самім панам!— прамовіў Мікола, гледзячы ўсьлед свайму былому таварышу.

Брыдкай зрабілася Чэсю і свая хата, і барадаты пузаты бацька, і простая баба—маці, і замурзаная сястрыца. Ён ня мог ім даравать таго, што яны— простыя мужыкі, што яму даводзіцца чырванець за іх.

А ў выніку ўсяго гэтага настрою ў ім замацавалася думка—дасягнуць, заслужыць стану, каб паны шанавалі яго, ня гледзячы на яго пахаджэньне, каб быць з імі, як роўны з роўным...

Жыцьцё ў маёнтку даўно ўжо ўвайшло ў сваю каляіну. Зноў здавалася, што ўсюды ціха і спакойна. Хлопцы зноў пачалі важдацца з сваім радыё.

Сядзяць у цемры, прыслухоўваюцца.

Вось чуюць аднаго разу гамонку. Бліжэй і бліжэй...



— Ці ня сюды?—прашаптаў Цімох.

Крокі спыніліся ля дзьвярэй. Пачуўся шэпт.

„Значыцца, сюды!“—мільганула думка ў кожнага з хлапцоў. Мурашкі пабеглі па сьпіне.

Вось рыпнулі дзьверы.

Блiснуў электрычны ліхтарык.

І хлопцы ўбачылі... Чэся і войта!

— Вы што тутака робіце?—крыкнуў войт.

Хлопцы—хто куды.

— Ах, вы, лайдакі!—зноў крыкнуў войт і штурхануў кулаком Максімку так, што той паляцеў на зямлю.

А Юзік адчуў, што яму апякло твар... Ускрыкнуў! азірнуўся: стаіць перад ім, усьміхаючыся, Чэсь і зноў замахваецца сваім стэкам.

— У-у гад!—віскнуў Юзік і пабег да дзьвярэй.

Мігам зьніклі хлопцы, а пераможцы без перашкод аўладалі „радыёстанцыяй“...

Мотэль і Юзік несьліся ва ўвесь дух; ім здавалася, што за імі гоніцца цэлы атрад ворагаў. Прыпыніліся толькі тады, калі пераканаліся, што ніякай небясьпекі няма.

— І чаму гэта зьявіўся яшчэ той хлюст?— дзівіўся Юзік.—Ці-ж гэта яго датычыцца? Нават Максімкавага бацьку не паведамілі.

— Мусіць, ні з кім не хацелі дзяліць гонар вялікай перамогі,—злосна сказаў Мотэль.—Пэўна будуць мець вялікую падзяку.

— Што-ж цяпер будзе?—з жахам думалі хлопцы.

А справа вышла досыць сур‘ёзная. Ужо з фармальнага боку было злачынства: „станцыя“ была патаемная, без дазволу, незарэгістраваная.

Але куды важней былі ўсе іншыя акалічнасьці, якія можна было зьвязаць з гэтай справай. Станцыя была ў будынку Сьцяпана, таго самага Сьцяпана,

які тады абразіў міністра. Апрача таго, хадзілі чуткі і пра яго старэйшага сына, які некуды зьнік... Пэўна, тут замешаны і сам Сьцяпан, а дзеці толькі прытычка.

Ды яшчэ тут апынуўся і яўрэй Мотэль, бацька якога яшчэ больш падазроны, як Сьцяпан. Пэўна, бацька і кіруе гэтай справай.

Юзікаў бацька здаваўся надзейным чалавекам, але, відаць, прыкідваўся. Другія два хлопцы таксама, мусіць, нешта ведаюць.

І на другі дзень арыштавалі пяць дзяцей і пяць бацькоў, адвезьлі ў павятовы горад у турму і пасадзілі ў камеры паасобку.

## 8 СЬЛЕДЗТВА

„У маёнтку пана Загорскага выкрыта комуністычная організацыя, якая нават мела сваю нелегальную, добра абсталяваную, радыёстанцыю. Каб адвесьці вочы, справе быў наданы характар дзіцячай забавы. Але за дзецьмі стаялі такія асобы, як Самуіл Рыгер і Сьцяпан Сапрончык. За першым даўно ўжо сочыць паліцыя, а другі выявіў сябе ў бунтарскім выступленьні ў часе прыезду міністра ўнутраных спраў. Апрача таго, старэйшы сын яго пайшоў у бандыты. Прымаў удзел і батрак пана Загорскага, Міхал Кухаронак, які калісьці перайшоў ад бальшавікаў, але ўвесь час падтрымліваў з імі сувязь. Усё гэта высьвятляе тыя падзеі, якія за апошні час адбываліся ў маёнтку пана Загорскага. Перад гэтым былі арыштаваны яшчэ адзін батрак і каваль. Організацыя выкрыта, дзякуючы паручніку 17 палка, пану Чэславу Купрэйчыку, які прыяжджаў у водпуск да свайго бацькі, паважанага грамадзяніна вёскі Смалякі".

Такое паведамленьне магла прачытаць польская грамадзкасьць у газэце „Кур'ер Поранны".

У гэтым кірунку ішло і сьледзтва. Перш за ўсё ўзяліся за дзяцей.



Хлапцоў прыводзілі па чарзе і ставілі пытаньні:

— Хто зрабіў вам радыё? Хто даў грошы? Што рабілі тут бацькі? Дзе іншыя прылады ад радыё? Адкуль бацькі даставалі проклямацыі? З кім яны сустракаліся? Дзе старэйшы сын Сьцяпана? Ці прыходзіў да вашага бацькі каваль, Антэк?—і г. д.

Хутка выявілася, што Цімох і Вінцусь ня толькі нічога ня ведаюць у гэтай справе, але зусім не разумеюць, аб чым ідзе гутарка. Яны толькі раўлі, дрыжалі ды паўтаралі:

— Далібог, больш ня буду, паночку.

Так іх і выпусьцілі.

А праз хуткі час выпусьцілі і іхніх бацькоў.

Трохі больш важдаліся з Юзікавым бацькам. Але што з яго было ўзяць? Ён так шчыра кляўся, што нават жандары гатовы былі даць веры. А калі яшчэ далі свой водзыў аконам ды іншыя служачыя маёнтку, нават сам пан Загорскі,—тады ўжо адразу яго выпусьцілі.

Але сына пакуль што затрымалі. Гэты хлапчук меў вельмі цесную сувязь з злачынным элемэнтам і напэўна што-небудзь ведае.

Пра „радыёстанцыю" больш ужо ня пыталіся. З першых-жа крокаў сьледчыя пераканаліся, што гэта была за станцыя. Першыя адказы Мотэля, Юзіка і Максімкі цалкам пацьвердзіліся. І Атрахім і яшчэ некалькі чалавек пасьведчылі, як хлопцы хадзілі на заработак. А гэта ў сваю чаргу паказвала, што бацькі сапраўды маглі ня ведаць аб гэтай справе. Экспэртыза „апаратуры" хоць-нехаць павінна была прызнаць, што „радыёстанцыя" не магла наладзіць „сувязь з суседняю дзяржаваю". Не магла адмовіць экспэртыза і таго, што ўся прылада вельмі

нагадвае дзіцячую забаву, хоць сяк-так слухаць на ёй і можна.

Але заставаўся другі бок справы: ці не хаваецца за знаёмствам дзяцей знаёмства бацькоў і які-небудзь сьлед організацыі? Невыпадкова-ж удзельнічаюць дзеці такіх небясьпечных асоб, як Самуіл Рыгер і Сьцяпан Сапрончык!

— Слухай, хлопча!—зьвярнуўся да Юзіка сьледчы, малады чалавек з доўгім конскім тварам.—Твой бацька пожондны чловек, і мы яго выпусьцілі. А ты прасядзіш усё сваё жыцьцё, калі ня будзеш казаць праўды.

— Я-ж кажу ўсё, як было,—прамовіў Юзік.

— Ну, а куды ты дзеў тыя проклямацыі, якія табе даваў Мотэль?

— Я...кі...я... проклямацыі?—паўтарыў Юзік зьдзіўлена, а ў самога, бы бліскавіцы, замільгалі ў галаве думкі: „Няўжо-ж ведае ўжо аб проклямацыях? Адкуль? І чаму ён гаворыць нібы пра шмат проклямацый, ды яшчэ нібы іх даваў яму Мотэль?

Сьледчы тымчасам казаў:

— Ці ты забыўся? Тыя, што табе Мотэль даваў.

— Ніякіх ён проклямацый мне не даваў!—упэўнена адказаў Юзік. Сьледчы весела засьмяяўся.

— А чаму-ж ён сам прызнаўся?

У Юзіка аж галава закруцілася. Як-жа ж гэта так? Можа, сьледчы зблытаў? Можа, ён мае на ўвазе тую проклямацыю, якую яны знайшлі, ды тую, што Максімка прынёс? Трэба растлумачыць...

— Толькі ты адзін такі ўparты,—дадаў сьледчы,—а рэшта хлапцоў усё расказала.

Нарыхтаваўся быў ужо і Юзік растлумачыць, у чым справа, што Мотэль не даваў, а былі знойдзены ў розныя часы дзьве проклямацыі. Але прыдзецца тады і Максімку ўмяшаць...

Раптам бліснула думка: „Мусіць, ён хлусіць! Злавіць хоча. Ня можа быць, каб Мотэль гэта казаў! Не такі ён!“ І тады ўжо паціснуўшы плячыма адказаў:

— Нічога не разумею. Не разумею, як мог ён казаць тое, чаго ня было. Хай мне ў вочы скажа.

Сьледчы зірнуў на жандара.

Той падышоў да Юзіка, узяў на галаве яго тонкую пасму валасоў і накруціў на аловак.

— Можа цяпер прыпомніш?—сказаў ён, пацягнуўшы за валасы.

— Ай!—ускрыкнуў Юзік.

Той цягнуў усё мацней і мацней.

— Ну, кажы!

— Ай-ай! Нічога ня ведаю! О-о!..—і зайшоўся сьлязьмі.

Жандар са злосьці тарғануў апошні раз і вырваў валасы...

Юзіка адвялі назад, а на яго месца прывялі Мотэля.

Адкуль браў проклямацыі, што перадаваў Максімку на вёску?—адразу зьвярнуўся да яго сьледчы.

— Ніякіх проклямацый я ня бачыў і не перадаваў!—цьвёрда адказаў Мотэль.

— Дарма ты адракаешся, пархатае шчанё!—засіпеў сьледчы.—Нам ужо ўсё вядома. Сам Максімка прызнаўся.

— Як-жа ж ён мог прызнацца ў тым, чаго ня было—спакойна адказаў Мотэль.

— Значыцца, па-твойму, мы хлусім? Га?—аж падняўся з месца сьледчы,—адразу відаць, што за птушка, хоць і малы. Але дарма—прызнаешся! Ну,

а часта хадзіў да вас Сьцяпан Сапрончык, Максімаў бацька?

— Ня бачыў аніводнага разу.

— Гэта бацька навучыў цябе так адказваць?

— Я кажу тое, што ведаю.

— А той батрак, Антэк Баркоўскі часта ў вас бываў?

— Сустракаліся з ім таксама, як і з іншымі парабкамі,—спакайна адказваў Мотэль.

— А бацька твой хадзіў да Сапрончыка.

— Ня ведаю. Здаецца, яны былі незнаёмыя.

— Але-ж ты адказваеш, як сапраўдны злачынца!—злосна ўсьміхнуўся сьледчы.

Трэба зазначыць, што такія, адказы—„не“ ды „не“—сапраўды нагадвалі адказы спрактыкаваных людзей.

Але мы ведаем, што ўсё гэта была праўда (апрача зносін з Антэкам). Праўда было нават тое, што Мотэлеў бацька быў незнаёмы са Сьцяпанам Сапрончыкам...

— Ну, а калі мы пазнаёмім цябе вось з гэтым,—ты таксама будзеш адказваць?—і сьледчы паказаў на бізун з некалькімі канцамі, які вісеў на сьцяне.

Мотэль здрыгануўся, зьбялеў.

— Ну, што-ж мне казаць больш, калі я сказаў усё, што ведаю?—прашаптаў ён.

— Ну, дык вось!—крыкнуў сьледчы.—Апошні раз пытаюся: якія даручэньні даваў табе бацька на вёску, каму ты даваў проклямацыі?

— Нічога такога ня было,—апусьціўшы галаву, адказаў Мотэль.

— Ага!

Жандар узяў бізун, падышоў да Мотэля. Той з жахам кінуўся ўбок. Жандар схапіў яго за карак і пачаў...





Спачатку Мотэль хацеў захаваць свой гонар і маўчаў. Але з кожным узмахам бізуна ён ускрыкваў усё мацней і мацней... Потым пачаў ужо крычаць немым голасам... Потым ужо і голасу нехапіла...

Назад яго аднесьлі на руках...

Дайшла чарга да Максімкі. Ён, як і ўсе іншыя арыштаваныя, чуў крыкі і енкі сваіх таварышоў і рыхтаваўся да пакуты.

Зноў пачалася такая самая гісторыя.

— Ну, дык каму ты раздаў проклямацыі, што атрымаў ад Мотэля?—пытаўся сьледчы.

— Нічога такога ня было.

— Позна ўжо адракацца: Мотэль сам прызнаўся. Ня ведаю.

— А можа таксама ня ведаеш, дзе твой старэйшы брат і што ён робіць?

— Ня ведаю.

— А ці часта прыходзіў да вас Мотэлеў бацька?

— Ніколі.

— Ты ў гэтым упэўнены?

— Ніколі ня бачыў.

— Ах ты, шчанё!—стукнуў па стале кулаком сьледчы.—Як ты асьмельваешся маніць, калі мы ўжо ўсё ведаем?

— А я ня ведаю.

— Памажы яму прыпомніць!—зьвярнуўся разьюшаны пан да жандара.

Той паважна падышоў і выцяў Максімку па плячох бізуном. Раз, другі... Максімка сьцяў зубы і маўчаў...

— Скажаш?—перапытаў сьледчы.

Максімка маўчаў.

Зноў сьвіснуў бізун...



Максімка з стрыманым енкам зваліўся на падлогу.

— Скажаш?

... Праз некалькі хвілін няпрытомнага хлопчыка вынесьлі з пакою.

А там узяліся за бацькоў... Толькі ня так, а ў тысячу разоў горш. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі пачалася ўся гэтая „справа“, прадстаўнікі ўлады спадзяваліся знайсьці організацыю, зносіны з саветамі, склады нелегальнай літаратуры, адным словам, усё такое, што было надрукавана ў газэце. Спадзяваліся выпытаць ад хлапцоў што-небудзь такое, за што можна было-б зачапіцца і дабрацца да старэйшых.

І за ўсё гэта спадзяваліся атрымаць гонар і ўзнагароду.

Можна сабе ўявіць, як яны лютавалі, калі, апрача самаробнага дзіцячага апарату, ня было за што ўхапіцца. А за гэты апарат, ну, скажам, можна аштрафаваць гаспадара на некалькі злотых—і ўсё.

А між тым навокал, вось тут, напэўна, існуюць злачынныя людзі, якія падбухторваюць хлопаў і батракоў супроць паноў. І, напэўна, гэты Самуіл Рыгер ды Сьцяпан Сапрончык прымаюць у гэтым удзел.

Як-жа ж пасьля гэтага не „націснуць“? Гэта-ж сорам будзе, калі з такой абвесткі ў газэтах нічога ня выйдзе!

І „націснулі“...

Але ўсяму бывае канец. Скончыліся і пакуты нашых вязьняў. З іх усіх толькі Мотэлеў бацька ведаў тое, чаго дабіваліся жандары. Але ён вытрымаў пакуты і нічога не сказаў. Хлопцы, хоць нічога пэўнага ня ведалі, але маглі-б значна пашкодзіць,

каб сказалі тыя ўрыўкі, якія ім былі вядомыя. Аднак і яны геройскі вытрымалі пакуты. А Максімкаў бацька адпакутваў за старэйшага сына, аб якім меў тыя самыя чуткі, што і Максімка. Затое цяпер ён быў бы нават задаволены, каб даведаўся, што Язэп сапраўды пайшоў у партызаны: прынамсі будзе каму адпомсьціць гэтым праклятым паном.

Як-бы там ні было, а судовай справы пачаць нельга было, і праз некаторы час усе арыштаваныя былі выпушчаны.

— Вось да чаго дагуляўся!—з дакорам сустрэў Юзіка бацька.—Мы для цябе стараліся, а ты ў такія гады пасьпеў і сам трапіць у турму і бацьку роднага пасадзіць. А што з цябе будзе далей? Добра яшчэ, што пан зьлітаваўся і не прагнаў нас.

Юзік адчуваў сябе вельмі дрэнна: і бацьку шкада было. І сам аніякай віны не адчуваў ды яшчэ адпакутваў, і таварышоў шкада. Цяпер ён упяршыню адчуў, што ёсьць „яны“, усе тыя, што маюць сілу і ўладу і дбаюць толькі аб тым, каб рэшту людзей трымаць у пакорнасьці. Юзік адчуваў нянавісьць да „іх“ усіх, нават да пана Загорскага, які нічога дрэннага ім не зрабіў і якога так хваліць бацька.

А на другі дзень прышоў да яго Мотэль. Гэта быў ужо ня той вясёлы, жвавы хлопчык, якога ведаў Юзік, гэта быў ужо пахмуры сур'ёзны дзяцюк.

— Ну, разьвітаймося, браток!—сказаў ён.—Мусіць, ніколі болей ня ўбачымся.

— А што?

— Бацьку звольнілі і прапанавалі зараз-жа выехаць.

— Куды?

— Ня ведаю.



— Хто-б мог падумаць, што з нашага радыё выйдзе такая гісторыя!—сумна прамовіў Юзік.

— Э!—махнуў рукой Мотэль.—Радыё тут ні пры чым. Ня тая, дык іншая прычэпка заўседы знайшлася-б. Усяроўна ім трэба душыць нас, асабліва, калі мы адважваемся паказаць, што і мы людзі.

Сябры шчыра пацалаваліся.

— Напішы мне, дзе і што будзе з табой,—папрасіўся Юзік.

— Абавязкова напішу. Ну, бывай.

Нібы нейкая ніць парвалася, нібы маёнтак апусьцеў, калі Мотэль схаваўся з вачэй Юзіка. Некалькі год цікавага дзіцячага жыцьця адышло разам з ім некуды далёка. Наперадзе было нешта новае, невядомае...

Максімка больш у школу не хадзіў. Ён застаўся з бацькам, які яшчэ больш пахмурнеў, яшчэ глыбей схаваў сваю крыўду і злосьць.

Юзік цяпер ужо рэдка сустракаўся з Максімкам. Юзік працягваў сваё вучэньне, але яно для яго было пакутай. У школе ён быў нібы чужы. Ня было ў ёй другіх такіх сяброў, як Мотэль і Максімка. Да таго-ж настаўнік і ксёндз часта папікалі Юзіка яго „ўчынкам“. А Юзік нічога дрэннага ў сваім „учынку“ ня бачыў. Гэты апошні год для яго здаваўся даўжэйшым за ўсе тры папярэднія гады.

Месяцы праз тры Юзік атрымаў ад Мотэля ліст:

*„Дарагі таварыш!*

*Толькі цяпер я сабраўся напісаць табе ліст. Да гэтага часу ня было магчымасьці. Усё вандравалі з месца на месца, шукаючы працы. Страцілі ўсё, што мелі. Цяпер трапілі ў Вільню. Бацька працуе ў*

*рымарскай майстэрні. Я таксама працую з бацькам, але дармова. Гаспадар толькі таму і згадзіўся прыняць бацьку на працу, каб і я яшчэ працаваў дармова, ды яшчэ папікае, што я дарма вучуся. А вучыць мяне ня ён, а татка. Вельмі цяжка працаваць. Гадзін па дванаццаць-чатырнаццаць сядзім. Жывем у нейкім склепе, цесным, цёмным, вільготным. Але татка ня сумуе. Ён пазнаёміўся з добрымі таварышамі-рабочымі, часта гутараць, спрачаюцца, некуды ходзяць. Жыцьцё тутака больш кіпучае і цікавае. Татка нібы не заўважвае нашай беднасьці. Я ўжо значна больш ведаю, як раней. Шкада, што нельга табе пра ўсё напісаць. Магу толькі сказаць, што жыцьцё зусім не такое, як здавалася нам у маёнтку. Кланяйся Максімку і іншым нашым хаўрусьнікам".*

Хоць з лісту відаць было, што Мотэлю там горш жывецца, чымся было тут, але Юзік адчуў нібы зайздрасьць. Мотэль прынамсі больш бачыць і ведае, што робіцца на сьвеце, а тут нібы ўсё сьпіць. Пасьля таго як зьнік Антэк, як выехаў Мотэль ды адшыўся Максімка, Юзік зусім страціў сувязь з „таемнымі" справамі і гатоў быў падумаць, што ўсё гэта было выпадковым здарэньнем, што ўсюды так спакойна і нудна, як тут.

Нарэшце прышла вясна, скончыліся заняткі, пачалося лета. Юзік аджыў, увесь час бадзяўся па ваколіцах, нават ахвотна пасьвіў панскую скаціну. А больш за ўсё карыстаўся магчымасьцю часьцей сустракацца з Максімкам, хоць бацька бурчэў, што „зноў выдумаюць якое-небудзь ліха".

Важнейшым пытаньнем у Юзікавай сям'і было пытаньне аб далейшым лёсе Юзіка, але лёс гэты сам вырашыўся.



## 9 ГОСЬЦІ З НЕБА

Аднаго разу, пад вечар, па маёнтку пайшлі чуткі, што ў полі, каля шасы, спусьціўся пасажырскі самалёт, з тых, што ляцелі ў Савецкі Саюз. У самалёце нешта папсавалася, і ён вымушаны быў спусьціцца.

Зразумела, усе пабеглі паглядзець на неспадзяваных, нязвычайных гасьцей. А наперадзе ад усіх—Юзік.

Ля шасы стаяў вялікі самалёт з двума моторамі і чырвонымі зоркамі на крыльлях. Да яго беглі з усіх бакоў мясцовыя жыхары, але раней за іх прыймчалася на мотацыклетах, аўтомобілях і на конях усё ваколічнае начальства, паліцыя, жандары. Усе яны мігам абкружылі самалёт і аддзялілі ад яго публіку.

У сярэдзіне кола засталіся толькі пасажыры і каманда самалёту. Пасажыраў было чалавек пятнаццаць. Па выгляду большасьць з іх былі чужаземцы—немцы, ангельцы, французы. Яны гурткамі стаялі вакол самалёту і горача, усхвалявана аб нечым гутарылі. Пілёт і мэханікі мітусіліся вакол мотораў, мэханізмаў.

Так прайшло з паўгадзіны. За гэты час прыехаў яшчэ адзін польскі начальнік, відаць, нейкі генэрал. Пасажыры атачылі яго, пачалася жвавая гутарка, нібы спрэчкі. Пасажыры нешта даводзілі, генэрал ківаў галавой, потым нешта загадаў сваім—і на шасу вылецеў мотацыкліст.

Пасажыры супакоіліся і пачалі чагосьці чакаць. Некаторыя паселі на траву. Толькі мэханікі з пілётам важдаліся з машынай.

Варце таксама была праца. Народу зьбіралася ўсё болей і болей, кожны ціснуўся наперад.

— Не налазьце! Разыходзьцеся!—крычалі жандары, накіроўваючы на людзей сваіх коняй; але кожнаму хацелася зірнуць на самалёт і на гасьцей.

— Пся крэў! Я-ж табе казаў!—пачуўся моцны голас, потым сьвіст бізуна, пляск—і жаночы плач.

Генэрал у гэты час размаўляў з нейкім важным ангельцам у стракатым паліце з рамянямі і сумкамі праз плячо. Ангелец зьдзіўлена зірнуў у той бок, дзе пачуўся плач.

Але генэрал завярнуўся яшчэ шпарчэй. Яго вочы, губы і ўвесь твар, сьціснутыя кулакі—выяўлялі такую злосьць, што нават Юзік спалохаўся.

— Хто гэта дазволіў сабе такі ўчынак?—прагрымеў ён.

— Ды вось гэтая баба, проша пана!—сунуўся войт паслужліва.

Генэрал пачырванеў, пазеленеў...

— Дурань!—буркнуў ён так, каб ня чулі чужаземцы, а потым дадаў галасьней:—Я пытаюся, хто гэта дазволіў сабе біцца?

— Выбачайце... Гэтая баба...—пачаў быў вінаваты жандар.

— Зараз-жа на тыдзень на гаўптвахту. Марш!—крыкнуў ён, і стараннага жандара павялі на адсідку.

Народ нібы скамянеў ад такога нязвычайнага здарэньня. Ніколі яны ня чулі, каб жандараў за гэта каралі!

І сярод цішыні з натоўпу пачуўся стрыманы голас:

— Эх, каб часьцей прыляталі чужаземцы! Можа, тады часьцей устрымліваліся жандары.

— А ты думаеш, яго сапраўды пакараюць?—адазваўся другі голас.—Адвядуць трохі і пусьцяць, нават пахваляць. Усё гэта для вачэй Эўропы робіцца...

Генэрал уздрыгануўся, але не падаў выгляду, што чуў. А прыслужнікі яго пазіралі лютымі вачыма, але таксама вымушаны былі маўчаць. Спагналі злосьць толькі тым, што больш пашырылі кола, але ўжо „лагодным спосабам“.

Вось ужо сонца схавалася за лесам. Гледачы пачалі разыходзіцца. На шасы паказаліся два аўтомобілі. Пад‘ехалі, спыніліся. У іх пачалі разьмяшчацца пасажыры. Сеў і генэрал у свой аўтомобіль і важнейшыя чыноўнікі, падрыхтаваліся да ад‘езду мотоцыклісты. Каля самалёту засталіся пілёт з памочнікам і два мэханікі.

У самы апошні момант пілёт падбег да генэральскага аўтомобілю, нешта пачаў казаць і пасьля гэтага да пасажыраў далучыўся адзін мэханік.

Аўтомобілі рушылі і зьніклі ў пылу.

Каля самалёту засталіся тры чалавекі з каманды і вакол іх чалавек дванаццаць паліцэйскіх і жандараў. Зусім мала засталося і гледачоў.

Сярод іх Юзік убачыў і Максімку.

— Цікава паглядзець, што будзе далей,—сказаў Юзік.—Куды яны паехалі, і што гэтыя будуць рабіць?

Максімка ўжо ведаў з гутарак, у чым справа.

— Пасажыры—сказаў ён—паехалі на станцыю і адтуль паедуць па чыгунцы. Ехаць недалёка. А мэханік паехаў за новай часткай для машыны. Гэтыя будуць чакаць яго, а потым папрацуюць і паляцяць. Пачакаем і паглядзім, як яны паляцяць.

Зусім сьцямнелася. Публікі засталося зусім мала, галоўным чынам моладзь і дзеці. Жандары ўсё больш рашуча насядалі на іх.

6. Аповесьць будучых дзён.

— Чаго вам тут? Наглядзеліся. Годзе! Равы ходзьцеся!

Але тым вельмі не хацелася ісьці. Яны адышліся далей і наглядалі здалёк.

Час ішоў, а зьмен ніякіх ня было. Каманда схавалася ў сваю будку, варта разьмясьцілася навакол. Вось ужо і ўсе гледачы разышліся; засталіся толькі Юзік з Максімкам.

— Пойдзем, ці што?—прамовіў Максімка.—Можа гэтак уся ноч пройдзе?

— Яшчэ крыху пачакаем.

Крокаў за пятнаццаць-дваццаць ад самалёту расло некалькі кустоў. За імі і схаваліся хлопцы. Ноч была цёплая, але вельмі цёмная. У гэтай цемры няясна вызначыліся цьмяныя абрысы вялізнай казачнай птушкі. Хлопцы пазіралі на яе, і ім прыпаміналіся розныя фантастычныя байкі, што даводзілася ім чуць.

Жандары прынесьлі з маёнтку дроў і расклалі вогнішча. Заблішчэлі мэталёвыя часткі самалёту, але затое тыя часткі, да якіх не даходзіла сьвятло, яшчэ больш схаваліся ў цемры.

Дзьверы кабіны-вагону засталіся адчыненымі. Чорная дзіра вабіла да сябе...

— Слухай!—дрыжачым голасам прашаптаў Юзік.— Я паспрабую падпаўзьці і пралезьці ў гэтыя дзьверы.

— Куды ты? Сочаць!..

— Можа падпільнаваць зручны момант. Каманда у сваім памяшканьні, а вагон пусты.

Сэрца мацней забілася ў хлапцоў. Рызыкоўна, але магчыма... Асабліва, калі расклалі вогнішча. Большасьць варты сядзела ля агню і толькі час-ад-часу абыходзіла вакол самалёту. Некаторыя нават пачалі драмаць!



Хлопцы пачалі дрыжаць, нібы ад холаду... Сон адляцеў зусім. Вяртацца да хаты ўжо ня думалі. Ці ўдасца, ці не, але цяпер ужо сядзець і чакаць ёсьць сэнс.

— Калі што, прашаптаў Максімка,—дык я ў той момант пакажуся з процілеглага боку і зьвярну іхнюю ўвагу на сябе.

— Біцца будуць.

— Дзеля такога выпадку варта і пацярпець. Прывыклі ўжо.

І хлапцом успомніўся допыт...

Юзіку захацелася абняць і пацалаваць Максімку. Але для „мужчын“ гэта было няпрыстойна.

Для абодвых хлапцоў было зусім зразумела, што спробу лязець павінен зрабіць Юзік, а не Максімка. Бо Юзік-жа хоча ўбачыць свайго дзеда і даўно „зьбіраецца“ туды, а Максімку чаго?

На працягу некалькіх гадзін хлопцы былі ў напружаным стане. Некалькі разоў надыходзіў момант, што, здавалася, можна ўжо паспробаваць, але кожны раз ці сёе, ці тое перашкаджала.

А тымчасам набліжаўся ўжо і канец ночы. Было ўжо гадзіны дзьве пасьля паўночы. Вось па шасы затарахцеў аўтомобіль. І вартаўнікі і хлопцы ўздрыгануліся.

— Бліжэй, бліжэй... Прыпыняецца... Значыцца, сюды.

Пачула і каманда, вылезла з каюты.

Увага ўсіх накіравалася на прыежджых...

Момант настаў!..

— Валяй!—шапнуў Максімка.

Юзік выпаўз з па-за куста.

Але не пасьпеў пасунуцца і на два крокі, як пачуў крык:

— Хто тут? Куды?

Юзік ускочыў і кінуўся назад за куст. А ў гэты самы момант сарваўся з месца Максімка і пабег на вачох усіх міма вогнішча.

Жандар, што заўважыў Юзіка, кінуўся за Максімкам. Рэшта людзей, вядома, не магла не паглядзець туды.

Мала знайшлося-б людзей, якія-б маглі падумаць, што гэта пабег другі хлопец...

Юзік сьцяміў, у чым справа, і зноў рынуўся наперад, не зважаючы ўжо, ці бачаць яго ці не.

Праз хвіліну ён ляжаў у кабіне пад лаўкай і з жахам чакаў, што будзе далей. Ніякага асаблівага пярэпалаху знадворку ня было. Што-ж тут дзіўнага, калі сунуўся вясковы хлапчук, мусіць, пастушок, што пасьвіў коні?

Прайшла хвіліна-другая, і Юзік пераканаўся, што на гэты раз яго не заўважылі. А што далей будзе— іншая рэч. Толькі вось сэрца ды скроні так стукаюць, што людзі могуць знадворку пачуць. Юзік нават сьціснуў рукамі грудзі, каб устрымаць гэты стук.

Потым на працягу двух гадзін чулася майстраваньне, стук малаткоў. Потым страшэнна загрукатаў і затросься ўвесь самалёт. Зноў сьцішыўся: відаць, спробу рабілі. Потым затрашчаў аўтомобіль, і самалёт заварушыўся і пасунуўся па зямлі, павольна нязграбна: гэта цягнулі яго на шасу, адкуль падняцца лягчэй.

Вось пачуліся галасы ля дзьвярэй. Сьвятло ідзе адтуль—відаць, ужо разьвіднелася. Дзьверы забразгалі... Юзік затаіў дыханьне...

Нішто! Дзьверы зачынілі—і больш нічога.

Чуваць, як каманда садзіцца ў сваю кабіну.



— Пускай!

Зноў загрукатаў і затросься самалёт. Чутно, як паехаў па шасы. Шпарчэй, шпарчэй... Заместа грукату мотораў чуваць адзін толькі суцэльны гул. Самалёт падскоквае, лягчэй, лягчэй... Нарэшце адчуваецца, што ён не дакранаецца да зямлі...

... А на шасы стаяў Максімка і пільна сачыў за кожным рухам самалёту. Усё вышэй і вышэй узды- маецца ён, усё меншым і меншым робіцца. Ня верыцца, што гэтая маленькая прыгожая птушка і ёсьць тая самая вялізная нязграбная махіна, што стаяла на полі.

Рэшткі туману падымаюцца з зямлі, чапляюцца за самалёт, разрываюцца на кавалкі. Вось загарэліся, засьвяціліся яны і пачалі раставаць пад вострымі праменьнямі сонца. Заблішчэў і самалёт, але сонца яшчэ ня відаць. Толькі зарыва ды залатыя стрэлы над ляском вызначаюць месца, дзе знаходзіцца яно. Нарэшце, запалілі верхавіны дрэў,—і адтуль выплыла сонца, вялізнае, растопленае.

І насустрач яму радасна паляцеў сталёвы птах...

Максімка завярнуўся і ціхенька пайшоў назад. З гэтага боку небасхіл быў яшчэ цёмны; чым бліжэй да зямлі, тым чарней было неба. Туман незадаволена варушыўся, нібы патурбаваны зьвер у сваім логаве. Відаць, яму вельмі не хацелася пакідаць вёску, якую ён апанаваў. Але магутнае жыватворнае сьвятло няўхільна выціскала яго адтуль.

Толькі панскі палац, здавалася, задзёрыста высоўваўся ўверх, нібы кажучы: „а ну, паспрабуй!"

---

## 1 ЭМІГРАНТ

Як хацелася Юзіку паглядзець у вакно, што там робіцца ўнізе! Ён нават уявіць сабе ня мог, які выгляд мае зямля, лес, вёскі, рака з вышыні.

Прайшло некалькі хвілін. Моторы гулі так, што ніякага іншага гуку ня было-б чутно, каб нават Юзік сьпяваць і скакаць пачаў. Да таго-ж ён быў адзін на ўвесь вагон.

Патрохі прызвычаіўся, супакоіўся і высунуў з-пад лавы нос, потым усю галаву. Ніякай небясьпекі няма!

Нарэшце, вылез, прагна прытуліўся да вакна і забыўся на ўсё ў сьвеце.

Унізе плылі палеткі рознакаляровыя, нібы пашытая з кавалкаў коўдра. Чарнеліся вёскі, нібы насыпаныя грудкі зямлі. Лясы здаваліся нейкай цёмнай поўсьцю. Вось вялікая зялёная лагчына, поплавы; срэбнай ніцьцю віецца па ёй рачулка, выкручвае петлі; на ўзгорку бялеецца маёнтак; здаецца яго, як цацку, можна было-б зьмясьціць на далоні.

Людзей ня відаць. А можа тыя дзьве кроплі, што варушацца ля рэчкі і ёсьць людзі? А можа жывёла? Хто яго тут разьбярэ. А вунь збоку чыгунка, і па ёй паўзе маленькі чарвячок. Дым ідзе з галавы. Няўжо-ж гэта грозны магутны цягнік?



І ўся прастора бязупынна стракаціцца, варушыцца, часам зусім нагадвае шпалеры: гэта цені ад хмарак гуляюць па зямлі.

Вось чамусьці часьцей забялеліся маёнткі. У розных мясцох адначасова відаць у зяляніне групы белых будынкаў. Па вокнах можна заўважыць, што будынкі не маленькія, а ў два, тры, нават болей паверхаў. У некаторых мясцох такіх будынкаў налічваецца адразу дзесяць-пятнаццаць. І ўсюды вытыркаецца адзін, а то і два фабрычныя коміны. А вёсак зусім ня відаць.

Што гэта значыць? На мястэчкі не падобна, на маёнткі—таксама, бо ў кожнай групе па некалькі аднолькавых панскіх палацаў, а іншых хат навакол няма. Няўжо-ж адны толькі фабрыкі? А дзе-ж вёскі, сяляне, што апрацоўваюць гэтую зямлю? Ды і ня відаць зусім сялянскіх палеткаў, няма тых шнуроў, а ўсё вялізныя плошчы ці зялёнага, ці цёмнага, ці жоўтага колеру.

Юзік нават забыўся, дзе ён знаходзіцца, што яго чакае. І ў гэты момант ён адчуў, што нехта палажыў на яго плячо руку...

Нібы ад сну схамянуўся хлапец, азірнуўся: стаіць перад ім мэханік і сурова нешта гаворыць, а што— ня чуваць за грукатам мотораў.

— А ты як сюды трапіў?—пачуў Юзік нарэшце, калі той схіліўся да яго вуха.

Юзік толькі апусьціў галаву.

Мэханік яшчэ раз грозна зірнуў на яго і вышаў праз незаўважаныя Юзікам дзьверы ў сваё памяшканьне. Юзік зноў застаўся адзін. Ён ужо не глядзеў у вакно, а чакаў, што вось зноў адчыняцца дзьверы, увойдуць людзі і, можа, выкінуць яго ўніз...

Ен нават не сачыў, як самалёт спускаўся, дый наогул усё падарожжа заняло ня больш за поўгадзіну.

●

— Ну, дык што мы будзем з ім рабіць?—сказаў лётнік свайму таварышу, уваходзячы ў вагон да Юзіка.

— Адвядзем куды належыць, хай там разьбіраюцца,—адказаў другі.

— Жах Юзіка бадай зусім зьнік: ня выкінулі, ня б'юцца, а горш ня будзе. А калі вылез, дык і зусім забыўся на сваё становішча. Ён дзівіўся на вялізную плошчу аэродрому, на нізкія будынкі-ангары для самалёту, на нейкія дзіўныя мачты, прылады, ліхтары. Цікавей за ўсё была вялізарная будыніка з прадаўгаватым акругленым дахам і такімі вялікімі дзьвярыма, што ў іх зьмясьціўся-б увесь палац пана Загорскага. У гэтай будыніне, пад стольлю, зьмяшчалася нешта даўгое, круглае, накшталт вялічэзнай цыгары. Каля яе, нібы мурашкі, мітусіліся людзі.

— Цэпэлін!—сьцяміў Юзік.

— Хадзем, браток!—пачуў ён каля сябе голас і ўбачыў новага, незнаёмага чалавека, падобнага да вайскоўца. Лётнікі-ж поркаліся каля свайго самалёту і не зьвярталі больш ніякае ўвагі на Юзіка.

Было гадзін шэсьць раніцы. Фарбаваныя будынкі, мачты яскравіліся на ранішнім сонейку. А калі Юзік завярнуўсяісьці, дык ледзь ня ўскрыкнуў ад захапленьня.

Наперадзе, кілёмэтраў за шэсьць уздымаўся горад. Белыя будынкі, адзін за аднаго прыгажэй уздымаліся ўгару, нібы навыперадкі. Касыя праменьні сонца зьзялі ў вокнах, зіхацелі, палалі агнём. Некаторыя будынкі, здавалася, ніякіх сьцен ня мелі, а



складаліся з адных вакон. Яны ўжо цалкам былі ахоплены прамяністым пажарам. Толькі шматлікія фабрычныя трубы чарнеліся на гэтым сьвятле.

— Ну, хадзем!—паўтарыў праважаты.

Яны прайшлі плошчу і вышлі на вуліцу. Тут падышоў трамвай. Яны селі ў яго і паехалі па шырокім зялёным асфальтавым проспэкце. Юзік прыціснуўся да вакна трамваю.

Наабапал вуліцы, сярод зеляніны, цягнуліся прыгожыя дамы-дачы. Бальконы, вышкі, вялізныя вокны, часам роўныя, абгароджаныя дахі, на якіх стаялі крэслы, сталы, нават кветкі ў скрынках расьлі. Вакол дамоў—сады з сьцежкамі, кветкамі, як у маёнтку пана Загорскага. Дый наогул усе гэтыя дамы нагадвалі панскія палацы. Асабліва дзівіла Юзіка тое, што іх было так дужа і што за ўвесь час ня трапілася аніводнай простай хаты.

„Бач, колькі паноў тут жыве!—думаў Юзік.— Чаму-ж гэта казалі, што паноў тут зусім няма?“

З кожнага дому, чамусьці адначасова, выходзіла па некалькі чалавек мужчын і жанчын. З вясёлым гоманам і сьмехам яны ці садзіліся ў трамвай, ці накіроўваліся ўбок.

Юзік з цікавасьцю прыглядаўся да гэтых людзей. Апранутыя яны былі, на погляд Юзіка, таксама, як усе паны ў іхняй мясцовасьці. Можа толькі сам пан Загорскі ды яго дачка ўбіраліся лепш.

Але ўсе паводзіны, усе рухі гэтых паноў былі нейкія незразумелыя. Юзік ведаў, што паны трымаюць сябе на людзёх сур'ёзна, паважна, а гэтыя жартавалі, штурхаліся, нібы ў сваёй хаце.

— Ну, як твае досьледы?—спытаўся адзін з іх свайго таварыша.

— Усё ішло добра, але ў апошнюю хвіліну каталізатар забаставаў. Відаць атруціўся, каб яго качкі.

— А ты пробваў павялічыць вольтаж?

— Падняў да ста тысяч.

— Ну, дык павяліч да ста пяцідзесяці і больш. Чаго глядзець?

— А я думаю, ня сёньня дык заўтра будзе выбух,—чуўся жаночы голас другога кута вагону.— Дыфэрэнцыяцыя грамадзтва і консолідацыя пролетарскіх сіл дасягнулі такой ступені, што далей няма куды ісьці. Вазьмеце вы леборыстаў: там, апрача соцыялфашыстаў, сабраліся і ўсе лёрды, капіталісты ды іншыя зубры, якія раней складалі консэрватыўную партыю, а цяпер, бачце, яны леборыстыя. На другім флянгу мы бачым адзіную комуністычную партыю. Сярэдзіны няма. Клясы выкрышталяваліся.

Гэтыя вучоныя размовы канчаткова пераканалі Юзіка, што з ім едуць паны. Іх нават больш тутака, як у Польшчы. На пяць кілёмэтраў цягнулася вуліца, і ўсюды адны толькі панскія дачы. Адсюль выходзілі людзі і ціскаліся ў трамвай. Хутка і сядзець было няма дзе, хоць трамвайных вагонаў было шмат і ўсе яны хадзілі па два разам. А рабочых, сялян ці наогул простых людзей так і ня відаць зусім. Мусіць, дарага трэба плаціць, калі яны ня едуць. Паны-ж і грошай не плацілі, а сова лі нейкія квіткі.

„І чаму-ж гэта казалі, што ў бальшавікоў няма паноў"?—ламаў галаву Юзік.

Нават вагонам кіравала маладая прыгожая паненка. Юзік бачыў ззаду зграбную маленькую постаць маладой дзяўчыны з голай шыяй і рукамі, і неяк дзіўна было наглядаць, як гэтыя маленькія далікатныя ручкі сьмела і цьвёрда кіруюць машынай, як яна раве, торгае, спыняецца і слухаецца дзяўчыны, нібы рахманы зьвер.

Юзікаў праважаты сядзеў супроць яго і бязуважліва глядзеў у вакно. Але публіка ўсё часьцей і часьцей пазірала на нашага хлапца. Босыя ногі, доўгія і шырокія латаныя порткі, такая самая сьвітка, аблавухая шапка, рухлявыя вочы і напружаны твар,— усё гэта не дапасоўвалася да агульнага фону і павінна было зьвярнуць на сябе ўвагу.

Нарэшце, нехта ня вытрымаў:

— Няўжо-ж у нас ёсьць бяспрытульныя?

Праважаты адвярнуўся ад вакна.

— Эмігрант,—прамовіў ён, усьміхнуўшыся.

— Як? Што? Адкуль?—зацікавілася публіка.

— З Польшчы. Толькі што прыбыў. Нават на самалёце прыляцеў.

„Бяспрытульны" адразу зрабіўся героем. Пасыпаліся запытаньні,—якім чынам, чаму, хто ён такі, як там жывецца? Юзік ледзь пасьпяваў адказваць. Спачатку ён чырванеў, блытаўся, адчуваў сябе неяк няёмка, зрабіўшыся цэнтрам увагі з боку ўсіх гэтых паноў. Потым убачыў, што ўсе яны такія лагодныя, спачувальныя, простыя, і хутка асвойтаўся.

— Як маюцца вашыя паны?—са сьмехам спытаўся адзін паважны пан у акулярах. Юзік зірнуў на яго, на іншых паноў, і прыпыніўся. Ліха яго ведае, як лепш адказаць? Калі адкажаш зьняважліва, могуць абразіцца. Што ні кажы, а ўсе яны адным маслам мазаныя.

— Нішто сабе!—адказаў ён нарэшце.

Раздаўся такі рогат, што на хвіліну заглушыў гул трамваю. Юзік спалохана азіраўся: чаго яны? мусіць, не патрапіў...

Але паны глядзелі на яго ветліва...

Публіка мянялася. Адны выходзілі, другія ўваходзілі. Вось ужо і горад. Тут ужо дамы былі рознастайныя. Побач з вялізнымі будынінамі трапляліся і невялікія, старыя дамы, з чырвонай цэглы. Такія самыя ён бачыў нават у сваім мястэчку.

Пайшлі вуліцы асфальтавыя, роўныя, чысьцюткія. Аніводнага каменчыку, трэсачкі, ніводнай паперкі, ні пяску, ні пылу.

Вось чалавек трымаецца за нейкую прыладу, нібы тачку на двух колах. Ён возіць ёю па вуліцы, а прылада тарахціць, сіпіць, з яе цячэ вада, круцяцца нейкія шчоткі, а ў выніку—змываецца з вуліцы бруд і сьцякае разам з вадой на бок, у дзіркі з кратамі.

А вось грандыёзны шматпавярховы шэры палац, у параўнаньні з якім нават палац пана Загорскага здаваўся-б нікчэмнай халупай. Аж дух захапіла ў Юзіка перад гэтай будынінай. Людзі каля яе здаваліся мухамі. Ні то дзядзінец, ні то плошча гладкая і чыстая, бы падлога, уразалася ў фасад палацу. Сярод плошчы статуя нейкага чалавека з паднятай рукой; здавалася, ён нешта горача гаворыць і заклікае кудысьці людзей. Два чырвоныя сьцягі па вежах гарэлі пад сонцам, а пасярэдзіне, пад страхой, зьзялі вялізныя залатыя літары „Дом Ураду БССР".

Юзіку так хацелася-б спыніцца і лепш разгледзець гэты палац, але трамвай паехаў далей.

Яшчэ адна-другая астаноўка—і праважаты ўстаў.

— Вылазім,—сказаў ён Юзіку.

Ля дзьвярэй дому, дзе яны спыніліся, стаяў вайсковец са стрэльбай і шапкай з вострым канцом і чырвонай зоркай. Праважаты прывёў хлопца ў пакой, нешта сказаў соннаму чалавеку, што сядзеў за сталом і пакінуў хлопца.



— Тут табе прыдзецца пачакаць.

Юзік сеў на лаву каля сьцяны і пачаў чакаць. Чалавек за сталом не зьвяртаў на яго ўвагі. Пасядзеў крыху хлопец і выцягнуўся на лаве. Праз хвіліну ён ужо хроп, як у сябе дома.

Прайшло мабыць, гадзіны са тры, калі яго разбудзілі. Не адразу зразумеў Юзік, дзе ён і што з ім робіцца. Доўга пазяхаў і чухаўся, пакуль зусім апамятаўся.

Павялі яго па сходнях, калідорах; нарэшце, завялі ў пакой да нейкага чалавека і пакінулі яго там.

— Сядай,—сказаў гэты чалавек Юзіку і паказаў на крэсла.

Юзік нерашуча прысеў на ўскрай. Хоць гэты пажылы дзядзька і ветліва глядзеў на яго сваімі глыбокімі вачыма, але Юзік адчуваў, што надыходзіць самы рашучы момант, што зараз вырашыцца яго лёс.

— Ну, раскажы, якім чынам і чаму ты апынуўся тутака?—прамовіў дзядзька.—Кажы ўсё, ня бойся.

Ад гэтых простых спакойных слоў Юзік чамусьці яшчэ болей усхваляваўся.

Дзядзька заўважыў гэта і ўсьміхнуўся.

— Чаго-ж ты баішся? Ці ты не разумееш, што мы павінны-ж ведаць, хто такі, адкуль і чаму да нас прыляцеў? Кажы толькі ўсю праўду, і нічога дрэннага табе ня будзе.

Юзік пачаў расказваць. Аб бацьку, аб дзеду, аб жыцьці ў маёнтку, аб радыё, аб допыце, аб Мотэлю і Максімку і, нарэшце, аб тым, як схаваўся ў самалёце.

— А ты ведаў, што гэткім самавольным чынам нельга рабіць?

— Ня думаў аб гэтым,—ціха адказаў Юзік.— Вельмі мне хацелася да дзеда, паглядзець, як тут жывуць.

— А даручэньняў якіх-небудзь табе ніхто не даваў?—сказаў дзядзька і зірнуў на Юзіка так, нібы наскрозь усё бачыць.

— Якіх даручэньняў?—не зразумеў Юзік.

— Ну, з кім ты бачыўся перад адлётам, каму сказаў аб гэтым, можа хто прасіў цябе аб сім-тым даведацца, ці каму-небудзь што-небудзь перадаць.

— Не! шчыра адказаў Юзік.—Ніхто аб гэтым ня ведае, нават бацькі. Дый сам я ня ведаў да апошняй хвіліны. Мне гэта думка прышла толькі ў той час, калі мы сачылі за самалётам. Куды я дзеўся,—ведае толькі адзін Максімка.

— Ну, дык прыдзецца цябе адправіць дахаты.

Юзік заплакаў.

— Паночку! Пусьцеце мяне да дзеда! Я ня хочу пазад ехаць! Я хацеў-бы, каб татка з мамкай сюды прыехалі.

—Ну, браток!—засьмяяўся дзядзька.—Калі кожны сам пачне так меркаваць, дык ніякага парадку ня будзе. За самавольства караць трэба, а не патураць.

— Паночку! Я-ж нічога... Пусьцеце мяне да дзеда!.. скрозь слёзы мармытаў Юзік, потым ускочыў з крэсла, схапіў дзядзькаву руку і пацалаваў яе.

Дзіўная рэч: дзядзька ўскочыў, нібы яго ўкусіла зьмяя.

— Што ты?! Зьвяр'яцеў, ці што?—крыкнуў ён.

Юзік спалохаўся. Мусіць, гэта такі вялікі пан, што такі хлопчык, як Юзік, ня мае права цалаваць яму рукі. Мусіць, толькі дарослыя могуць. А ён Юзік, абразіў яго, думаў, што такі самы пан, як Загорскі ці аконам.

— Выбачайце, паночку!—балбатаў Юзік.—Я ня ведаў... Больш ня буду... Пусьцеце мяне да дзеда.

Дзядзька супакоіўся і засьмяяўся.



— Слухай, хлопча! Пакуль ты тут, забудзься на слова „пан“ і на вашыя рабскія звычкі. У нас няма ні рабоў, ні паноў.

Хоць і не да таго было нашаму хлопцу, але ён ня мог не зьвярнуць увагі на словы „ў нас няма паноў“. Тое самае ён і дома чуў, але на справе ўбачыў, што паноў тут больш, чымсьць у Польшчы. Прынамсі да гэтага часу аніводнага простага чалавека ня бачыў, апрача жаўнера.

— Маеш якія-небудзь дакуманты, паперы?

— Маю толькі ліст Мотэля.

— Пакажы.

Дзядзька ўважліва прачытаў ліст і задумаўся. Потым зноў распытаўся падрабязна аба ўсім жыцьці Юзіка і сказаў:

— Мы параімся, што з табой рабіць, а пакуль пагасьці ў нас крыху.

Зноў павялі хлопчыка па сходнях і калідорах, вывелі на двор, прывялі ў другі будынак. Юзік убачыў памяшканьне з катламі, машынамі. Але ўсе гэтыя прылады апрацоўвалі харчы: бульбу, моркву, мяса і г. д.

— Таварыш Шторм!—зьвярнуўся праважаты да аднаго з работнікаў, відаць, загадчыка фабрыкі.—Можа возьмеце сабе на тыдзень-два памочніка?

— Давайце, спатрэбіцца,—адказаў той—якраз таварыш Зорын пайшоў у водпуск.

Далей ужо дзядзька Шторм павёў Юзіка па калідорах і прывёў у маленькі, чысты і сьветлы пакойчык з ложкам.

— Вось тваё памяшканьне. Але спачатку трэба надаць табе культурны выгляд,—усьміхаючыся, сказаў дзядзька.

І пачалася „чыстка“. Юзіка абстрыглі, прывялі ў пакой, дзе былі ванны, кранты з цёплай і халоднай вадой, душы. Падлога, сьцены, ванны белыя, чыстыя, кахляныя. Далі чыстую бялізну, кароткія штаны і блюзку-хакі, даўгія панчохі і бацінкі.

Калі зірнуў Юзік у люстра, аж засаромеўся: паніч дый годзе! Ня горш ад Зыгмуся Загорскага.

— Пажывеш у нас крыху, будзеш дапамагаць у рабоце,—сказаў дзядзька Шторм,—але выходзіць на вуліцу не павінен.

— Чаму?—зьдзівіўся Юзік.

— Ты арыштаваны,—засьмяяўся дзядзька.

Хлопчык вылупіў вочы.

— Не палохайся,—супакоіў дзядзька.—Гэта часова. Хто цябе ведае, адкуль ты і чаму прыехаў? Можа цябе хто падаслаў? Можа, ты які шкоднік?

— Ды я-ж нічога такога...—са сьлязьмі пачаў хлопец.

— Відаць, табе далі веры, калі так прынялі. Але ў гэткай справе веры мала. Трэба пераканацца як сьлед. Мусіць, распытаюцца аб табе там на месцы. І калі ўсё, што ты казаў, праўда, дык і выпусьцяць. Тыдзень-два пройдзе, ня больш.

Юзік зразумеў і супакоіўся.

З якой ахвотай узяўся ён за працу! Якая цікавая яна была! Спачатку ён толькі падносіў і падаваў продукты старэйшым і сачыў, як тыя пускаюць іх у апрацоўку. Вось усыпалі некалькі мяхоў бульбы ў вялікі бак. Закруціліся ў ім нейкія таўкачы, палілася вада; праз хвіліну брудная вада выцекла некуды ўніз, а ў баку засталася чыстая бульба. Адчынілі з боку фортку—і бульба апынулася ў нейкай машыне, дзе круцяцца нажы. Яшчэ некалькі хвілін—і адтуль пасыпалася белая парэзаная бульба. Праз якіх-небудзь дзесяць хвілін насыпалася такая куча, якую не зрабіла-б і сотня жанчын.

— Якім-жа чынам машына дапасоўваецца да велічыні кожнай бульбіны?—дзівіўся Юзік.

— Ды бульба ўжо аднолькавая,—адказалі яму.— Калі яе капаюць, дык зараз-жа на месцы сартуюць, прапускаюць нібы праз рэшаты і выпускаюць па нумарох, адпаведна велічыні.

— Але вельмі ўжо тоўстыя шалупайкі зразае машына,—заўважыў Юзік,—псуе шмат.

— А ці ў вас ня кормяць бульбай жывёлы?—спытаўся работнік.

— Кормяць.

— Ну дык вось гэтымі шалупайкамі і кармі. У нас аніводнай дробкі ня гіне дарма.

Таксама было і з морквай, і з буракамі, і з усімі іншымі продуктамі. Там з-пад машыны ідуць роўныя лусты мяса, там ідзе мяса, пасечанае на катлеты. Там стаяць мяхі з сухімі чыстымі касьцямі: іх адпраўляюць на фабрыкі, дзе меляць іх на муку для ўгнаеньня ці робяць клей.

Там самі таўкачы б'юць расчыну на бліны, а пякуцца гэтыя бліны на плітах, дзе ні агню, ні дыму ня відаць. Казаны, у якіх гатуецца страва, падобны да паравозаў, з рознымі прыладамі, бліскучымі ручкамі, цыфэрблятамі, і стаяць гэтыя катлы не на агні, а проста на зямлі, і ніякай пары з іх ня ідзе. Толькі, калі адчыняць іх, каб сёе-тое дадаць,—тады толькі вырываецца пара, тады толькі можна пазнаць што ў іх нешта гатуецца. Але адчыняюць іх рэдка, бо даглядаць ня трэба; прыгарэць ня могуць, бо да іх дакранаецца не агонь, а гарачая пара; сачыць ня трэба, бо дакладна вядома, праз колькі часу

страва згатуецца; ня трэба і памешваць, бо гэта само робіцца.

А як цікава мыюцца талеркі! Паставіш іх у нейкую сетку, а яны самі ідуць у ваду, мыюцца, праходзяць праз нейкія трубы, сушацца—і выходзяць зусім чыстымі.

Чалавек у белым халаце і каптуры ціха і спакойна ходзіць сярод гэтых машын, зірне туды, зірне сюды. Ні гоману, ні мітусьні, толькі глухі шолах машыны ды сіпеньне страў. Памяшканьне чыстае, сьветлае; і паветра чыстае, толькі лёгкія, смачныя пахі дражняць нос.

Праз некалькі часу і Юзіку даручылі працу на машыне—рэзаць хлеб. Ён усоўваў у машыну буханкі хлеба, а адтуль ішлі роўныя тонкія кавалкі.

Вольнага часу ў Юзіка было больш, як яму было патрэбна. Але гэты вольны час быў для яго пакутай. Туляцца і нічога не рабіць—справа няпрыемная для кожнага чалавека. Таму Юзік увесь час круціўся на кухні, дапамагаючы і першай і другой зьмене работнікаў.

Затое ён значна азнаёміўся з працай на кухні, з машынамі і прыладамі. Ведаў паказаньні мономэтра ў катлах, колькі часу гатуецца кожная страва, як спыніць і пусьціць машыну, як ідзе процэс гатаваньня. Усё часьцей і часьцей яму даручалі больш самастойную і адказную працу.

Гэтая неспадзяваная вучоба значна скараціла яму час „арышту". Але аб навакольным жыцьці, па-за сьценамі памяшканьня, ён мала чаго даведаўся. Для работнікаў жыцьцё гэта было такім звычайным, простым, што і тлумачыць, здавалася, няма чаго было. Ім здавалася, што кожны гэта ведае. Характарна было яшчэ тое, што работнікі гэтыя, здаецца, мала цікавіліся асобай хлопчыка; зусім ня дзівіліся, як ён тут апынуўся, ня надта распытваліся. Здавалася, нібы ўсё гэта для іх зьяўляецца звычайнай справай, нібы яны ўжо прывыклі да падобных рэчаў.



Праз некалькі дзён дзядзька Шторм нават забараніў яму доўга працаваць.

— Нельга ў нас так працаваць. Даведаюцца—пападзе нам.

Я-ж нічога дрэннага не раблю,—апраўдваўся Юзік.

— У нас пяцігадзінны рабочы дзень, а для дзяцей—трохгадзінны.

— А калі хто добраахвотна хоча працаваць?

— Усяроўна нельга,—адказаў дзядзька.

Юзік недаверліва ўсьміхнуўся; жартуе дзядзька! Дзе-ж гэта відана, каб забаранялі працаваць нават тады, калі чалавек сам хоча? Дзядзька Шторм заўважыў гэта.

— Чаго дзівішся? Гэта табе ня Польшча, дзе рабочыя працуюць па пятнаццаць гадзін. У нас усе працуюць, таму на кожнага прыпадае працы менш. Ты лепш займіся чытаньнем; я табе дам газэт і часопісаў.

Прагна накінуўся Юзік на газэты і часопісы. Хоць ён і мала бачыў газэт у сваім жыцьці, але ўсё-ж такдома яму ня раз траплялася пераглядаць іх. Ён прыблізна ведаў, аб чым звычайна пішуць у газэтах: аб тым што ў міністра быў баль і ў якім убраньні былі госьці, аб тым, што ў графіні ўкралі каралі, як шукалі злодзея, як яго знайшлі, як адбываўся крадзеж, нават портрэт злодзея зьмяшчаўся,—адным словам, у газэтах пішацца аб розных цікавых здарэньнях.

А ў тых газэтах, што далі Юзіку, нічога такога ня было. Тут пісалася пра нейкія задачы, пляны,

пабудовы з цікавымі малюнкамі, „Соевы [1]) комбінат“, „электрыфікацыя Камчаткі“, „рыбны фронт“, „пасеўная кампанія“, „соцыялістычны горад у тайзе“ і шмат падобных незнаёмых рэчаў. Заместа міністраў і злодзеяў тут былі портрэты рабочых, якія лепш выканалі сваю працу. Артыкулы нейкія гучныя, бадзёрыя, да чагосьці заклікаюць. Больш за палову матэрыялу Юзік не разумеў, але і рэшты хапіла для таго, каб закружылася галава. У Юзіка склалася такое ўражаньне, нібы за сьцяной рухаюцца мільёны людзей і машын, што яны нешта крышаць, будуюць, кудысьці нясуцца, што ўся краіна кіпіць, і сярод усяго гэтага руху нават цяжка заўважыць паасобнага чалавека, паасобнае здарэньне, хоць аб гэтым таксама пісалася.

Часам Юзік пытаўся ў дзядзькі Шторма:

— Аб якой гэта пасеўнай кампаніі пішуць у газэтах?

— А гэта, каб сеяліся.

— А ці-ж бяз гэтага ў вас ня сеюць? Ды і рана яшчэ.

— Трэба, каб у час і каб выканаць плян.

Але такое тлумачэньне нічога Юзіку не высьвятляла. А дзядзьку Шторму здавалася, што ён растлумачыў.

Заставалася толькі чакаць, калі выпусьцяць адсюль, калі можна будзе паехаць да дзеда. Тады ён аба ўсім даведаецца, усё ўбачыць...

І час гэты прышоў праз дваццаць дзён.

Юзіку далі паперку, „заробленых“ грошай на дарогу, растлумачылі, куды і як ехаць, і выпусьцілі на волю.

З вялікім хваляваньнем пераступіў ён парог і вышаў на вуліцу незнаёмага гораду незнаёмай краіны,

[1]) Соя—расьліна, падобная да гароху, надта карысная.



## 2 ДА ДЗЕДА

Да гэтага часу Юзік толькі адзін час бачыў горад, тады, калі быў у турме. Але гэты горад, дзе ён цяпер апынуўся, ня меў нічога агульнага з тым. Перш за ўсё тут ня было аніводнага магазыну з шыльдамі якога-небудзь Завадзкага ці Шнэерсона, а ўсё з нейкімі незразумелымі словамі і літарамі—„Кнігарня БДВ“, „ДЭТ“, „Меншвэй“.

„Няўжо-ж гэта прозьвішча такія?“—думаў Юзік.

Ня відаць было і ніводнага каня, а ўсё аўтомобілі. На вуліцы быў вялікі рух, але ніякага грукату ня было: асфальт зьнішчаў і шум і пыл.

Юзік завярнуўся направа, як яму казалі, і пайшоў у той бок, адкуль прыехаў. Хоць ён цяпер і ня дзівіў людзей сваім убраньнем, але шмат каго зьдзівіў тым, што ішоў, разявіўшы рот і задраўшы галаву. Вось па вуліцы ідзе атрад дзяцей з чырвоным сьцягам наперадзе. Ідуць стройна, нібы салдаты. Убраныя ў кароткія сінія штаны і белыя кашулі без рукавоў. На шыі чырвоныя гальштукі. І дзяўчынкі таксама ўбраныя, толькі штаны іхнія шырэйшыя. Вось яны ўсе засьпявалі. Вось іх абмінае бліскучы вялікі аўтомобіль увесь у кветках, а ў ім штук дваццаць маленькіх дзяцей, гадоў па пяць. Яны ўбраныя так, што самі падобны да кветак. Крычаць, сьмяюцца, махаюць рукамі.

„Мусіць, панскія дзеці,—падумаў Юзік.—Толькі чаму іх сабралі разам?“

Вось той самы палац, каля якога ён ехаў. Цяпер ужо Юзік ведаў, што статуя на пляцы—гэта Ленін. Але-ж і будыніна! Аж шыя забалела, пакуль ён яе аглядаў. А насупраць другая будыніна! „Універсы-

тэт“—прачытаў Юзік. А там далей відаць яшчэ шмат такіх самых будынкаў.

Потым прайшоў ён пад чыгуначным мастом, а праз некалькі часу ўжо над чыгункай і нарэшце дайшоў да станцыі, адкуль трэба ехаць на Слуцак.

На станцыі было ціха, ні гудкоў, ні сьвісткоў, ні паравозаў. Узяў Юзік білет да „Курыч“ і вышаў на пляцформу. Замест цягніка там стаялі чатыры трамвайныя вагоны.

— А на Курычы цягнік хутка пойдзе?—спытаўся Юзік у кондуктара.

Той зьдзіўлена зірнуў на хлопчыка:

— Адкуль ты ўзяўся? Гэта-ж і ідзе на Курычы. Сядай.

Трамвай рушыў. Зноў пайшлі прыгожыя дачы. Юзік з нецярплівасьцю чакаў, калі выедуць з гораду, каб паглядзець, якія-ж тут вёскі. Напэўна, і яны лепшыя за іхнія Смалякі. Мусіць, з драўлянымі дахамі.

Становішча Юзіка з самага прыезду сюды ўскладнялася тым, што ён вымушаны быў да ўсяго дахадзіць сам, што яму ня было ў каго запытацца. Зьвяртацца з запытаньнямі да ўсіх гэтых незнаёмых паноў ён ня мог адважыцца. Ці будуць яны з ім гаварыць? Вось, напрыкалд, гэтыя два, што сядзяць супроць яго.

Адзін з іх нагадваў настаўніка з маёнтку пана Загорскага, а другі быў падобны да аконама.

Як у вас сёлета пшаніца?—пытаўся „аконам“.

— Нішто. Думаем зьняць цэнтнэраў трыццаць пяць з гэктару,—адказаў „настаўнік“.

— Шмат засеялі?

— Шэсьць тысяч гэктараў. А ваш статак значна павялічыўся?



— Сёлета будзем мець трыццаць тысяч кароў,—абыякім тонам адказаў „аконам“.

Юзік з жахам зірнуў на іх. Вось дык паны! Шэсьць тысяч гэктараў аднэй толькі пшаніцы! Трыццаць тысяч кароў! Сам пан Загорскі мае толькі пяцьсот, а тут трыццаць тысяч! Гэта-ж казка! Вось табе і „няма паноў!“

Дзьвёхкаляёвая лінія трамваю гублялася на небасхіле. Слупы здаваліся плотам. Праз кожныя паўгадзіны праходзіў сустрэчны трамвай.

Часьцей за ўсё гэта быў не трамвай, а таварныя вагоны без паравозу. А на кілёмэтры два ўбок відаць была яшчэ чыгунка.

Побач з трамваем ішла шаса. Па ёй рух быў яшчэ большы. Больш за ўсё было грузавых аўтомобіляў, поўных усялякімі таварамі. Бязупынна шугалі мотоцыклы і вэлёсыпэды. Сярод гэтага руху адзіная параконная фурманка зьвярнула на сябе агульную ўвагу. Нават Юзіку яна здалася не да рэчы.

А вясковых фурманак так і ня было аніводнай. Ды і наогул аніводнага вяскоўца Юзік ня ўбачыў. Мусіць, з гарадзкіх ваколіц яшчэ ня выехалі,—падумаў ён.

Ваколіцы сапраўды былі гарадзкія. Сям-там стаялі групы белых камяніц, вытыркаліся фабрычныя коміны. Ад галоўнага шляху туды накіроўваліся бакавыя шосы, часта з трамвайнымі рэйкамі. Па іх уліваліся на галоўную шасу аўтомобілі з грузамі.

Палі падзяляліся не на шнуры, а на вялізныя плошчы, засеяныя аднэй якой-небудзь расьлінай. Вось усё ўзвышша занята аднэй толькі бульбай. Сярод акаляючага збожжа яно здаецца чорным, нібы папар. Вось ячмень, густы, шырокалісты, цягнецца на некалькі кілёмэтраў, нібы мора, а там жыта, у

якім чалавек стоячы можа схавацца. Па ўсім відаць, што маёнткі большыя і багацейшыя нават за маёнтак пана Загорскага.

І нідзе аніводнай вёскі!

Вось ужо кілёмэтраў сорак праехалі, некалькі прыпынкаў зрабілі, праехалі два значныя гарады, а навакол усё маёнткі ды маёнткі.

І ўсё дасканалыя, куды лепшыя, як Загорскага.

Вось на бульбяным полі варушыцца шмат машын. Калі трамвай пад'ехаў бліжэй, Юзік убачыў, што яны абсыпаюць бульбу. Адна машына наперадзе вядзе чатыры машыны ззаду, і за адзін раз яны бяруць гоні, якія склалі-б палову зямлі вёскі Смалякі.

Шлях увайшоў у лес. А лес нібы сад. Дрэвы ідуць роўнымі радамі, усе як адно; ніякага гальля на зямлі. І лес таксама перасякаюць шосавыя дарогі.

За лесам вялікая нізіна. Спрактыкаванае вока Юзіка адразу зацікавілася, чым яна засеяна? Па выгляду здавалася—збожжам, бо надта ўжо вялікая вышыня: увесь трамвай мог-бы ў ім схавацца. Але Юзік зараз-жа пазнаў, што гэта—трава.

— Вось і мая хата,—сказаў „аконам“, падрыхтоўваючыся да высадкі.

— Сена нішто сабе,—заўважыў „настаўнік“.

Тут Юзік заўважыў, што на лузе ўжо працуюць машыны. Сенакасілкі рэзалі траву так, што яна сьвісьцела, нібы дрэва ў пільні. Скошанае сена пакрыла зямлю суцэльным тоўстым пластом, так што машынам цяжка было павярнуцца. У другім месцы трактары цягнулі граблі, у трэцім—нейкія дзіўныя машыны з даўгімі шыямі кідалі стагі. А гэтыя вялізарныя стагі стаялі так густа, як копы на звычайных сенажацях.



„Гэта-ж адзін гектар дасьць столькі, колькі ў нас сто!“—ледзь ня ўскрыкнуў Юзік.

— Хто-б падумаў, што калісьці тут было непралазнае балота!—задуменна прамовіў „настаўнік“.

— Затое-ж і папрацавалі! — з гонарам сказаў яго таварыш. — Нават і цяпер мы не задавальняемся аднэй, хоць і добрай, глебай. Мы і цяпер падсыпаем тыя ці іншыя парашкі.

Цяпер Юзік зразумеў, што азначаюць гэтыя роўныя каналы і раўкі з вадой, якія перасякалі поле, нібы шахматную дошку. Гэта яны ператварылі дрыгву ў такую багатую сенажаць.

— А вось і наша багацьце!—паказаў рукой „аконам“.

Юзік таксама зірнуў у той бок і ўбачыў каля лесу нейкае пярэстае мора. Гэта і быў той трыццацёхтысячны статак, аб якім казаў „аконам“.

Вялізная плошча была падзелена загарадкамі на паасобныя пляцоўкі, у якіх і знаходзілася скаціна. Некаторыя пляцоўкі былі пустыя. Тут-жа працякалі каналы, але ў гэтых мясцох яны былі пашыраны і абкладзены цэмантам. У гэтых каналах-саджалках каровы купаліся. Для маладняка былі асобныя загарадкі.

— Яны ў нас цяпер на дачы,—дадаў гаспадар.

— Няўжо-ж выгадней іх так трымаць і карміць, чымся пасьвіць на волі?—запытаўся „настаўнік“.

„Аконам“ расьсьмяяўся.

— Калі пусьціць усю гэтую армію пасьвіцца, дык яна вытаптала-б усё гэтае поле і сама была-б галоднай. А цяпер там хапае травы і на лета і на зіму. А карміць іх ня так ужо цяжка. Бачыш, каля загарадак ідуць рэйкі? Ды вось якраз і сам убачыш.

Аднекуль з-за ўзгорку выпаўзла нібы зьмяя

пачала дзяліцца на часткі і абхінаць загарадкі. Праз некалькі хвілін з кожнага боку, каля самага плоту, яны спыніліся, а ўся скаціна рынулася да іх і павысоўвала галовы праз плот. Цяпер толькі Юзік разгледзеў, што гэта былі выгончыкі-кармушкі з кормам.

— Ня толькі трава, але і гатаваная страва,—пачуўся голас.

Людзей бадай што ня было. Ня было відаць і ніякай машыны, якая везла-б гэтыя цягнікі.

— Узімку гэтыя самыя цягнікі таксама абслугоўваюць хлявы. Вагончыкі праяжджаюць праз фабрыку-кухню, па дарозе нагружаюцца і, ня спыняючыся, едуць далей. Уся опэрацыя часу займае роўна столькі, колькі патрэбна на пераезд цягнікоў праз кухню.

— А як жа-ж даіць іх?—ня ўстрымаўся Юзік.

Дзядзька зірнуў на яго, усьміхнуўся і сказаў:

— Дзеля гэтага трэба толькі насадзіць на вымя гумавыя трубкі, а далей ужо працуе электрычнасьць. Калі вымя выдаіцца, трубкі аўтоматычна выключаюцца. А ўсё малако па трубках цячэ ў агульную трубу і праз яе ўліваецца проста ў малочную, дзе зараз-жа ідзе ў апрацоўку.

— Гэта-ж будзе малочная рака!

— Так яно і ёсьць,—усьміхнуўся „аконам“.

— А як цяпер? Улетку? Таксама з поля ідзе малако?

— А як-жа ж? Розьніца толькі ў тым, што трубка крыху даўжэйшая—толькі і ўсяго. Вось у тэй будцы яна пачынаецца.

— А чаму тыя загарадкі пустыя?

— А туды пераганяем скаціну, калі яна забрудзіць гэтыя. А калі тут ачысьціцца, зарасьце,—зноў пераганяем сюды.



Трамвай праехаў нізіну і спыніўся каля галоўных будынкаў гэтай жывёлагадоўчай фабрыкі.

На погляд Юзіка гэта была ня фабрыка і не маёнтак, а горад. Ды яшчэ з будынкамі даўжынёй ня менш за кілёмэтр кожны. Яшчэ цікавей былі шматлікія вежы, якія нагадвалі вежы ў сярэднявяковых замчышчах, аб якіх чытаў Юзік у кнігах.

Толькі пазьней даведаўся Юзік, што гэта—сіласавыя вежы, у якіх квасіцца корм для жывёлы. Туды ўлетку кідаюць усялякую траву, нават такую, якую жывёла звычайна ня есьць, а з яе потым робіцца надзвычайна добры корм.

Сярод іншых будынкаў вызначаліся малочная фабрыка, бойня, консэрвовая фабрыка.

— Наш беларускі Чыкаго [1]),—казаў „аконам“, выходзячы з вагону.—Ня толькі сваю скаціну мы забіваем і апрацоўваем, але і з суседніх гаспадарак. Дзесяць тысяч галоў у суткі мы можам апрацаваць.

Трамвай паехаў далей.

Нарэшце Юзік пачуў, што наступны прыпынак і будзе Курычы. Цяпер толькі пачаў хлопец трывожыцца і больш сур'ёзна думаць аб тым, што зрабіў. Адкуль ён узяў, што дзед абавязкова жыве? А можа ен даўно памёр? Яму-ж цяпер павінна быць гадоў больш за шэсьцьдзесят. Праўда, гэта яшчэ не такія вялікія гады, але-ж ня кожны дажывае да іх.

Ну, калі што такое, дык павінны быць яшчэ дзядзькі, стрэчныя браты. Ня выганяць-жа яны Юзіка з хаты. Ён ім дапаможа ў гаспадарцы, а можа і ў якім з гэтых маёнткаў работу знойдзе. Але абрыдаў яму маёнтак. Ён ахватней пажыў-бы на вёсцы, як Ма-

[1]) Чыкаго—амэрыканскі горад, здаўна вядомы сваімі бойнямі і мяснымі фабрыкамі.

ксімка. Татка казаў, што Курычы лепш за Смалякі; і зямля лепшая, і мясцовасьць не такая балацістая. Ён будзе езьдзіць на начлег з вясковымі хлапцамі. У маёнтку яму не траплялася езьдзіць. Напіша бацьком, каб і яны прыехалі. Можа, атрымаюць сваю частку зямлі і завядуць сваю ўласную гаспадарку.

З такімі думкамі даехаў ён да станцыі.

Вылез.

Азірнуўся.

Некалькі будынкаў гарадзкога выгляду. Ад іх прысады ў маёнтак з вялізнымі пабудовамі, падобнымі да тых, што ён бачыў у жывёлагадоўчым маёнтку. Зноў едуць аўтомобілі, нагружаныя нейкімі скрынямі.

Вось бяжыць хлопчык гадоў дзесяці. Юзік да яго.

— Ці ня ведаеш, братка, кудой прайсьці да вёскі Курычы?

— Курычы? Ды вось яны і ёсьць.

— Не. Мне ў вёску трэба.

— Вёску?

— Але.

— А што гэта такое „вёска“?

— Ну, дзе людзі жывуць.

— Ды вось яны тут і жывуць.

— Не. Дзе гаспадары жывуць.

— Якія гаспадары?

— Ну, вось, што на зямлі працуюць.

— Ды ўсе тут працуюць, хто на зямлі, хто на прадпрыемстве.

Юзік аж спацеў. Што ён? Дурны ці што?

— Мне трэба вёска, дзе жывуць сяляне.

— А што такое „сяляне“?

Юзік раззлаваўся.

— Калі ня хочаш сказаць, ці сам ня ведаеш, дык так-бы і казаў. А то чаго дурня ламаеш?



І пайшоў далей.

Хлопчык паглядзеў яму ўсьлед, сьвіснуў і крыкнуў:

— Сам ты дурань!

Па дарозе, поволньна шпацыруючы, ідзе паненка, прыгожа ўбраная, з газетай у руцэ. Ці не зьвярнуцца да яе? Але боязна. Як гэта чапаць паненку?

Юзік нерашуча тупаўся, азіраўся.

Дзяўчына заўважыла гэта?

— Чаго, хлопчык, шукаеш?—Спыталася яна лагодна.

— Калі ласка, скажэце, як прайсьці ў вёску?—узрадваўся Юзік.

— Якую вёску? Што гэта значыць?

— Ды вёску Курычы.

— Вось гэта Курычы і ёсьць.

— Мне трэба ў вёску, а ня сюды,—паўтарыў Юзік і яшчэ больш зьдзівіўся, што і дзяўчына бадай таксама гаворыць, як і той хлопчык.

Дзяўчына паглядзела на яго ўважліва, відаць, зьдзівілася і запыталася:

— Адкуль ты і каго табе трэба?

— Я з Польшчы і шукаю свайго дзеда.

— Што?!—шырока расчыніла вочы дзяўчына нават схілілася да Юзіка.

— Я прыляцеў з Польшчы да свайго дзеда, які жыве ў вёсцы Курычы.

Дзяўчына яшчэ ўважлівей паглядзела на хлопца, а потым звонка зарагатала.

—Гэта што значыць: гульня якая, ці што?—сказала яна праз сьмех.

— Далібог праўда, панічка!—сарамліва адказаў Юзік.

„Панічка“! Прыляцеў з Польшчы! Вёска Курычы! Ха-ха-ха!—рагатала дзяўчына.

Юзік зусім зьбянтэжыўся.

—Ну, годзе гуляць,—сказала яна сур'ёзна.—Растлумач, у чым справа.

— Ды я-ж кажу сур'ёзна. Схаваўся ў самалёце і прыляцеў. Цяпер мяне адпусьцілі. Вось і паперку далі.

Дзяўчына ўзяла паперку, прачытала.

— Вось дзіўная рэч!—пляснула рукамі.—Ніколі не падумала-б. А як твайго дзеда звацъ?

— Андрей Кухаронак.

— Ёсьць такі. Ну, хадзем. Я цябе адвяду.

І шпарка пабегла наперад.

Па дарозе яна кожнага спыняла і казала, што да дзядзькі ўнук прыляцеў з Польшчы. Людзі спачатку таксама лічылі гэта за жарт, але потым так зацікаўліваліся, што нават далучаліся да іх. Юзік не пасьпяваў адказваць на іх запытаньні.

Увайшлі ва двор, або лепш сказаць, сад. Дрэвы, падстрыжаныя кусты, клюмбы кветак і чыстыя, белыя дарожкі, пасыпаныя жарствой. У зеляніне—трохпавярховы палац. Вялізны ганак з шырокімі каменнымі ступенямі з трох бакоў. Вялізныя вокны, атачаныя бальконамі. Адным словам, палац, як у кожнага добрага пана.

Юзік туліўся да сваіх праважатых, баючыся, што ня пусьцяць ісьці праз панскі двор. Мусіць, вёска знаходзіцца на тым баку, за палацам, як Смалякі каля маёнтку.

Але... яго павялі проста ў палац! Ці не да пана? Навошта?

Праз шкляныя дзьверы з мядзянай акоўкай увайшлі ў сярэдзіну. Вялікая пярэдняя з колёнамі, люстрамі, электрычнымі ліхтарамі. Направа і налева ідуць калідоры, а ўгору—шырокія сходні. Падняліся





на другі паверх, завярнуліся ў калідор налева і пайшлі ўздоўж дзьвярэй з нумарамі.

То з таго, то з другога пакою выходзілі людзі, выбягалі дзеці, але ўсё гэта бадай што не парушала цішыні. Шырыня і вышыня калідору, разасланыя пасярэдзіне дарожкі скрадвалі гукі.

Нарэшце, спыніліся перад № 47. Дзяўчына пастукалася ў дзьверы.

— Калі ласка!—пачуўся голас.

Са сьціснутым сэрцам пераступіў Юзік парог.

У невялікім высокім пакоі, каля вялізнага акна, праз якое віднеліся верхавіны дрэў, каля стала, з газэтай у руках сядзеў паважны пан з сівой барадой і ў акулярах, у „гарадзкім" гарнітуры. Юзіку чамусьці здалося, што гэта доктар.

— Вось, дзядзька Андрей, да вас унук прыляцеў з Польшчы!—весела крыкнула дзяўчына.

Стары зьняў акуляры і зьдзіўлена паглядзеў на ўвайшоўшых.

Юзік стаяў ля парога і ня ведаў, што рабіць.

— Ну, ідзі пазнаёмся з сваім дзедам,—сказала дзяўчына, узяла яго за руку і падвяла яго да стала.

Стары ўстаў і недаўменна пазіраў то на дзяўчыну, то на хлопца.

— Што ўсё гэта значыць?—нарэшце запытаўся ён у дзяўчыны.

— Ды тое, што кажу,—засьмяялася яна.—Ці не пазнаецё свайго роднага ўнука?

— Ня ведаю такога,—прамовіў дзед, прыглядаючыся да хлопчыка.

— Вось дык дзед!—з жартаўлівым дакорам сказала дзяўчына.—Свайго роднага ўнука прызнаваць ня хоча. А ён-жа ж так ляцеў да свайго дзеда!



— Хто ты такі? Адкуль?—зьвярнуўся дзед да Юзіка.

— Сын Міхала, з Польшчы,—прамовіў хлопец.

— Міхася?! Сына? Дык ён жывы?—усхвалявана ўскрыкнуў дзед.

— Жыве ў маёнтку пана Загорскага, батраком.

— Дык вось чаму нядаўна пыталіся, ці ёсьць у мяне хто ў Польшчы!—сказаў стары.

Ён схапіў абедзьвюма рукамі Юзіка за плечы, схіліўся і засьмяяўся.

— Вось дык гісторыя. А я даўно лічыў, што яго на сьвеце няма. У самую завіруху трапіў. І вестак ніякіх аб ім ня было. Ну, сядай, браток, расказвай.

Дзяўчына ўбачыла, што ёй тут больш няма чаго рабіць, і пайшла да дзьвярэй.

— Бывайце. Знаёмцеся тут. А потым і нам раскажаце.

## 3 ДЗЕД І ЎНУК

Гадзіны са дзьве распытваўся дзед аб сваім сыне, аб іхнім жыцьці, аб самім Юзіку. Юзік заўважыў яшчэ, што дзед цікавіўся ня толькі іхняй сям'ёй, але і наогул аб жыцьці там, у Польшчы. Дзед часта задаваў такія пытаньні, на якія Юзік ня ўмеў адказаць.

Сам Юзік меў таксама шмат пытаньняў, але пакуль што не адважыўся задаваць іх гэтаму незнаёмаму „доктару". Ды і каб адважыўся, ня было мажлівасьці ўставіць свайго пытаньня, бо самому трэба было адказваць.

Нарэшце дзед пляснуў рукамі па каленах і ўскочыў.

— Што-ж гэта я? Забалакаўся і забыўся, што ты, мусіць, есьці хочаш. Будзе яшчэ час пагутарыць. Зараз пашукаю.

І ён вышаў з пакою.

Застаўшыся адзін, Юзік паспробваў сабраць свае думкі, але, замест гэтага, яшчэ больш заблытаўся. Якім чынам дзед зрабіўся нейкім доктарам, калі бацька сын яго, і да гэтага часу застаўся няпісьменным батраком? Дзе рэшта радні? Чаму гэтак цяжка натрапіць на сьлед вёскі Курычы, якая павінна быць тутака, бо і маёнтак завецца Курычы? Нават нешта таемнае адчуваецца, калі пытаешся пра вёску.

Увайшоў дзед з міскамі.

— Мы ўжо паабедалі,—сказаў ён,—засталося толькі сёе-тое. Ну, нішто, падмацуйся.

„Сёе-тое“ складалася з катлет і салодкай маннай кашы. Гэты абед канчаткова пераканаў Юзіка, што яго дзед вялікі пан. Мусіць, ён служыць у маёнтку доктарам. А можа і сам гаспадар маёнтку? Хто яго ведае?

— Гэта ваш маёнтак?—адважыўся, нарэшце, спытацца Юзік.

— Наш. А то чый-жа?—спакойна адказаў дзед.— Зараз якраз мне ня трэба ісьці на службу, дык я пакажу табе нашую гаспадарку.

— А вы... вы... слу...жыце?—зьдзіўлена запытаўся Юзік.

— А як-жа ж? Кожны павінен працаваць.

— Якую пасаду вы займаеце.

— Ды мне, старому, лёгкую працу далі: гной убіраць у куратніку.

Дзы-нь!—пакацілася лыжка па падлозе, а ўсьлед за гэтым бразнуўся з рук Юзіка і сподак з кашай...



Зірнуў дзед на Юзіка. А той сядзіць, вылупіўшы вочы і разявіўшы рот, нібы вар'ят, і глядзіць на дзеда, як на страшыдла якое.

— Што з табой?—спалохаўся дзед.—Хворы?

— Не... Я... я.... не разумею... Як гэта такая служба і... і...—замармытаў Юзік.

— Што-ж тут такога?—яшчэ болей зьдзівіўся дзед.—Служба, як служба. Нават лепшая за іншую. Возьмеш машынку, паводзіш ёю па падлозе—і праз хуткі час падлога чыстая, вымытая.

— А я думаў, што вы...доктар які, ці што.

— Чаму так?—засьмяяўся дзед.

— Ды...усё па-панску.

— А-а! Вось што?—затросься ад сьмеху дзед.— Я забыўся, што ты зьявіўся з другога сьвету і мяркуеш па-вашаму. Не, браток. У нас паноў няма, або, лепш сказаць, усе ў нас аднолькавыя паны. Кожны чалавек жыве па-людзку, кожная праца карысная і патрэбная. Для доктара таксама патрэбна наша праца, як для нас доктарская. Чаму-ж той, хто даглядае курэй ці кароў, павінен жыць горш? Эх, рана я на сьвет нарадзіўся, не пасьпеў навукай аўладаць! Вось падвучыўся трохі—і ўсё. А некаторыя маладзейшыя навучыліся ня менш, як доктар ці профэсар, і гэта зусім не перашкаджае ім пахаць зямлю. Наадварот яшчэ,—дапамагае.

Слухаючы гэтую лекцыю Юзік успомніў тых вучоных „паноў“, якіх ён упяршыню ўбачыў, калі ехаў з аэродрому, і цяпер ужо зразумеў, у чым была справа. Відаць, гэта і былі ўсё такія рабочыя, аб якіх кажа дзед.

— А як жывуць сяляне?—задаў пытаньне Юзік.

Дзед зноў засьмяяўся.

— Таксама, як я. Я-ж селянін.

Не. Тыя, што ў вёсках жывуць.

— Ды я-ж нікуды не выяжджаў. Так увесь век і жыву ў сваіх Курычах,—жартаваў дзед.

— Усьміхнуўся і Юзік, бачачы, што дзед жартуе.

— А дзе Курычы?

— Ды вось тут, дзе ты сядзіш.

А вёска дзе?—упарта пытаўся хлопец.

— Ну, дык ведай,—ужо сур'ёзна сказаў дзед:— тых Курычаў, аб якіх ты думаеш, даўно ўжо і сьледу няма. Такіх вёсак, як вашыя Смалякі ці як іх там, ва ўсёй нашай краіне ня знойдзеш. Шмат гадоў, як наша вёска злучылася ў адну гаспадарку. Спачатку мы жылі па сваіх хатах, а за гэты час будавалі дасканалыя, агульныя гаспадарчыя будынкі: хлявы, сьвіраны. Набылі машыны, узьнялі сваю гаспадарку і разбагацелі ня горш ад вашага пана Загорскага. Тады мы, заместа нашых халуп, пабудавалі вось гэтую камяніцу, дзе і зьмясьціліся ўсе шэсьцьдзесят сямействаў нашай вёскі. Такім чынам, як бачыш, я праўду казаў, што вёска Курычы знаходзіцца вось тут, дзе ты сядзіш.

Юзік нават азірнуўся па бакох.

— Якім чынам вы гэтак здолелі?—прамовіў ён задуменна.—Каб можна было, дык і нашыя Смалякі гэтак зрабілі.

— На тое наша краіна Савецкая!—з гонарам адказаў дзед і нават пагладзіў сваю бараду.—Сваімі толькі Курычанскімі сіламі і мы не зрабілі-б. Але ў нас такі лад, што кожны працуе не для сябе, а для ўсіх. Нам далі машыны і будаўнічыя матэрыялы, каб хутчэй узьняць нашую гаспадарку. А наладзіўшы яе, мы вярнулі за ўсё гэта сваімі прадуктамі, і стараемся даць, як мага болей, каб і другія таксама ўзьнялі



сваю гаспадарку. А хто дапаможа вашым Смаляком? Ці ня пан Загорскі дошкамі для ўборных?

— Мы па радыё чулі,—прамовіў Юзік,—што ў Курычах пабудован нейкі вялікі куратнік. Мільёны каштуе. Гэта тут?

— Тут. Ты ўбачыш гэты „куратнік“,—усьміхнуўся дзед.

— Няўжо-ж вы і мільёны набралі для пабудовы яго?

— Гэта дзяржава пабудавала.

— Ён, значыцца, ня ваш?

— Як табе сказаць?—задумаўся дзед.—І наш і ня наш. Таксама, як і гэты дом і ўсё, што ты бачыш навокал.

— Значыцца, праўда, што тут ніхто нічога свайго ня мае, як казалі ў нас?—з нейкім расчараваньнем сказаў Юзік.

Дзед паглядзеў на яго з усьмешкай.

— Зноў ты па-вашаму разважаеш! Ну, якую ўласнасьць ты хацеў-бы? Кавалак зямлі? Але ён патрэбен толькі для таго, каб атрымаць хлеб. Ну, дык еж хлеба колькі хочаш. Карову, каб мець малако? Малака кожнаму з нас хапае. Каня? Я і без яго магу ехаць, куды мне трэба. Хату? Я думаю, кожны ваш селянін згадзіўся-б памяняць сваю халупу на гэтае памяшканьне. Ну, якую яшчэ ўласнасьць ты хацеў-бы?

— Але ўсё гэта не сваё.

— А чым горшы гэты абед, хлеб, пакой за сваё?

— Калі чалавек сам сабе гаспадар, ён можа рабіць, што хоча. Вось татка хацеў-бы мець хоць такую гаспадарку, як Максімкаў бацька.

— А гэты Максімкаў бацька лепш жыве, як мы тут?—падміргнуў дзед.

Юзік нічога ня мог адказаць. У галаве яго стварылася блытаніна. Ён пераканаўся, што сапраўды тут ня маюць уласнасьці, як і казалі. Але разам з тым бачыў, што маюць усё, што патрэбна. Як-жа ж гэта так? І маюць і ня маюць!

Але разважаць аб гэтым ён ня зьбіраўся. Што яму да таго? Ці ён гаспадар які, ці што? У кожным разе відаць, што ён трапіў з пекла ў рай.

Рупіла яшчэ толькі адно пытаньне:

— Ці праўду татка казаў, што вы самі былі незадаволены новымі парадкамі, нават лаялі бальшавікоў?

Дзед пацешна паскроб сабе патыліцу.

— Было, унучак, было. Нават ня я адзін! а шмат хто з нас. Вядома, дурныя былі. Ці мог хто думаць, што гэтак будзе? Але затое цяпер, каб хто пайшоў на нас вайной, дык я першы ўхаплюся за стрэльбу, каб абараніць наш лад. А тымчасам давай зараз-жа напішам ліст да твайго бацькі. Вось і табе асобны кавалачак паперы, напішы ад сябе.

Дзед і ўнук уселіся за стол і пачалі пісаць. Дзед апісаў гісторыю і лёс сваёй вёскі, сьмерць маткі, жыцьцё братоў і іншых сваякоў і знаёмых, якіх Міхал павінен быў памятаць. Пытаўся аб некаторых бакох іхняга жыцьця, чаго ня мог растлумачыць Юзік. І нарэшце напісаў, што думае ўзьняць хадайніцтва аб дазволе прыехаць і ім сюды.

Юзікаў-жа ліст складаўся галоўным чынам з няскладных охаў ды ахаў наконт розных „цудаў“, якія ён тут убачыў. Каб ён адзін паслаў такі ліст бацьком, дык тыя напэўна плюнулі-б і вылаяліся на бязглузьдзіцу. Але разам з сур'ёзным дакладным лістом дзеда гэтыя ахі былі больш-менш зразумелымі. Вядома, у першую чаргу Юзік зваў сюды



бацькоў. Не забыўся ён і Максімку. Яму ён напісаў асобны ліст з самымі шчырымі прывітаньнямі і падзякай. Пры гэтым настойліва раіў таксама прыляцець ці прабрацца сюды якім-небудзь іншым спосабам.

А ўсьлед за гэтым Юзік успомніў Мотэля і яму напісаў ліст.

Было ўжо гадзін сем, калі дзед з унукам скончылі свае лісты. Ліст да Міхала выдаўся аж занадта тоўсты.

— Прыдзецца, мусіць, дзьве маркі клеіць на яго,—заўважыў дзед.—А цяпер пойдзем „на вёску“, пазнаёмімся з „сялянамі“, паглядзім на „вячоркі“, а там можа і павячэраць дадуць.

Яны спусьціліся ўніз і ўвайшлі ў вялікі пакой, у якім стаяла некалькі даўгіх сталоў, пакрыты белымі абрусамі. На сталох кветкі, шклянкі, мэталёвыя кошыкі і парцалянавыя міскі з хлебам, булкамі, сухарамі, талеркі з маслам, сырам, каўбасой, яйкамі, шкляныя вазачкі з цукрам, каляровыя фабрычныя збаны з малаком. За сталамі сядзелі паны і пілі гарбату ці каву; адны падыходзілі, другія адыходзілі.

Юзік успомніў рэсторан у сваім горадзе, дзе ён раз наглядаў праз вакно, як паны елі.

Дзед агледзеўся і падышоў да аднаго пана, каля якога было два вольных крэслы.

— Вось, Сымон, табе пляменьнік, Міхася сын,— зьвярнуўся да яго дзед, а потым сказаў Юзіку.— Гэта старэйшы брат твайго бацькі.

— Чуў, чуў ужо,—адказаў дзядзька.—Толькі што зьбіраўся ісьці да вас. Ну што, браток, як табе падабаецца, „вёска Курычы“?—зьвярнуўся ён да Юзіка і пapляскаў рукою па плячы.

Юзік стаяў зьбянтэжаны і неяк крыва ўсьміхаўся.

— А вось і яшчэ „сяляне“ ідуць, усё сваякі,— сказаў дзед, кіўнуўшы галавой у той бок, адкуль накіроўвалася некалькі людзей, мужчын, жанчын і дзяцей.

— Вось цётка Агата, вось твой стрэчны брат Кім, сястра Рыма...—знаёміў дзед.

Уся гэтая радня абступіла Юзіка, пачала вітаць, абнімаць, цалаваць. Падышлі і іншыя „сяляне“.

— Міхася сын! З Польшчы!—чуліся галасы.

— Гэта той, што зьнік у дваццатым годзе? Памятаю, я з ім якраз тады быў у полі.

Адным словам, Юзік апынуўся ў сваім родным асяродзьдзі. Шмат людзей ведала яго бацьку, разам сьвіньні пасьвілі, на начлег езьдзілі. Сапраўды, гэта вяскоўцы з Курычаў.

Але-ж не... Гэта, мусіць, сон...

Няўжо-ж гэтая паважная пані, так добра ўбраная, з такім тварам, такімі рукамі—няўжо-ж яна родная сястра яго бацькі? Або той пан, падобны да нейкага артыста няўжо-ж ён разам з бацькам сьвіньні пасьвіў? Няўжо-ж гэты дваццацігадовы паніч з дзіўнай назвай „Кім“ сын бацькавага брата? А на сястрыцу і зірнуць боязна. Такіх паненак ён бачыў толькі праз плот у садзе пана Загорскага.

— Ну, годзе!—закамандаваў дзед.—Дайце яму пад'есьці. Будзе яшчэ час пагутарыць.

Але лёгка яму казаць—есьці! Юзік лепш згадзіўся-б зусім ня есьці, чымся садзіцца за гэты стол. Ліха яго ведае, як тут падступіцца! Палез рукамі ў талерку па сыр, а дзед штурхае—бяры відэлец! Палез па кавалак цукру, а дзед кажа—бяры лыжачкай! Зьбянтэжаны Юзік, нарэшце, у яйка пачаў торкаць відэльцам ды перакуліў шклянку з гарбатай...



— Эх, брат!—засьмяяўся дзед.—Адразу відаць, што ты з Заходняй Эўропы! Давай я табе памагу, пакуль навучышся.

Скончылася пакута, і дзед павёў Юзіка на другі бок будынку. Ужо сьцямнелася і засьвіціліся электрычныя лямпы. У адным пакоі з зялёным сьвятлом было шмат шафаў з кнігамі, а за сталамі сядзелі людзі і чыталі. Ціха тут было, гаварылі шэптам. У другім пакоі сабраўся больш жывы народ; чуўся сьмех, гулялі ў шахматы і іншыя невядомыя Юзіку гульні. Трэці пакой быў абсталяваны мяккаю мэбляю і там на канапе сядзелі Кім з Рымаю.

— Даручаю яго вам!—сказаў дзед, падвёўшы Юзіка.

— Нам зараз-жа на лекцыю трэба ісьці,—адказалі яны.—Ці захоча ён з намі нудзіцца?

— Не, я вельмі хачу!—адказаў Юзік.

— Ну і добра!—сказаў дзед і вышаў з пакою.

Юзік, нібы вавучанё, зірнуў на свайго брата і сястрыцу. Дзяўчына заўважыла гэта і весела засьмяялася.

— Што? Баішся? Страшныя?—сказала яна.

Юзік засароміўся.

— Не... Але...—прамармытаў ён.

— Што „але“?

— Ды неяк дзіўна ўсё гэта.

— А што цябе дзівіць?—запытаўся Кім.

— Ды неяк непадобна ўсё.

— Хто? Мы непадобныя?

— І вы.

— Да каго?

— Да людзей,—неяк мімаволі вырвалася ў Юзіка.

Рыма і Кім аж схіліліся да падлогі ад сьмеху.

— А да каго мы падобныя?—ледзь выгаварыў Кім.

— Да паноў,—буркнуў Юзік.

— Ну дык што з таго? Ці дрэнна гэта?

— Не. Але я думаў...

— Ну, што-ж ты думаў?

— Што тут свае людзі.

Зноў рогат.

— А чаму-ж ты цяпер ня хочаш прызнаваць нас за сваіх?

— Я—нічога. Але вы ня будзеце прызнаваць.

— Чаму так?

— Ды вы—паны.

Кім падміргнуў Рыме і прамовіў:

— А цяпер, калі ты будзеш жыць з намі, дык і ты будзеш пан. Вось і будзем свае.

— Я просты. Я пастухом быў у пана.

— А я яшчэ прасьцейшы!—комічна ўздыхнуў Кім.—Я сьвінарнік даглядаю.

А я кароў даю!—таксама ўздыхнула Рыма, склала рукі між кален і падняла вочы ўгару.

Юзік недаверліва паглядзеў на іх, а потым успомніў „доктарскую" профэсію дзеда і пацiснуў плячыма:

— Хто тут вас разьбярэ...

— Хочаш, я цябе навучу, як адразу ўсё гэта разабрацъ?—ужо сур'ёзна сказаў Кім.

— Як?

— Забудзься ты на сваю Польшчу і не раўняй іхні стан з нашым—вось і ўсё. Глядзі ў нас на ўсё, як яно ёсьць—і больш нічога. А калі ты будзеш увесь час раўнаць, дык увесь час будзеш сьмяшыць людзей. Гэтак нашы куры ўвесь век могуць дзівіцца, калі пачнуць раўнаць свае ногі, пер'е, галаву, скажам, з конскімі. Зразумеў?



— Трохі разумею, але ня прывык яшчэ.

— Вось і прывыкай. Але ўжо час ісьці на лекцыю. Хадзем.

Яны ўвайшлі ў пакой без вакон, з радамі крэсел з экранам наперадзе. Відаць было што гэта—кіно, толькі перад крэсламі стаялі столікі-пюпітры для пісаньня. Паступова крэслы запаўняліся людзьмі, галоўным чынам моладзьдзю, але былі людзі і больш за трыццаць годоў.

Юзік ніяк ня мог зразумець, што тут: ці школа, ці кіно, і з цікавасьцю чакаў, што будзе далей. Вось сьвятло згасла. На экране паказаўся чалавек, побач з ім клясная дошка. Чалавек паварушыўся трохі, абапёрся аб свой стол і... загаварыў! Загаварыў звычайным голасам, як кожны чалавек:

„Мінулы раз мы з вамі спыніліся, здаецца, на раскладаньні ў рады розных трансцэндэнтных функцый, калі ня мыляюся, сінуса гіпэрболікума і косінуса гіпэрболікума. Цяпер пяройдзем да адваротных кругавых функцый. Ну вось, няхай мы маем (і ён напісаў на дошцы: У—arctgx). Гэтая функцыя пэрыодычная, і таму азначае злучанасьць бяскрайнай колькасьці значэньняў зьменнай ікс, якія задавальняюць гэтаму раўнаньню. Калі-б раскладаць гэтую функцыю па звычайных правілах, у рад Тэйлёра ці Маклёрэна, то гэта было-б вельмі цяжка, бо, як вы ведаеце, выводныя вышэйшых парадкаў ад аркустангенса вызначаюцца вельмі складана. Таму мы дапасуем сюды некалькі штучны спосаб. Прадыфэрэнцуем раўнаньне і разгорнем выводную простым дзяленьнем (і ён зноў напісаў на дошцы:

$$d.\ \mathrm{arctg}x + \frac{dx}{1+x^2} = (1 - x^4 + x^4 - x^6 + \ldots dx;).$$ Цяпер праінтэгруем гэтае раўнаньне ад нуля да ікс (тут ужо профэсар напісаў яшчэ больш хітрую, штуку:

$$\int d\ \mathrm{arctg}x = \int \frac{dx}{1+x^2} = \mathrm{arctg}x =$$
$$= x\ \frac{-x^3}{3} + \frac{x^5}{5} - \frac{x^7}{7} + \ldots \Big)$$".

І пайшоў, і пайшоў крыць...

Перад слухачамі на сталах былі маленькія лямпачкі пад каптурамі. Калі іх запаліць, яны асьвятлялі толькі сшыткі і больш сьвятла не давалі. Кожны раз, калі трэба было запісваць, слухач запальваў гэтую лямпачку. А Юзік сядзеў, разявіўшы рот, і пазіраў то на профэсара, то на слухачоў. Ён ня ведаў, чаму больш дзівіцца: ці таму, што профэсар на экране гаворыць, ці таму, што на сьвеце існуюць такія хітрыя навукі, ці таму, што слухачы, відаць, разумеюць яе.

Прайшло дзесяць-дваццаць хвілін, паўгадзіны. Мудрая лекцыя ідзе ды ідзе. Нарэшце, Юзік ня вытрымаў і... заснуў.

Калі яго раскатурхалі, у залі было сьветла. Перад ім стаялі Кім з Рымай і іншыя слухачы і весела сьмяяліся.

Падышоў дзед і адвёў Юзіка ў свой пакой. Кладучыся спаць Юзік пытаўся ў дзеда:

— Што гэта за школа такая?

— Гэта—унівэрсытэт.

— Як-жа ж гэта профэсар гаворыць на экране? Ён сапраўдны?

— Зусім сапраўдны. Чытае лекцыі ў Менску, а тут бачаць і слухаюць. Навука даўно ўжо злучыла радыё і кіно. Ці ў вас там ня было?

— Чулі мы, бы казку, што ў панскім палацы ёсьць такая штука, але мы ня бачылі. А на каго вучацца Кім і Рыма?

— На людзей,—усьміхаючыся адказаў дзед.

Юзік недаўменна зірнуў на яго.

— Ва унівэрсытэтах вучацца ці на доктара, ці на інжынэра, ці на профэсара, а тут як гэта—на людзей?—прамовіў хлопец.



— Калі трэба будзе, яны і інжынэрамі будуць, а калі не, дык і надалей будуць убіраць сьвінарнік і даіць кароў. Ці не ўсяроўна? Навука ніколі не пашкодзіць.

— І Рыма можа быць інжынэрам?

— Вядома, можа. Магчыма, яна і пойдзе далей вучыцца, бо мае да гэтай навукі і вялікія здольнасьці і вялікую ахвоту.

— Дык яна-ж дзяўчына!—ускрыкнуў Юзік.

— Зноў ты са сваімі старымі глупствамі!—паківаў галавой дзед.—Ці не ўсяроўна, ці мужчына ці жанчына? У нас ва ўсёй краіне ня знойдзецца аніводнага чалавека, якому магло-б прыйсьці ў галаву такое глупства.

— А калі кожны захоча быць інжынэрам ці профэсарам?

— Ну не, браток! Такіх ахвотнікаў ня надта ўжо многа. Праца інжынэра ці профэсара больш цяжкая і адказная, як наша. А якое лепшае жыцьцё ён можа сабе выдумаць? Ці болей за нас зьесьць масла, мяса і іншых рэчаў? Ці ў лепшым доме будзе жыць? На тую працу ідуць толькі тыя, хто выявіць найлепшыя здольнасьці і ахвоту. А калі такіх набярэцца больш, як трэба, дык выберуць самых здольных да гэтай працы. А рэшта нічога ня траціць, бо жыве таксама, як і інжынэр, і можа сабе займацца навукай, колькі хоча. Вось у нас ёсьць адзін скотнік, кароў корміць. Ён вучоны ня менш за профэсара, але сваю пасаду ня кідае. Адпрацуе свае пяць гадзін і сядзіць у лябараторыі над рознымі сваімі хэмічнымі досьледамі. Вывучае, што і як дадаць у корм для скаціны, каб больш было карысьці, увесь час важдаецца з гэтай справай. Надрукаваў шмат навуковых артыкулаў, якія прынесьлі вялікую карысьць іншым

гаспадаркам. У нас няма такога падзелу працы на горшую і лепшую, як вы там прывыклі думаць. Горшай працай у нас лічыцца тая, якую чалавек горш выконвае, а самая лепшая тая, якую чалавек найлепш выканае. Калі я дасканала буду даглядаць свой куратнік, я буду карыстацца большай пашанай, чымся інжынэр, які сваю справу зробіць абыяк. Вось пажывеш і ўбачыш, што нічога дзіўнага тут няма. Куды больш дзіўна тое, што заграніцай робіцца. Вось гэта дык сапраўды дзіва!

Юзік доўга круціўся ў ложку з боку на бок. У галаве было столькі нязвычайных уражаньняў, столькі думак, што і сон ня ішоў. А калі ён неяк выпадкова прыпомніў, што прыехаў толькі сёньня, ды яшчэ пасьля паўдня, дык нават ускочыў і сеў на ложку. Ня можа быць! Няўжо-ж гэта праўда? Ён-жа ж тут шмат дзён, нават тыдняў, месяцаў!

Нездарма кажуць, што жыцьцё чалавека мераецца ня колькасьцю гадоў, а колькасьцю ўражаньняў, якія ён перажыў.

## 4. ПТУШЫНАЕ ЦАРСТВА

Раніцою адчыніў Юзік вочы, глянуў: вялікі белы пакой, шырачэзнае вакно, мора сьвятла, шчабятаньне птушак бадай што над самым вухам, ложак ля другой сьцяны. Дзе-ж гэта ён?

У гэты момант адчынілася дзьвер, і ўвашоў дзед бадзёры, вясёлы.

— А ты ўжо прачнуўся?—сказаў ён.—А я ўжо сваю ранішнюю працу зрабіў. Уставай, пойдзем мыцца, а потым сьнедаць.



Дзед павёў Юзіка ўніз, у пакой, дзе былі ўмывальнікі, ванны, краны.

— Распранайся, станавіся пад дождж!—закамандваў дзед.

Юзік стаў пад нейкае рэшата, дзед крутнуў крант і хлопец заскакаў пад досыць халодным дажджом.

— Нічога, нічога! — падбадзёрваў дзед. — Гэта вельмі здарова. Я кожны дзень гэтак раблю, затое адчуваю, што пражыву яшчэ ня менш як сорак гадоў.

— А я адчуваю, што пражыву сто гадоў!— пажартаваў Юзік, калі выцерся і апрануўся.

— Не яшчэ,—адказаў дзед.—На сто гадоў аднаго гэтага ня хопіць. Трэба яшчэ трохі фізкультурай заняцца. Бадай усё наша насельніцтва займаецца вось у тым суседнім пакоі, па групах адпаведна ўзросту. Нават цётка Агата не адстае.

— Няўжо-ж і цётка?!—крыкнуў Юзік.

— А чаму-ж не? Вядома, яна ня скача і ня выкручваецца так, як ваш брат. Для кожнага ёсьць адпаведныя практыкаваньні, якія ўмацоўваюць і захоўваюць цела. Нават і я некаторы час займаўся, ды, нажаль, спыніў, і цяпер толькі кожны дзень вось так купаюся. Вось далучышся сам і ўбачыш.

Зайшлі ў тую самую сталовую, але людзей там было значна менш, як учора.

— Сьнеданьне даюць ад сёмай да дзесятай гадзіны, — казаў дзед. — Кожны есьць, калі яму выгадней. Вось табе кава, бяры хлеб, масла, яйкі, што хочаш, толькі будзь больш спрытны.

На гэты раз Юзік быў ужо куды зграбнейшы.

— А я сабе папрашу смажанага мяса,—казаў далей дзед.—Табе не прапаную, бо ня варта дзецям есьці шмат мяса.

— Ды я і ня хочу,—сказаў Юзік, пхаючы булку з маслам і з галяндзкім сырам.

Калі трохі пад'еў, дык запытаўся!

— Адкуль гэта ўсё бярэцца? Хто дае? Хто плаціць?

— А навошта-ж наша гаспадарка, навошта-ж мы працуем? А плаціць самім сабе не выпадае.

— А калі хто будзе есьці болей, будзе есьці толькі булкі з маслам?

— Ну і хай есьць сабе на здароў'е!—засьмяяўся дзед.—Больш, як трэба чалавеку, ніхто ня зьесьць.

— А як адзеньне і іншыя рэчы?—дапытваўся Юзік.

— Таксама, як у вас там у сям'і. Што чалавеку трэба, тое яму і спраўляюць.

— Як-жа ж усяго гэтага хапае?—дзівіўся хлопец.

— Вось у гэтым і ўся справа!—падхапіў дзед.—Калі-б ваш пан Загорскі ўсе свае прыбыткі з маёнтку разьмеркаваў між усімі сваімі работнікамі, дык і ў вас хапіла-б на ўсіх. А ў нас, апрача таго, і ўся вытворчасьць, уся праца пастаўлены лепш. У нас абсталяваньне лепшае, праца больш навуковая, мы працуем спарней, ахватней,—таму мы маем прыбытку яшчэ больш, як вашы паны, таму на ўсіх яшчэ больш прыпадае.

— А калі каму патрэбны грошы на свае ўласныя справы?

— Э, ды ты, брат, як я бачу гаспадар! Да ўсяго даходзіш!—сказаў дзед і папляскаў унука па плячы.—Ну дык вось. Такіх патрэб ужо нямнога. Усё асноўнае ўтрыманьне кожны з нас мае. Прыдзе час, калі грошы і зусім скасуюць. Але покуль што яны патрэбны для разрахункаў. Яшчэ ня ўсе гаспадаркі аднолькава працуюць, аднолькава вырабляюць. Хто лепш гаспадарыць, той больш мае. Кожная гаспадарка



мяняе, прадае свае продукты, каб набыць сабе іншыя патрэбныя рэчы. Для гэтых разьлікаў і патрэбны грошы. Патрэбны яны і для агульных падлікаў і разьлікаў па ўсёй дзяржаве, патрэбны ў гандлі з замежнымі краінамі. І, нарэшце, патрэбны кожнаму з нас на асабістыя справы. Адзін любіць, напрыклад, шакаляду, другі хоча набыць сабе ўласны фотоапарат, вэлёсыпэд, трэці любіць вандраваць і г. д. Задаволіць кожнага ўсім, што толькі прыдзе яму да галавы, вядома, пакуль што яшчэ немагчыма. Гэтыя дадатковыя патрэбы кожны задавальняе на свае ўласныя сродкі, дзеля чаго мы атрымоўваем яшчэ і пэнсію.

— А пэнсія таксама аднолькавая, як і ўсё іншае?

— А вось тут ужо ёсьць розьніца. Пэнсія, апрача таго, служыць для рэгуляваньня, разьмеркаваньня профэсій. Калі, скажам, набіраецца шмат ахвотнікаў быць інжынэрамі, а мала ахвотнікаў быць настаўнікамі, дык настаўнікам павялічваецца пэнсія—і людзі накіроўваюцца на гэту працу. Калі вельмі многа народу хоча быць і настаўнікамі і інжынэрамі, а ня хочуць пахаць зямлю, дык павялічваецца пэнсія за гэтую працу, больш як інжынэрам і настаўнікам. Дый наогул пэнсія служыць для таго, каб надаць ахвоты ў кожнай працы.

Толькі цяпер Юзік упяршыню адчуў, што крышачку пачынае разумець гэты дзіўны сьвет, у якім ён адчуваў сябе, нібы ў лесе. Але разуменьне было яшчэ вельмі цьмянае. Што там ні кажы, а на працягу ўсяго свайго хоць і невялікага жыцьця ён штодзень знаходзіўся пад уплывам зусім іншых умоў, уражаньняў, узьдзеяньня. І вось на працягу некалькіх дзён усё гэта ляціць дагары нагамі. Тое, што для тутэйшых людзей было дробнай, звычайнай зьявай, для Юзіка было нязвычайным, складаным пытаньнем.

Больш за ўсё перашкаджала тое, аб чым казаў учора Кім, гэта—параўнаньне з тым сьветам, у якім ён да гэтага часу жыў. Хоць і разумную параду даў Кім, але выканаць яе было ня так ужо проста.

— Няўжо-ж ва ўсёй краіне гэтак жывуць? Няўжо-ж нідзе няма аніводнай вёскі?—спытаўся ён яшчэ.

— А як табе здаецца?—усьміхаўся дзед.—Ці могуць знайсьціся дурні, якія добраахвотна згадзіліся-б жыць побач на сваіх мізэрных гаспадарках, замест таго, каб жыць так, як мы?

— А можа ня ўсе гэтак жывуць?—сумняваўся Юзік.—У вас-жа ж ёсьць нейкая вялікая птушыная фабрыка?

— А ў другіх ёсьць сьвіная ці кароўя фабрыка, у трэціх бульбяная фабрыка, хлебная, ільняная, яблычная і г. д. Кожнай гаспадарцы даюцца ўсе магчымасьці абсталявацца як сьлед. А нашыя індустрыяльныя фабрыкі даюць нам для гэтага ўсё, што толькі трэба. Ня выкарыстаць гэтыя магчымасьці можа толькі гультай. А ці-ж можа быць, каб у колектыўнай гаспадарцы сабралося, скажам, пяцьсот чалавек і ўсе гультаі? Ну, пойдзем, пакажу табе нашу фабрыку.

Вышлі з будынку, прайшлі двор-сад і апынуліся нібы ў нейкім новым горадзе. Вялізныя будыніны, цэмантовыя, жалезныя, з комінамі, вышкамі, надбудовамі ўздымаліся па бакох плошчы і вуліц, выбрукаваных цэмантам роўных, як стол. З надворнага выгляду ніяк нельга было пазнаць, што гэта за будынкі. Вось той высокі будынак—нібы фабрыка чамусьці бяз вокнаў. Гэты нізкі, але займае такую плошчу, што на ёй зьмясьцілася-б добрая вёска. Там вокны займаюць усю сьцяну, а там яны прыладжаны чамусьці высока, а ў некаторых дык і зусім бяз ніякага парадку: збоку крыва, наўскасяк.



— Пойдзем спачатку паглядзім на нашых кватух,—сказаў дзед і накіраваўся ў адзін з шырокіх нізкіх будынкаў. Увайшлі ў яго, а ў ім нібы вуліцы, а па бакох гэтых вуліц цягнуцца новыя будынкі, жалезныя, доўгія-доўгія, вузкія і бяз вокнаў. Яны трохі нагадвалі склады на чыгуначных станцыях.

Ніякіх квактух пакуль што ня было чуваць.

Каля кожнага з гэтых складаў хадзіў чалавек, пазіраў на цёпламеры і іншыя прылады, што былі на сьценах, сям-там дакранаўся да нечага. Дзед падышоў да аднаго з іх, аб нечым перагаварыў, і яны накіраваліся да пярэдняй сьцяны аднаго з гэтых даўгіх будынкаў. Цяпер толькі убачыў Юзік, што тут былі дзьверы, але так шчыльна дапасаваныя, што сам ніколі-б не заўважыў.

Адчыніліся дзьверы, і яны ўвайшлі ў нейкі цёмны, цёплы катух. Другія дзьверы адчынілі—і ўвайшлі таксама ў цёмнае памяшканьне, але такое цёплае што Юзік гатоў быў падумаць, што гэта—лазьня.

Запалілі сьвятло—і Юзік убачыў калідор, які цягнуўся, здавалася, на які кілёмэтр, а па бакох яго ў скрынях поўнымі радкамі ляжалі яйкі. І тут ніякіх квактух ня было.

Але дзед тымчасам пачаў тлумачыць:

— Вось гэта і ёсьць наша квактуха—інкубатар. Ён дае такую самую цяплыню, як цела курыцы, гэта значыць сорак градусаў. Дзеля таго, што курыца грэе яйка зьверху, дык і тут зьнізу яйкі трохі ахаладжваюцца. Апрача таго, курыца, як ты і сам, мусіць, ведаеш, час-ад-часу паварочвае яйкі. Таму і тут яны паварочваюцца два разы ў дзень.

— Ці можна столькі яек перавярнуць—перарваў Юзік.

— Вядома, ня рукамі. Нават уваходзіць у сярэдзіну ня трэба. Там знадворку трэба толькі націснуць кнопку, і кожны радок перавернецца. Бачыш, яны ў жалобках. Апрача таго, кожныя шэсьць дзён трэба рабіць вэнтыляцыю ва ўсім памяшканьні. І праз тры тыдні выходзяць кураняты, як мае быць. Тут пяцьсот тысяч яек.

— Няўжо-ж з усіх іх выйдуць кураняты?!

— Бадай з усіх, бо ёсьць спосаб загадзя пазнаць, з якіх яек выйдуць, з якіх не.

— Ну, і дадумаліся!—з захапленьнем прамовіў Юзік.

— Э-э, браток! Гэта старая штука!—умяшаўся чалавек, які даглядаў гэты інкубатар.—Кітайцы і эгіпцяне ўжо дзьве-тры тысячы гадоў назад ведалі гэтую рэч. Толькі, заместа электрычнасьці, яны ўжывалі печкі, нават гной.

Вышлі. Абмінулі яшчэ тры такіх інкубатары.

— У кожным з іх столькі сама яек. Толькі адны пасаджаны раней, другія пазьней. Вось у гэты яшчэ варта заглянуць: тут якраз вылупліваюцца кураняты.

Тут ужо клапацілася з дваццаць жанчын, у белых халатах, нібы сядзелкі ў больніцы. Яны выбіралі „гатовых“ куранятак. Ва ўсім памяшканьні чулася ціхае музычнае ціўканьне, нібы хто кратаў тысячы струн. Адны ледзь папрабіваліся, другія вызваліліся напалову, а некаторыя героі нават бегалі. Жанчыны лавілі гэтых герояў, даглядалі іншых, дапамагалі ім вызваліцца, зьбіралі шкарупіну. Усё гэта яны клалі ў скрынкі, якія павольна рухаліся побач на пляцформах.



Гэтыя пляцформы абыходзілі наўкола і губляліся ў другім канцы калідора-інкубатара.

Дзед павёў Юзіка ў той канец, і конвэер прывёў іх у другое памяшканьне, дзе другія жанчыны брал́і скрынкі з куранятамі і „сыпалі“ іх у загарадкі ўздоўж сьцен, нават у тры паверхі. Шкарупа-ж ад яек ішла далей.

— Каля дваццаці тысяч кілёграмаў гэтай шкарупы зьбіраецца ў нас за год,—заўважыў дзед,—і ніводнай шкарупіны ня гіне: яе мыюць, мелюць у муку і даюць у корм тым-жа курам.

Але Юзік нават не пачуў гэтай заўвагі. Ён з захапленьнем сачыў за гэтым морам жаўтаваценькіх камячкоў, якія пацешна варушыліся, ціўкалі, ціскаліся адзін да аднаго. Па краёх гэтых палацаў былі прыстасаваны жалабкі-кармушкі, а ля сьцяны нізенькія паветкі, абшытыя зьнізу мяккай флянэлявай матэрыяй. Кураняткі ціскаліся пад гэты дах і адчувалі сябе нібы пад крыльлем маткі.

— Тут яны жывуць трыццаць пяць дзён,—тлумачыў далей дзед.—Тэмпэратура ўсесь час—дваццаць пяць градусаў.

У некаторых кармушках былі ўжо насыпаны крупкі тварагу. Некаторыя кураняткі пробвалі ўжо цэліцца ў іх, але так нязграбна, сьмешна, што кожны ўсьміхнуўся б, гледзячы на гэта.

— Адкуль набрацца на ўсіх іх творагу?—сказаў Юзік.

— А гэта твораг з соі, гароху такога. У ім нават больш тлустасьці, як у малочным творагу.

Адсюль яны перайшлі ў памяшканьне, дзе былі кураняты-падлёткі. Вялізны, высокі будынак меў шкляны дах. Шмат шыбаў наверсе было адчынена. Такім чынам у памяшканьні было сонца і паветра

бадай столькі сама, колькі і на волі. Апрача таго, кураняты мелі і выгоду: безьліч жэрдак наверсе.

Тут ужо быў большы шум і гармідар. Асабліва стараліся пеўнікі. Некалькі пар іх білася ўнізе, на цэмантовай падлозе. Іншыя забраліся як мага вышэй і сьмешнымі сіпатымі галасамі пнуліся сьпяваць, як дарослыя. Птушак было столькі, што кожны іх рух, узьлёт, гук у агульнай суме складалі такі шум, нібы гулі ад ветру верхавіны дрэў у лесе ў часе навальніцы.

— Тут пачынаюцца мае службовыя абавязкі,— сказаў дзед.—Два разы ў дзень трэба ачышчаць падлогу ад гною. Бачыш, вось гэтая прылада...

— Ведаю,—перапыніў Юзік.—Я бачыў, як у горадзе мылі вуліцу.

— Яна самая і ёсьць. А потым вось па гэтых рэйках прывозяць па вагонках ячмень і сыпяць ім.

— Але як вам даступіцца да сваёй працы,— засьмяяўся Юзік,—калі зьверху ўвесь час нібы град сыпле.

Дзед таксама засьмяяўся.

— Ну, што-ж! — сказаў ён.—Трэба надзяваць спэцыяльную вопратку—і больш нічога. А над самай сярэдзінай, як бачыш, і жэрдак няма. Сюды сыплем ячмень. А там бачыш і карыты з вадой для іх. Узімку памяшканьне ацяпляецца. Такіх памяшканьняў для падлёткаў ёсьць некалькі. А цяпер пяройдзем да дарослых.

Памяшканьне для дарослых курэй было такое самае, як і для падлёткаў, толькі ўздоўж усіх сьцен у некалькі радоў ішлі карыты з саломай. Сотні курыных галоў вытыркаліся адтуль. Бязупынна то ў адным, то ў другім месцы вылазілі тыя куры, што ўжо зьнесьліся, станавіліся на рабро карыта і пачыналі кудахтаць так, што аж у вушох зьвінела. Часам такім чынам кудахтала курэй дзьвесьце разам! Заместа іх садзіліся новыя куры, штурхаліся, сварыліся. А ўверсе пакрыквалі пеўні, нібы сьцішаючы жаночы шум. Каб куры зьверху не забрудзілі карыта, над імі зьверху жэрдак ня было.

— Вось наша фабрыка яек—сказаў дзед.—Тутака дзьвесьце тысяч курэй, ды яшчэ такіх памяшканьняў побач ёсьць дзевяць.

— Чаму-ж яны ўсе белыя?!—ускрыкнуў Юзік.

Сапраўды яны былі ўсе белыя, і ад гэтага здавалася, нібы ўсё навакол, асабліва ўверсе, было пакрыта сьнег.

— Гэты гатунак такі—легорны. Яны вельмі носкія. Дзьвесьце пяцьдзесят—трыста яек у год нясе кожная курыца. Наглядаліся выпадкі, калі курыца давала трыста пяцьдзесят дзевяць яек у год, бадай кожны дзень па яйку. Але даглядаць іх трэба добра, каб была чыстата, сьвежае паветра, а ўзімку памяшканьне ацяпляецца. Спэцыяльны доктар сочыць за іх здароўем. Вось якраз едуць па яйкі.

Па вузенькіх рэйках да брамы рухалася дзесяткі два вагончыкаў. Іх штурхалі жанчыны. Рэйкі завярнуліся ў бок, уздоўж сьцен. На вагончыках былі скрынкі з стружкамі. Жанчыны хутка і спрытна пачалі выбіраць яйкі і запакоўваць у скрынкі.

— Сёньня ўвечары шмат хто за сотню кілёмэтраў адсюль будзе ўжо вячэраць гэтымі яйкамі,—заўважыў дзед.

Потым дзед павёў Юзіка ў будынак, дзе забівалі галоўным чынам пеўняў і куранятак на мяса. У першым пакоі з двух бакоў каля сьцяны стаялі два чалавека у фартухох і гумовых рукавіцах. З дзесятак хлапцоў падвозілі да іх зьвязаных курэй і совалі ў рукі.

Людзі ў рукавіцах бралі іх, дакраналіся курынай галавой да нейкіх кнопак і кідалі далей ужо мёртвых. Ні крыку, ні важданіны, ні крыві. Дзесяць хлапцоў ледзь пасьпявалі падвозіць і соваць у рукі курэй.

— Як гэта так!—зьдзівіўся Юзік.—Няўжо-ж ужо скончана, больш нічога?

— Справа простая: яны забіваюцца электрычнасьцю,—адказаў дзед.—Гэтыя два работніка за пяць гадзін такім чынам могуць забіць дванаццаць тысяч курэй. Куды больш складаная справа злавіць іх і падаць у рукі. Нажаль, няма яшчэ машыны, якая-б сама гэта рабіла. Таксама, як няма машыны, якая-б скубла пер'е. Бачыш, там колькі людзей павінна гэтым займацца.

Але больш дзіўнай была другая опэрацыя—трыбушэньне. У пакоі, падобным да бальніцы, з бліскучымі складанымі машынамі, стаялі чатыры „дактары", бралі абскубаную курыцу, нешта такое рабілі каля машыны і кідалі курыцу далей, такую самую цэлую, але ўжо без вантробаў. Вантробы па трубе ішлі некуды вон. Гэтыя чатыры чалавекі трыбушылі за той-жа самы час столькі курэй, колькі першыя два забівалі.

— На гэты раз хопіць,—сказаў дзед, калі яны вышлі з фабрыкі.—Далей забітыя куры ідуць на халадзільнік, а калі больш-менш блізка, ды трэба, тады адпраўляюцца і зараз, сьвежымі. Таксама робіцца і з яйкамі. Вантробы сушацца, і з іх робіцца мука для корму і ўгнаеньня.

— А дзе ваша электрычная станцыя?

— Ды яе зусім і няма ў нас. Раённая электрастанцыя знаходзіцца больш за сто кілёмэтраў ад нас і абслугоўвае ўвесь раён на сто кілёмэтраў навакол.



## 5 АД ССР

Юзік вяртаўся дадому нібы з вялікага падарожжа. Інкубатары, прыгожыя кураняткі, падлёткі, нясушкі, бойня,—усё гэта было такім нязвычайным, вялізарным, што ахапіць адразу ня было магчымасьці. Усё гэта здавалася казкай.

— Дзядуню!—пачуў ён голас побач, і ўбачыў як да дзеда падбегла прыгожая дзяўчынка гадоў пяці.

— Ах ты, куранятка маё!—сказаў дзед і падняў яе на рукі.

— Хадзем да нас пагуляць,—сказала дзяўчынка.

— Прыдзецца пайсьці, — зьвярнуўся дзед да Юзіка.—Твая сястрыца, дачка Агаты, кліча.

Яны ў гэты час былі ў садзе, з таго боку дому, куды выходзіла вакно дзедавага пакою. Тут сярод дрэў быў асобны двухпавярховы будынак, які злучаўся з галоўным корпусам калідорам.

— Тут знаходзіцца аўтономная савецкая соцыялістычная дзіцячая рэспубліка,—сьмяючыся, сказаў дзед.

Насельніцтва рэспублікі было занята ўпартай працай: капаліся ў пяску, вазілі яго, садзілі сады, будавалі гаспадаркі. А колькі тут было будаўнічых матэрыялаў і ўсялякай іншай маемасьці! І бярвеньні і цэлыя часткі будынкаў, і аўтобусы, і цягнікі, і параходы, і жывёла ўсялякая, і прылады розныя.

— Паглядзі, які мы кароўнік зрабілі!—сказала дзяўчынка, седзячы на руках у дзеда і паказваючы на сваё будаўніцтва.

— Надзвычайна добра!—схіліўся дзед і спусьціў унучку.—Толькі навошта вы сюды і ваўкоў і медзьвядзёў напусьцілі?

— Нішто, яны свойскія, добрыя,—адказала дзяўчынка і пачала гаспадарыць далей.



Дзед з унукам увайшлі ў сярэдзіну. У вялікіх пакоях было ня менш сьвятла, як знадворку. Тут таксама працавалі дзеці, малявалі, разглядалі кніжкі-малюнкі; гурток больш старэйшых складаў з жалезных частак бадай што сапраўдныя машыны.



Выхавальніца хадзіла ад гуртка да гуртка, рабіла заўвагі, тлумачыла, выходзіла ў сад, зноў уваходзіла.

У ніжнім паверсе было два пакоі для заняткаў, працы і гульняў, сталоўка, абсталяваныя маленькай прыгожай мэбляю і, нарэшце, купальня. Гэтая купальня спадабалася Юзіку больш за ўсё. Вялікае, сьветлае памяшканьне, з кахлянай падлогай і сьценамі ўсьцяж было аточана нізенькімі лавамі. А пасярэдзіне было паглыбленьне, басэйн, з шырокімі і нізкімі ступенямі. Гэты басэйн быў такой глыбіні, што праз яго, як кажуць, курыца магла-б прайсьці, але гэта не перашкаджала дзетвары адчуваць сябе тут лепш, чымся ў якім іншым месцы.

Вось і цяпер тут сабралася пад наглядам выхавальніцы чалавек дваццаць дзяцей. Што яны тут выраблялі, як плёхаліся, пырскаліся, куляліся, „плавалі“, крычалі! Выхавальніца хадзіла па гэтым басэйне, нават не падняўшы сукенкі, і ледзь пасьпявала наводзіць парадак.

— Вада сюды пускаецца толькі ў часе купаньня,— пачаў тлумачыць дзед,—і заўсёды з пэўнай адпаведнай тэмпэратурай, якая ў даны час патрэбна. Вада, як бачыш, не стаіць, а ўвесь час цячэ.

— Можа і ўзімку тут можна ім купацца?—запытаўся Юзік.

— Вядома. Увесь год яны купаюцца таксама, як цяпер. Зразумела, пэўны час, а то, каб ім даць волю, дык яны так і прасядзелі-б тутака ўвесь год. Такую самую рэч мы зьбіраемся пабудаваць і для дарослых, але пакуль што не маглі. Трэба шмат вады і цяпла. У іншых мясцох гэта ёсьць.

Падышла выхавальніца.

— Зараз пачынаецца самая цяжкая праца,—сказала яна,—выцягваць іх з вады. Калі надыходзіць

гэты час, аніякай рады не дасі. Проста хоць за вушы цягні. Ну, дзеткі, вылазь! Час ужо. Годзе!

— Цётанька! Родненькая! Яшчэ хвіліначку! Ну, што вам абыходзіць! Крышачку толькі!—закрычалі з усіх бакоў і яшчэ больш пачалі плёхацца і дурэць.

— Не, не. Годзе будзе. Шкодна. Вылазьце!— і яна злавіла двух дзяцей і выцягнула іх на бераг.— Апранайцеся!

Тыя неахвотна пачалі выцірацца. А калі выхавальніца адвярнулася, яны зноў кінуліся ў ваду.

Дзед і Юзік не маглі ўстрымацца і засьмяяліся. А дзетвара яшчэ больш пачала старацца. Выхавальніца ўдавала строгі твар, але па вуснах і вачох было відаць, што і ёй сьмешна.

— А! Вось вы як?—крыкнула яна нарэшце.—Ну, дык я тады інакш зраблю!—І яна крутнула нейкі крант.

Зараз-жа вада ў басэйне пачала зьмяншацца. Паціху, павольна, але няўхільна вады рабілася ўсё менш і менш. Вось ужо яе засталося на пальцы два, на палец...

Крык і піск узмацніліся. Дзетвара яшчэ больш заварушылася, выкарыстоўваючы апошні момант, поўзала на жываце, пляскала рукамі па падлозе.

І, нарэшце, засталася на сухазем'і, нібы рыба ў высахлай лужыне.

Тады толькі пачалі выходзіць з басэйну, дый то не адразу. Трэба было яшчэ напасьледак паскакаць па вільготнай падлозе.

Дзед глядзеў на гэтую сцэну, і, здавалася, кожная зморшчка на яго твары сьвяцілася ўнутраным сьвятлом.

Падняліся на другі паверх. Там былі спальні для дзяцей. Чысьцюткія падлогі, ложкі, ані пылінкі, ані-



воднай мухі. Паветра—нібы ў лесе. Ідучы па шкляным калідоры, Юзік заўважыў, што з аднаго боку вокны выходзяць ня проста ў сад, а ў нейкую адгароджаную частку яго з шкляным дахам.

— А гэта дзеля чаго?—спытаўся ён дзеда.

— Гэта—зімовы сад. Палова будынку ня мае другога паверху і ва ўсю вышыню адведзена пад зімовы сад. Гэтае памяшканьне ўзімку ацяпляецца, і тут растуць расьліны ўвесь год. Дзеці і ўзімку таксама гуляюць у садзе, як і ўлетку.

— І сад і купальня!—з захапленьнем ускрыкнуў Юзік.

— Але. І ўзімку і ўлетку ўмовы амаль што аднолькавыя. Мала таго: яны і сонцам карыстаюцца таксама, як і ўлетку, нават загараюць.

Хоць і досыць цудаў наглядзеўся Юзік за гэты час, але тут спыніўся, разявіў рот і ўтаропіўся на дзеда.

— Якім чынам?!—прамовіў ён, нарэшце.

Дзед усьміхнуўся.

— Калі ты хоць трохі пісьменны, то павінен быў чуць, што даўно ўжо, гадоў, мусіць, з трыццаць назад, вынайдзена шкло, якое прапускае тыя карысныя сонечныя праменьні, якія звычайнае шкло не прапускала. Здаецца, праменьні гэтыя завуцца ўльтрафіялетавымі. Дык вось усе вокны тут з гэтага самага шкла. Калі дзеці сядзяць ці сьпяць у пакоі, дык гэта тое самае, што і на сонцы. У іншых будынках шкло яшчэ звычайнае, бо пакуль што зьмяніць усё шкло яшчэ ня можам. Але гэта яшчэ нішто ў параўнаньні з тым, што нашы электрычныя лямпачкі служаць нам замест сонца, нават узімку. Яны таксама зроблены з гэтага шкла, і праз яго электрычнасьць дае тыя самыя ўльтрафіялетавыя праменьні,

што і сонца. Калі гадзіну-другую паляжаць пад гэтым дамовым сонцам, дык будзе тое самае, што і пад сапраўдным сонцам, нават загарыш, як на поўдні. І гэта яшчэ ня ўсё: вылічана, што за гэтыя дзьве гадзіны лямпачкі даюць больш карысных праменьняў, як наша сонца за некалькі летніх тыдняў. Такім чынам, у зімовыя маразы, ці ў восенскія дажджлівыя вечары мы можам карыстацца сонцам, як на лепшых паўднёвых курортах. Вось тут над ложкамі на некаторы час спускаюцца лямпачкі да паўмэтра ад дзяцей, і яны голыя сьпяць сабе, нібы пад сонцам. Гэтым і мы ўсе карыстаемся.

Юзік слухаў дзеда і яму прыпомніліся казкі, што ён чытаў: пра нейкую лямпу Алядына, пра Марысю і маленькіх падземных чалавечкаў-гномаў з ліхтарыкамі. Але і гэтыя казачныя рэчы былі нішто ў параўнаньні з тым, што казаў цяпер дзед. Ані ў якай казцы ніхто ня мог дадумацца да ўласнага дамовага сонца. А дзед гаворыць аб гэтым, як аб самай простай, звычайнай рэчы.

— Няўжо-ж усё гэта праўда?—прашаптаў Юзік.

— Вось дзівак!—засьмяяўся дзед. — Ды гэта-ж самая звычайная навуковая рэч, як, скажам, электрычнасьць, радыё і гэтак далей. Трэба толькі дзівіцца, як гэта ты ня чуў аб ёй. Пачакай трохі і сам убачыш і адчуеш на сабе.

Калі вярталіся да свайго дому, іх гукнуў голас зьверху:

— Ну, што? Паказаў нашаму чужаземцу гаспадарку?

Юзік падняў галаву. На бальконе сярод кветак, у прыгожай сукенцы, з голымі рукамі, сядзела ў крэсьле-гушкалцы цётка Агата з кнігай у руках і ветліва ўсьміхалася. Юзік успомніў, як аднаго разу



праз плот бачыў у такім стане пані Загорскую, як глядзеў на яе здалёк і стараўся ўявіць сабе, як адчуваюць сябе паны. А гэтая пані, кажуць,—родная сястра яго бацькі, сялянка вёскі Курычы... А яе брат—цёмны, няпісьменны батрак...

— Трохі паказаў, — адказаў тымчасам дзед.— Бачыў і тваю дачушку. Гуляе ва ўсю.

— Трэба будзе наведаць. Знудзілася па ёй,— сказала маці.

— Ты сёньня выходная?

— Але.

Калі ўсходзілі на ганак, Юзік ня вытрымаў спытаўся:

А цётка Агата таксама выхоўвалася, як і мой бацька? Якім чынам яна зрабілася паняй?

Дзед спыніўся і весела зарагатаў.

— Зноў ты сваё? Ды яна-ж ніякай паняй не зрабілася! Тую самую працу вядзе, як і раней, таксама сьвіней корміць, толькі ў лепшых умовах. Ды яшчэ падвучылася, будучы ўжо дарослай, і жыве па-людзку, як і ўсе мы. Дый наогул, што знача „пан“? Пан гэта той, хто нічога ня робіць, жыве працай другіх людзей і лічыць сваёй уласнасьцю ўсю маемасьць. А такіх у нас няма аніводнага. А калі ты прывык лічыць панам кожнага чалавека, які жыве па-культурнаму, тады лічы сабе ўсіх нас панамі, бо кожны з нас можа і павінен быць культурным. А лепш за ўсё ў нашай краіне забыцца на слова „пан“. Э-эх! Гляджу я на цябе і думаю, якія ў цябе старыя дзядоўскія погляды! Каб табе ды маю сівую бараду, то ты мог-бы быць дзедам, а я тваім унукам. Абедаць хочаш?

— Не яшчэ.

— Ну, дык пахадзі сам, папрыглядайся.

Дзед пайшоў у дом, а Юзік застаўся на ганку. Пастаяў крыху, потым прысеў на ступеньку. Ды і да рэчы быў яму гэты перапынак, бо галава не магла пераварыць столькі новых, нязвычайных уражаньняў. Вось, каб сюды яшчэ татку! Хоць-бы падзівіўся на сваю родную „вёску Курычы“, пазнаёміўся з сваім бацькам, братамі, сёстрамі, пляменьнікамі і таварышамі. Трэба будзе ўсё падрабязна апісаць яму, але дзе тут апішаш. Дый ня дасьць веры, скажа—хлусіць. Ды Максімку і Мотэля сюды. Ці ведаў Мотэлеў бацька і Антэк пра ўсё гэта? Мусіць, не, бо казалі ўсё наогул: паноў няма, усім добра жывецца, а што і як—невядома. Вось каб яшчэ настаўніка ды ксяндза сюды! Што-б яны засьпявалі, гледзячы на гэтае „пекла“? Але яны вучоныя, яны, мусіць, ведаюць усё гэта, але хлусяць, бо ня хочуць, каб і простым людзям добра жылося, яны хочуць, каб толькі яны адны былі панамі. Нездарма яны ўсе так лютуюць тамака ў сябе... А можа нічога такога зусім і няма? Можа ён сьніць усё гэта?

І Юзік нават ушчыпнуў сябе.

Не, здаецца, ня сьпіць.

— Што гэта ты, браток, тут сядзіш адзін? Хадзем, я табе знайду прытулак.

Перад Юзікам стаяў Кім, вясёлы такі, жвавы.

— Ды ўжо-ж я наглядзеўся сёньня,—сказаў Юзік.

— А што ты бачыў?

— Курэй, дзяцей.

— Ну, дык я цябе пакажу яшчэ нашу школу.

— А ці ў ёй і ўлетку займаюцца?

— Малыя, што вучацца чытаць і пісаць, не займаюцца. А вось такія, як ты, увесь год займаюцца.



— Я ўжо скончыў школу,—з гонарам адказаў Юзік.

— Баюся, што яна табе нічога не дала,—усьміхаючыся, сказаў Кім.

Яны накіраваліся да будынку, што віднеўся воддаль між дрэў. Зноў вялікая, прыгожая двухпавярховая камяніца, у якой нават і сьцен ня было, а ўсё вокны.

Калі Юзік ішоў глядзець школу, дык зусім ня зьбіраўся дзівіцца. Досыць ужо надзівіўся! Вядома, будзе школа, як школа, толькі ў сто разоў лепшая за тую, у якой ён вучыўся.

Але сапраўды ён убачыў нешта, зусім непадобнае да школы. Гэта быў шэраг пакояў, абсталяваных звычайнымі сталамі і крэсламі, шафамі і паліцамі з рознымі навучальнымі прыладамі. У адным пакоі дзьве дзяўчынкі і хлопчык сядзелі над аднэй кнігай, нешта ў ёй разьбіраліся, запісвалі сабе ў сшыткі, спрачаліся. У другім пакоі, абсталяваным, як аптэка, тры-чатыры чалавекі нешта гатавалі; каб не адчыненыя вокны, ад смуроду нельга было-б сядзець, але для зімы тут былі і шырокія выцяжныя трубы. У трэцім пакоі важдаліся з нейкімі машынамі, а далей відаць была майстэрня. Адным словам, тут было ўсё, апрача партаў, лавак і ўсяго таго, што вызначае школу. Адна толькі рэч, вялізная чорная дошка ў кожным пакоі, крыху нагадвала школу.

— Гэта і ёсьць школа?—спытаўся Юзік ў Кіма.— А дзе-ж парты, вучні, настаўнік?

— Вучні, бачыш, займаюцца, а настаўніка пашукаем. Ён павінен быць недзе тут. Ды вось ён, у садзе.

Юзік убачыў праз вакно некалькі вучняў з настаўнікам, якія поркаліся на градках каля расьлін.

— Няўжо-ж вучні займаюца без настаўніка?— зьдзівіўся Юзік.

— Чаму так?—не зразумеў Кім.—Бачыш, вунь настаўнік.

— Але вучні адны. І яны ня вучацца, а так сабе нечым займаюцца.

— Гэтае нешта і ёсьць сапраўдная навука. Кожны з гэтых вучняў вывучае пэўнае навуковае пытаньне. Настаўнік ужо растлумачыў ім яго і, апрача таго, яны ў процэсе працы зьвяртаюцца да яго, калі што незразумела.

— Гэткім чынам яны могуць і ня вучыцца, калі ніхто не прымушае,—з сталым выглядам прамовіў Юзік.

— Вось яно што! Вы там прывыклі вучыцца толькі тады, калі хто з кіем стаіць над каркам? А калі ты майструеш сабе якую рэч, ці прымушае цябе хто?

Гэта для сябе, дзеля цікавасьці і гульні.

— Ну, дык, навука таксама: і для сябе, і для цікавасьці, і, апрача ўсяго для карысьці. Кожны нормальны і здаровы вучань ня можа ня цікавіцца гэтым. А калі хто ня хоча вучыцца, значыцца, ён хворы, ненормальны, значыцца, яго трэба лячыць, даваць іншыя заняткі. У нас такіх бадай што няма, а калі адзін-другі знойдзецца, дык для яго знойдуцца і адпаведныя заняткі. Калі яго ня цікавіць фізыка і хэмія, дык напэўна ёсьць што-небудзь іншае, да чаго ён мае ахвоту. Трэба толькі выявіць гэта і накіраваць на карысны шлях.

— Няўжо-ж вучні ўлетку зусім ня маюць адпачынку?

— Ды гэтыя заняткі і ёсьць іхні адпачынак. Кожны працуе, калі хоча і колькі можа.



— А ўзімку?

— І ўзімку таксама.

— А малодшыя?

— Тых ужо трэба зьбіраць разам, прыахвочваць.

Паступова вакол іх пачалі зьбірацца вучні, пытацца Кіма: адкуль гэты хлопец? Кім сказаў. Дзеці зацікавіліся і пачалі клікаць сваіх таварышоў:

— Квант! Хрызантэма! Электрон! Вулькан! Глянь-це, да нас чужаземец зьявіўся.

Прышоў і настаўнік.

— Таварыш Макейчык!—Зьвярнуўся да яго Кім.— Ці ня возьмеце вы новага студэнта? Эмігранта.

І ён расказаў настаўніку гісторыю Юзіка.

— З вялікай ахвотай!—адказаў настаўнік.—Мы зараз-жа паставім яго даклад аб становішчы ў заходняй Эўропе,—са сьмехам дадаў ён.

— Баюся, што дакладчык праваліцца,—сказаў Кім.

— Дарма. Падтрымаем,—сказаў настаўнік і палажыў руку на плячо Юзіка.—Зробіш даклад, камрад? А?

— Ня ведаю,—адказаў Юзік засароміўшыся.

Яму дзіўна было глязець на гэтага саракагадовага паважнага мужчыну, які стаяў перад ім у запэцканых штанох і нейкай сетцы без рукавоў, заместа кашулі і іншага ўбраньня, ды яшчэ па-таварыску паклаў руку на плячо. Зусім не такі быў яго ранейшы настаўнік.

— Заходзь часьцей. Знойдзем цікавую работу,— дадаў настаўнік,

— Калі Юзік з Кімам вярталіся да свайго дому, дык Юзіка апрача ўсяго асабліва займала адно пытаньне, якое ён, нарэшце, і задаў Kiму:

— Скажэце, адкуль і чаму такія дзіўныя імёны ў дзяцей: Квант, Хрызантэма? І нават ва...ва...ша...

— Па-першае, вельмі нядобра, што ты называеш мяне, свайго брата, на „вы“. Кінь гэта. І Рыму не называй. А імёны чым горшыя за Мікіту, Яўдоху, Панцялея і г. д.?

— Ды такіх імёнаў, як у вас, зусім няма на сьвеце.

— Як так няма, калі ты сам чуў і кажаш пра іх?

— Яны выдуманыя.

— А „Панцялеі“ ды „Харытоны“ адкуль узяліся? Яны таксама выдуманыя, толькі выдуманыя дурнейшымі за нас людзьмі тысячы год назад. Навошта нам іхнія імёны, калі мы можам мець свае, лепшыя. А можа ты верыш у сьвятых, якія ў старых календарох называліся гэтымі імёнамі?—сказаў Кім, насьмешліва зірнуўшы на Юзіка.

— Не!—адказаў Юзік.—Вельмі ўжо абрыдаў нам закон божы ў школе. Мы нават зьдекваліся з яго.

— Малайчына, калі нават сваім розумам дайшоў—пахваліў Кім.—У нас дык і старыя даўно ўжо пакінулі гэтыя забабоны, хоць і носяць яшчэ старадаўнія імёны. Гэтыя старыя грэцкія ці лацінскія словы ў перакладзе азначаюць пэўныя паняцьці, напрыклад: „цярплівец, злосны, кульгавы“ і г. д. Дык на якое ліха нам называць хлопца па-грэцку „кульгавы“, калі можна назваць яго па-навуковаму „Электрон“?

Юзік паціснуў плячыма і усьміхнуўся. Дзіўна неяк з няпрывычкі, але выходзіць зусім проста і разумна.

Разам з Кімам пайшлі і абедаць. Зноў Юзік адчуў сябе няёмка ў гэтым „панскім рэсторане“, на людзёх.

— Што ты сабе возьмеш на абед?—спытаўся Кім.



Юзік спалохана зірнуў на яго.

— Ды што дадуць.

— Ёсьць шмат страў. Выберы, што хочаш. Вось картка.

Юзік нерашуча ўзяў у рукі картку, зірнуў на яе і прамовіў:

— Мне ўсяроўна. Што дадуць.

Кім сам выбраў для яго малочную лапшу, курыцу і кісель з ягад.

Смачны быў абед, але Юзік лепш згадзіўся-б зьесьці ў сваім кутку хлеба з салам, чымсь тут гэтыя панскія стравы. Надта ўжо было няёмка.

Пасьля абеду ён пайшоў у пакой да дзеда.

## 6 АГУЛЬНЫ СХОД

— Трэба ўжо пачынаць думаць аб тваей рабоце—сказаў дзед. — Тыдні са два ты яшчэ можаш пагуляць, пакуль агледзішся, пазнаёмішся з нашым жыцьцём, а там трэба будзе падшукаць для цябе працу. З чатырнаццаці год кожны ў нас працуе. Праўда, праца невялікая, лёгкая, гадзіны на дзьве ў дзень і кожны пяты дзень вольны, але ўсё-ж такі трэба і прывучацца да працы і карысьць прыносіць гаспадарцы. Ды што тут казаць? Мы з васьмі год працавалі ў сваіх уласных гаспадарках па цэлых днёх. І тыя вучні, якіх ты бачыў, маюць пэўныя абавязкі ў гаспадарцы.

— Ды я нічога лепшага і не жадаў-бы, каб мець працу,—сказаў Юзік.—Я так ахвотна працаваў на фабрыцы-кухні.

— Ага! Я і забыўся!—падхапіў дзед.—Ты-ж ужо маеш спэцыяльнасьць. Вось і працуй у гэтай галіне

У нас такая самая кухня. Сёньня я перагавару з таварышамі. Сёньня будзе агульны сход. Варта і табе пайсьці. Паслухай, як мы вырашаем свае справы.

Ледзь дачакаўся Юзік часу, калі трэба было ісьці на сход. У вялікай тэатральнай залі, на ніжнім паверсе, сабралося чалавек пяцьсот народу. Юзік ніколі ня бачыў такой вялікай і прыгожай залі. Сьцены і столь былі размалёваны нейкімі малюнкамі, якіх і зразумець нельга было, але строгія простыя лініі мімаволі рабілі ўражаньне чагосьці магутнага. Цікавей-жа за ўсё было тое, што ніякіх лямпак ня было відаць, а між тым было сьветла, як ўдзень.

Доўга ламаў галаву Юзік, пакуль сьцяміў, што лямпкі схаваны вакол усёй залі пад стольлю за перагародкай у сьцяне. Яны няпрыметна асьвятлялі столь роўным сьвятлом, а адтуль яно адбівалася на ўсю залю.

Дзед і ўнук праціскаліся да групы, дзе сядзелі Кім з Рымай, цётка Агата і дзядзька Сымон. На сцэне за сталом, пакрытым чырвоным сукном, сядзела некалькі чалавек, за імі на сьцяне—вялізны портрэт Леніна, каля яго—два чырвоныя сьцягі. Асабліва зацікавілі Юзіка вялізныя істужкі над сцэнай і па сьценах. На іх было напісана:

*ПАКУЛЬ ІСНУЕ НА СЬВЕЦЕ КАПІТАЛІЗМ—ІСНУЕ ДЛЯ ЦЯБЕ НЕБЯСЬПЕКА*

НЕ ГЛЯДЗІ НА ТОЕ, ШТО ЗРОБЛЕНА; ЗАЎСЕДЫ ПАМЯТАЙ АБ ТЫМ, ШТО ТРЭБА ЯШЧЭ ЗРАБІЦЬ.

ЦІ ВЫКАНАЎ ТЫ СВАЁ ЗАДАНЬНЕ?

**ТОЙ НЕ ГРАМАДЗЯНІН, КАГО ТРЭБА ПРЫМУШАЦЬ ПРАЦАВАЦЬ І ВУЧЫЦЦА,—**

шэраг падобных лёзунгаў.



Пасьля некаторых падрыхтоўчых формальнасьцяй нарад, заўваг, выступіў прамоўца:

— Таварышы! Сярод вас ёсьць шмат людзей, якія нарадзіліся, выхоўваліся, жылі тут у тыя дапатопныя часы, калі на гэтым месцы была мізэрная, вёска Курычы. Гэтыя жывыя сьведкі могуць вам расказаць, якім чынам мізэрная вёска ператварылася ў дасканалую сельскагаспадарчую фабрыку. Яны могуць вам расказаць аб тэй барацьбе, якую давялося весьці спачатку з контррэволюцыйнымі арміямі і бандамі, потым з кулакамі, някультурнасьцю, адсталасьцю і іншай спадчынай, што засталася ад старога ладу і ўсялякімі спосабамі перашкаджала перабудове жыцьця на іншы лад. Вам раскажуць, як бедныя гаспадары ўпарта трымаліся за сваю нікчэмную, „ўласную“ гаспадарку, жылі, як дзікуны але не хацелі жыць так, як мы цяпер жывем; як бабы раўлі, калі трактары запахалі іхныя параскіданыя кавалачкі зямлі і гародчыкі. Калі кароў паставілі ў агульны, добры хлеў. Сто чалавек, кожны на сваім шнуры, з першабытнымі прыладамі поркаліся зранку да вечара і выраблялі столькі, колькі ў нас цяпер робіць адзін чалавек за пяць гадзін. А калі ім прапанавалі ладзіць іншую гаспадарку, такую, як у нас цяпер,— дык яны і слухаць не хацелі.

— Ня можа быць!—пачуўся нейкі малады голас у залі.

— Ох, сыночак, было!—голасна сказаў дзед.— Я сам такі быў.

У залі засьмяяліся.

— Вось бачыце,—усьміхнуўся і прамоўца.—Цяпер моладзь нават не дае веры гэтаму. Але ёй больш, як каму трэба ведаць і памятаць той шлях, які мы прайшлі да гэтага часу. Бо шмат хто лічыць, што

цяпер барацьба і цяжкасьці ўжо скончаны, што цяпер застаецца толькі лёгка і спакойна жыць. З такімі настроямі трэба рашуча змагацца. Адпачываць яшчэ вельмі і вельмі рана. Хоць і вялікія нашы посьпехі, але мы зрабілі яшчэ ня ўсё тое, што можна і трэба зрабіць. Да поўнага комунізму застаецца яшчэ вялікі шлях. Для поўнага скарыстаньня прыроды, для поўнага аўладаньня тэхнікай патрэбна яшчэ працы і ўпартасьці ня менш, як да гэтага часу. А самае галоўнае—мы кожную хвіліну павінны быць гатовы да апошняга рашучага змаганьня з сусьветным капіталізмам, які ня сёньня дык заўтра, перад сваёй сьмерцю, зробіць спробу напасьці на нас. А там будзе праца па перабудове на новы лад жыцьця працоўных усяго сьвету. Вось аб чым мы павінны ўвесь час думаць, вось да чаго мы павінны рыхтавацца. А гэта вымагае бязупыннай, напружанай працы, ня меншай, калі ня большай, як да гэтага часу. Я палічыў патрэбным азірнуцца на мінулае і напомніць будучае ў зьвязку з тым, што нашы Курычы ў гэтым процэсе скончылі пэўны пэрыод і пераходзяць да новага. Гэты пэрыод пачынаецца з пабудовы ў нашым колгасе вялізнага птушынага комбінату. Комбінат пабудаваны на агульныя дзяржаўныя сродкі, але побач з гэтым застаецца і наша ранейшая гаспадарка. Да апошняга часу мы і сеем, і кароў трымаем, і сьвіньні гадуем. Усё гэта ўносіць толькі блытаніну ў справу. Адны з нас лічацца працаўнікамі комбінату, другія—колгасу. Організацыйны апарат, разрахункі—ускладняюцца, а ўсё разам перашкаджае зьвярнуць увагу на адну працу, спэцыялізавацца. Таму мы прапануем ліквідаваць нашу гаспадарку: пахаць і сельскагаспадарчыя машыны перадаць зерневай гаспадарцы—Іржышчам, сьвіньні аддаць у Капачы,



каровы, ці ўсе, ці частку, аддаць у Бурычы. Вось гэтае пытаньне і прапануецца на абмеркаваньне агульнаму сходу. Хто хоча выказацца?

— Ды няма чаго тут і меркаваць:—устаў Кім.— Даўно ўжо трэба было гэта зрабіць. У наш час займацца некалькімі справамі нерацыянальна. Дый непатрэбна.

Тады ўстаў дзядзька Сымон, патупаўся і нерашуча прамовіў:

— Яно так. Але-ж мы адразу пазбаўляемся сваёй гаспадаркі. Столькі гадоў жылі, будавалі—і ў адзін момант усё гэта так сабе аддаць. Можа, хто захацеў-бы вылучыцца і весьці далей сваю гаспадарку.

Юзік убачыў, як дзед захадзіў на сваім крэсьле, а потым ускочыў:

— А якая табе розьніца?—зьвярнуўся ён да Сымона.—Ці інакш працаваць ці інакш жыць будзеш. Калі захочаш працаваць на зямлі, можаш таксама працаваць і ў Іржышчах. Якім гэта чынам у цябе, браток, захавалася яшчэ слова „свая“!

Сымон саромліва нешта замармытаў, а прысутныя засьмяяліся і пачалі пляскаць дзеду.

У далейшым-жа ніхто не пярэчыў. Усе аднадушна згаджаліся з прапановай. Толькі спыніліся трохі на пытаньні, ці аддаваць усе каровы, ці пакінуць частку для свае патрэбы. Калі выявілася, што могуць прывозіць на аўтомобілі сьвежае малако праз 15 хвілін, то пастанавілі аддаць усіх кароў. Больш складаным было пытаньне, каму прыдзецца паехаць у другое месца, а каму можна будзе застацца тут. Але і гэтае пытаньне вырашылася лёгка. Бо пашырэньне птушынай гаспадаркі патрабавала нават больш людзей, як было да гэтага часу ва ўсіх Курычах. Нават тых дванаццаць чалавек, якія самі пажадалі пераехаць у

Іржышчы, адпусьцілі неахвотна. Сярод іх быў і дзядзька Сымон.

Юзік вельмі зьдзівіўся і шапнуў Кіму:

— Чаго-ж гэта твой бацька выяжджае? Ці-ж яму тут дрэнна? А ты з Рымай што будзеш рабіць?

— Мы будзем жыць таксама, як і жылі. А бацька пераяжджае, мусіць, таму, што больш прывык да працы на зямлі. Ды фактычна і ніякіх зьмен ня будзе, бо гэтыя Іржышчы знаходзяцца за чатыры кілёмэтры адсюль. Аўтомобілі бязупынна езьдзяць туды і сюды.

Калі справа аб ліквідацыі гаспадаркі была вырашана, старшыня ўстаў і сказаў:

— Цяпер нам трэба абмеркаваць справу нашага таварыша, Пархомчыка. Вы, мусіць, усе чулі ўжо, што з ім мы маем шмат клопату і важданіны. Таварышы ўвесь час скардзяцца, што з ім ніякай рады няма: да працы адносіцца нядбайна, часта спазьняецца, да маемасьці адносіцца няўважліва, дзякуючы яго нядбайнасьці чатыры разы псаваліся прылады і машыны, продукцыйнасьць і якасьць працы дрэнная, заданьне сваё ён, здаецца, ніводнага разу ня выканаў. У дадатак да ўсяго некалькі разоў быў п'яны. Адміністрацыі ня слухаецца, лаецца, пагражае кулачнай расправай.

— Якія былі спагнаньні да гэтага часу?— запыталіся з месц.

— І ў насьценгазэце пісалі, і некалькі вымоў выносілі, і шмат разоў перамяшчалі на іншую працу; летась на агульным сходзе вынесьлі грамадзкае ганьбаваньне. Тыдні са два пасьля такіх спагнаньняў ён сяк-так пратрымаецца, а потым зноў пачне сваё.

— А якія ў яго адносіны да сваіх таварышоў?

— Нельга сказаць, каб наогул дрэнныя. Толькі гарачы ён, ня хоча, ці ня можа ўстрымацца, і заўсёды ў яго то з тым, то з тым сутычкі. Але хутка пасьля гэтага ён адыходзіць і выяўляе добрую таварыскасьць. Можа, і не такі ўжо ён сапсаваны чалавек, але зусім недысцыплінаваны.

— Ці быў ён на мэдычным аглядзе? Можа гэта ёсьць выяўленьне якой-небудзь хваробы, напрыклад, нэрвовай?—дапыталіся з месц.

— З мэдычнага боку ён быў абсьледваны дакладна. Хваравітых адзнакаў не заўважана. Застаецца лічыць усё гэта недысцыплінаванасьцю характару розуму. Каб вылечыцца, яму трэба толькі ўзяць сябе самога ў рукі.

Пархомчык, малады чалавек гадоў дваццаці пяці, з хударлявым жывым тварам і чорнымі вачыма, сядзеў наперадзе і хваляваўся. То закіне нагу на нагу, усуне рукі ў кішэнь, адкіне галаву назад, і з пагардай усьміхаецца, то пачырванее, замітусіцца ўскоквае, каб сказаць сваё слова.

— Пачакай, дамо і табе слова! — увесь час стрымліваў яго старшыня.— Спачатку хай выкажуцца таварышы.

Выказвалася шмат таварышоў. Ніхто ня мог адмовіць віны Пархомчыка, але першыя прамоўцы рашуча пачалі бараніць яго, гаворачы, што таварыш Пархомчык добры хлопец, толькі трохі гарачы і калі ёсьць у яго хібы, дык яны не ад злачыннасьці, а ад характару, і калі яго лагодна пераканаць, дык ён паправіцца.

З суровым адказам выступіў сталы, сур'ёзны рабочы:

— Нам гавораць, што таварыш Пархомчык добры хлопец. Ахвотна згаджаюся з гэтым, але мы цяпер раз-

біраемся ня ў тым, ці добры ён, ці не, а ў тым, ці выконвае ён свае абавязкі, ці прыносіць ён карысьць грамадзтву. А гэтага і абаронцы ня могуць сказаць. Ды яшчэ, выбачайце, заўважаю, што і абаронцы трохі тае... самі слабаватыя ў працдысцыпліне. Ціха, ціха, Антось, не хвалюйся: скажы лепш, колькі разоў я табе заўвагі рабіў за апошнія дватры дні? Ну, дык вось, калі тут хвароба, дык трэба яе лячыць, а калі лячыць няма чаго, тады трэба перакanaць, выхоўваць, а калі гэта не дапамагае, тады караць. А цацкацца з ім бяз канца, як гэта раяць яго сябры, мы ня маем права, бо гэта прыносіць шкоду вытворчасьці, гаспадарцы. Хай ён зараз сам скажа, чаму гэтак адносіцца да працы, чым не задаволены, чаго іншага сам жадаў-бы.

І вось, калі далі, нарэшце, слова Пархомчыку уся яго заўзятасьць і фанабэрыя разам зьніклі. То чырванеючы, то бялеючы, ён пачаў нявыразна балбатаць:

— Ды што-ж я? Я нічога... Гэта яны да мяне чапляюцца. А калі што трохі такое, дык ня я вінаваты... Што-ж мне — маўчаць ці што? Я працую, колькі магу. Што-ж мне — разарвацца, ці што? Ня горш за іншых працую, але яны ўсё чапляюцца, ніяк ім не дагодзіш. Што-ж я магу болей зрабіць? Хай паглядзяць на сябе Кожны хоча камандаваць. А машыну зусім ня я папсаваў. Можа хто наўмысьля гэта зрабіў, каб абвінаваціць мяне. Кажуць, заданьне ня выканаў. Хай паспрабуюць самі выканаць.

— І выконваюць усе!—крыкнулі з месц.

— Бо да іх ніхто не чапляецца. Ды я не магу так працаваць, як яны. Яны хочуць паказаць, што добрыя, старанныя. Яны хочуць, каб іх пахвалілі. А я ні на каго не гляджу і працую, як магу. Калі



часам здараецца спазьніцца, дык я гэта потым даганю. А калі адзін раз выпіў, дык выбачайце; гэта мая асабістая справа.

Пархомчык сеў, склаў рукі на грудзёх і, залажыў нагу на нагу, пачаў гойдаць яе з выглядам самага незалежнага чалавека.

— Вось бачыце, таварышы, — пачаў тады старшыня засмучоным тонам. — Таварыш Пархомчык зусім не разумее, ці ня хоча ўразумець свае паводзіны. Ён нават зрабіў паклёпніцкі выпад супроць тых таварышоў, якія добрасумленна выконваюць свае абавязкі. Ён сказаў, што яны робяць гэта толькі дзеля таго, каб іх нехта там пахваліў. Ён зусім ня мае пачуцьця адказнасьці за агульную справу. Можа і мы вінаватыя, што ня здолелі яго выхаваць. Але цяпер аб гэтым казаць ужо позна. Таварыш Пархомчык не малое дзіцянё і сам за сябе павінен адказваць. Прапаную зьняць яго з працы на два тыдні.

— Мала! На месяц!—крыкнулі з месц.

— Іншых прапаноў няма? Прагаласуем гэтыя дзьве прапановы. Хто за тое, каб зьняць таварыша Пархомчыка з працы на два тыдні? Раз, два, тры... Мала... Хто за тое, каб на месяц? Большасьць. Такім чынам, таварыш Пархомчык, пастановай агульнага сходу вы звальняецеся з працы на адзін месяц.

Пархомчык задзёрыста ўсьміхнуўся і буркнуў:

— Тым лепей!

— Невялікую інформацыю мае прадстаўнік ячэйкі МОПР,— сказаў пасьля гэтага старшыня.

Юзік з цікавасьцю чакаў, які такі, „мопр“ зьявіцца, але ніколі ня думаў, што інформацыя будзе мець значэньне і для яго самога.

Вышаў таварыш і сказаў:

— За апошнія дні на мяжы адбылося адно здарэньне, на якое ячэйка МОПР'у лічыць патрэбным зьвярнуць увагу нашага калектыву. Як вядома, за апошнія гады ва ўсіх капіталістычных дзяржавах, у тым ліку і ў Польшчы, узмацніўся рэволюцыйны рух рабочых. Зразумела, адпаведна гэтаму ўзмацніліся і рэпрэсіі фашыстоўскай улады. Тысячы барацьбітоў засаджаны ў турмы, ня кажучы ўжо аб расстрэлах і катаваньнях. Турмаў ужо не хапае, таму ўкапіталістычных краінах зараз адбываецца вялікаеа будаўніцтва — пабудова турмаў. Адна такая турм будуецца зараз у бліжэйшым да нас горадзе Заходняй Беларусі—Несьвіжы. Да гэтага часу там была невялікая старая турма, на якую нашы мопраўскія організацыі зьвярталі мала ўвагі. І вось некалькі дзён назад адтуль уцяклі бадай усе палітвязьні. Ці то ўвага адміністрацыі была адцягнута новай турмой, ці вязьняў набралося ўжо занадта, ці знайшліся нашы прыхільнікі сярод варты, ці, нарэшце, таварышы з волі добра наладзілі дапамогу,— але аднаго разу ўцякло адразу дваццаць сем чалавек. І ўцяклі ўдала, але на жаль, іх усіх пералавілі ў ваколіцах, ды яшчэ ўсіх тых, хто так ці іначай дапамагаў ім. Выратаваўся толькі адзін, таварыш Баркоўскі, былы батрак у маёнтку памешчыка Загорскага.

Пры гэтых словях Юзік аж падскочыў на сваім месцы.

— Антэк?! — мільганула думка. Але прозьвішча яго Юзік ня ведаў. У маёнтку ўсе звалі яго Антэкам, а прозьвішча ніколі ня было чуваць. Можа, старэйшыя і ведалі, але Юзіку ня прыходзіла ў галаву пацікавіцца яго прозьвішчам. Здаецца, у часе сьледзтва і допыту прозьвішча Антэка ўпаміналася,



але Юзік не зьвярнуў увагі і цяпер зусім ня памятаў.

— Гэты таварыш, — сказаў далей прамоўца,— вядомы там як актыўны рэволюцыянэр. Яму аднаму пашанцавала дабрацца да мяжы, але ў такім стане, што трэба было толькі дзіву давацца, як ён выратаваўся. Цяпер ён працуе ў Савецкай Беларусі, а рэшта вязьняў атрымала новае дасканалае памяшканьне. Вось мы і прапануем нашаму колектыву ўзяць шэфства над гэтай новай турмой.

„Мопр“, „ячэйка“, „шэфства“,— гэтыя незнаёмыя словы былі вельмі цікавыя для Юзіка, але цяпер ён ня думаў аб іх, а ўвесь час ламаў галаву: Антэк, гэта ці не?

— Запытайцеся, — шапнуў ён дзеду, — як імя таго, хто ўцёк. Можа гэта Антэк, які служыў разам з таткам? Я яго добра ведаю. Цікава было-б убачыць яго, пагутарыць.

Дзед зараз-жа спытаўся:

— Ці ня ведаеце, як імя гэтага таварыша?

— Здаецца, Антось,—адказаў прамоўца.

— Ён!!— радасна ўскрыкнуў Юзік.

— Знаёмы нашага эмігранта, — пачуў ён спачувальны голас суседзяй. Юзік ужо не зважаў, як прымалі пастанову аб нейкім там „шэфстве“, як абмяркоўвалі яшчэ нейкія свае дробныя справы. Ён думаў толькі аб тым, як-бы сустрэцца з Антэкам. Зацікавіўся і дзед, бо хацеў перагаварыць аб жыцьці свайго сына.

Пасьля сходу дзед даведаўся, што Баркоўскі працуе ў Менску, але пасада яго такая, што яму часта здараецца езьдзіць у розныя месцы. Магчыма, трапіць і ў гэтую мясцовасьць.

Позна вярнуўся ў свой пакой. Зноў пражыты дзень здаваўся Юзіку месяцам. Зноў таўкліся ў галаве неахопленыя сьвядомасьцю ўражаньні.

— А што будзе з тым Пархомчыкам?— пытаўся Юзік, лежачы ў ложку.— Куды ён дзенецца? Што ён будзе рабіць.

— Ды нічога. Будзе жыць таксама, як жыў.

— А есьці?

— Таксама, як і да гэтага часу, як і мы ўсе. Толькі пэнсіі ня будзе атрымліваць.

— Дык якая-ж гэта кара?!— ускрыкнуў Юзік і нават сеў на ложку.— Гэтак кожны захоча нічога не рабіць і добра жыць.

— Ну, не, браток!—засьмяяўся дзед.—Наша праца—не пакута. Кожны з нас добра ведае, што і дзеля чаго ён робіць, ведае, якое месца займае яго праца ў агульнай вытворчасьці, сочыць за тым, як расьце ўся вытворчасьць у нашай краіне і тая галіна, у якой ён працуе, кожны адчувае, як ён рухае напе-рад агульную справу і зацікаўлены ў тым, каб хутчэй яе пасунуць, кожны адчувае задавальненьне тады, калі бачыць вынік сваёй працы, кожны мае шмат вольнага часу, пасьля якога з вялікай ахвотай ідзе на працу, а сама праца організавана і разьмеркавана так, што на ёй ня зморышся. Усё гэта разам стварае такія ўмовы, пры якіх праца зьяўляецца патрэбаю для чалавека, а не пакутаю, як гэта было раней. Дый наогул няма на сьвеце такога чалавека, які на працягу доўгага часу сядзеў-бы ці ляжаў на адным месцы і нічога не рабіў: хоць што-небудзь, але напэўна будзе рабіць.

— Ну, дык ён і можа цяпер што-небудзь для сябе рабіць—падхапіў Юзік.



— А што, напрыклад? — насьмешліва спытаўся дзед.

— Ну... ну...—пачаў быў Юзік, але нічога ня мог прыдумаць. Яго бацька, напрыклад, у вольны час адпачывае ад цяжкой працы, або якую дзежку падправіць у гаспадарцы, парсюка свайго адгародзіць, вады прынясе матцы і гэтак далей. А тут нічога такога ня трэба—усё гатовае, усё гэта іншыя робяць. А адпачываць ад беспрацоўя таксама не прыпадае.

— Вось бачыш,—казаў далей дзед: — у нашых умовах гэта не такая лёгкая справа. Ляжаць увесь час—немагчыма. Хадзіць узад і ўперад—таксама няцікава, асабліва, калі побач будзеш бачыць таварышоў, якія працуюць.

— Чытаць можна,—дадаў Юзік.

— Хай сабе і так. Але для забавы, ці для прыемнасьці, ты пачытаеш гадзіне дзьве-тры ў дзень— ня болей. А далей што? Можна за кніжкай сядзець і па дваццаць чатыры гадзіны, але гэта можа рабіць толькі той, хто гэтым займаецца, як профэсіяй,— скажам, вучоны які, пісьменьнік. Гэта ўжо будзе праца як сьлед, нават цяжэйшая за іншую. Праўда, ёсьць шмат звычайных працаўнікоў, хоць-бы той самы Кім, якія вывучаюць якую-небудзь навуку. Тыя дык і дваццаць пяць гадзін у суткі прасядзяць над кнігай. Але такіх ніколі караць ня прыдзецца бо яны больш за ўсіх сьвядома адносяцца да працы. А наш Пархомчык адсталы хлопец.

— А калі так, дык ён проста будзе сабе валандацца—і ўсё,—заўважыў Юзік.

— Калі-б ён меў яшчэ сабе такую самую кампанію, дык можа і валандаўся з ёю. А адзін, як вырадак, сярод працоўных, ён будзе адчуваць сябе дрэнна. Гадоў з пяць назад, калі яшчэ гэтага Пархомчыка ў нас

ня было, быў у нас такі самы выпадак. І што-ж ты думаеш? Чалавек выправіўся так, што і пазнаць нельга было. Ды што тут доўга казаць! Вось ты зусім іначай выхоўваўся, ну дык і адкажы, ці хацеў-бы ты сам такой лёгкай і прыемнай, як ты кажаш, кары?

— О, не, не! —горача адказаў Юзік.—Гэта-ж сорам!

— Вось у гэтым і ўся справа—сказаў дзед.

## 7 ЮЗІК—ГРАМАДЗЯНІН

На другі дзень Юзік запытаўся ў дзеда:

— Вы ўжо гаварылі, каб мяне паставіць на працу.

— Гаварыў. Паставяць на кухні, „па спэцыяльнасьці“. Але тыдні са два можаш пачакаць.

— Навошта чакаць? Я хацеў-бы зараз-жа і прыступіць. Неяк няёмка сябе адчуваю. Усе маюць пэўныя абавязкі, толькі я адзін туляюся, як той Пархомчык.

— Добра. Тады прызначым. Усяроўна часу ў цябе будзе досыць, бо працаваць будзеш тры гадзіны.

І ў той-жа дзень дзед адвёў яго на кухню.

Кухня была таксама абсталяваная, як і ў горадзе. Юзік адразу паказаў, што ён знаёмы з працай. Вызначылі яму пэўныя дні і гадзіны працы; пры гэтым меркавалі, каб вылучыць яму гадзіны, зручныя для заняткаў у школе. Тры гадзіны ў дзень праходзілі для Юзіка няпрыметна.

Рэшта часу ён праводзіў у школе. Настаўнік павёў з ім гутарку аб яго працы, аб процэсах гатаваньня страў, расказваў аб гэтыя шмат цікавых рэчаў—і Юзік убачыў, што і гэтая, здавалася-б, такая простая праца мае вялікую і цікавую навуку. Спрадвеку гаспадыні гатуюць страву, а людзі ядуць, хваляць ці ганяць, але ніхто ня думае, якія цікавыя хэмічныя процэсы адбываюцца ў гэтай страве, з якіх частак складаюцца продукты, што тут ёсьць нават жывыя мікроорганізмы, якіх людзі са смакам ядуць і ня ведаюць аб гэтым. Пачуў Юзік такія дзіўныя словы, як „вітаміны“, „калёрыі“, „бялкі“ і шмат іншых. А як цікава ведаць, якая страва, калі, чаму, як, пры якіх умовах уплывае на чалавека, што яна дае організму!

Адным словам, перад Юзікам адкрыўся зусім новы, незнаёмы, цікавы сьвет. Толькі ведаў у яго зусім мала. Але настаўнік абяцае дапамагчы. І пад яго кіраўніцтвам Юзік з захапленьнем узяўся за вывучэньне зоолёгіі, ботанікі і хэміі.

Разам з гэтым Юзік перасяліўся ад дзеда ў „хлапецкае“ памяшканьне. На трэцім паверсе былі вялікія спальні, такія самыя, якія ён бачыў для малых дзяцей. Каля ложкаў—невялікія шафы для сваіх рэчаў і адзеньня. Кожны павінен быў трымаць сваё адзеньне ў парадку, не раскідаць свае рэчы. А сярод гэтых рэчаў была адна штука, да якой Юзік доўга ня мог прывыкнуць: гэта была зубная шчотачка з парашком. Брыдка было спачатку ўжываць яе, але чамусьці вымагалі гэтага вельмі настойліва, і, нарэшце, Юзік так прывык, што бяз гэтага абыйсьціся ня мог.

Удзень у спальнях не дазвалялася быць, таму там заўсёды была чыстата. Але побач быў пакой для заняткаў, з кнігамі, вучэбнымі прыладамі. Быў пакой для гульняў і для фізкультуры. Было некалькі невялікіх асобных пакойчыкаў для тых, каму патрэбна было працаваць у абсолютнай цішыні. Жыло тут каля сотні хлапцоў, але частка іх заўсёды была на працы, рэшта

гублялася ў вялікіх пакоях—і ў выніку было досыць ціха і спакойна.

На другой палове будынку такое самае памяшканьне было для дзяўчынак. Пакоі-ж для заняткаў былі агульныя.

Больш за ўсе Юзіка дзівіла тое, што ніякага дарослага над імі ня было. Здаецца, нейкі дзядзька быў прызначаны начальнікам над гэтай колёніяй, але ня відаць было, каб ён умешваўся ў іхняе жыцьцё. Усе справы выгашаліся самімі хлапцамі, на чале з абраным комітэтам.

Хлопцы адчувалі сябе зусім вольна: бегалі, гулялі, рабілі, што хацелі, але ўсё гэта адбывалася неяк так, што ніхто нікому не перашкаджаў, ня было гармідару, ніхто нікога ня крыўдзіў і ніякай шкоды не рабіў.

Ніводнай рэчы ў памяшканьні ня было папсаванай, пакрэмзанай, як гэта звычайна было ў іхняй школе.

Аднаго разу Юзік спытаўся свайго таварыша.

— Няўжо-ж ніхто ў вас ніколі не парэжа стала, ці што-небудзь такое папсуе?

Той зьдзіўлена запытаўся:

— А навошта?

— Ды так...—засаромеўшыся, адказаў Юзік.

Хлопец зарагатаў і крыкнуў сваім таварышом:

— Чуеце? Заходні эўропэец пытаецца, чаму мы ня рэжам, не ламаем і ня псуем рэчаў?

Падняўся агульны сьмех, а Юзік гатоў быў скрозь зямлю праваліцца.

— Няўжо-ж у вас гэта робяць?—спытаўся таварыш сур'ёзна.

— Здараецца.

— Выпадкова?

— Не, наўмысьля.



— Ды навошта-ж?

— Так сабе.

Зноў сьмех.

Пасьля гэтага Юзік ужо баяўся спытацца, чаму хлопцы адзін аднаго ня крыўдзяць. Ён стараўся сам прасачыць і зразумець гэта. Звычайна заўсёды дужэйшы так сабе штурхане ці скубане слабейшага. Тутжа ніколі гэтага ня было. Іншыя непаразуменьні звычайна здараюцца тады, калі двое пачнуць дурэць і адзін з іх працягвае сваю дурасьць і тады, калі другі ўжо ня хоча, нават пакуль пачне плакаць. А тут, калі толькі хто скажа, што хопіць, што ён ужо ня хоча,— другі зараз-жа спыняецца.

На гэты раз Юзік падзяліўся, сваімі думкамі ўжо з дзедам.

— Правільна ты заўважыў,—сказаў дзед.— Ад гэтых двух прычын і здараюцца ўсе непаразуменьні. Таму ў нас здаўна ўжо зьвернута ўвага на гэты бок. У нас ніколі ня скажуць дзецям: нельга тое і тое рабіць, а заўсёды растлумачаць—чаму, нават пачынаючы з самых малых. І вось на працягу некаторага часу нашы дзеці добра ўсьвядомілі, што крыўдзіць слабейшага, ды яшчэ бяз дай прычыны,—ганебная справа, а дурэць з тым, хто ня хоча дурэць—ня мае ніякага сэнсу, недарэчна.

— А калі хто ня хоча слухацца?

— Таго выключаюць з колектыву. Хай ён жыве асобна ці ў бацькоў. Але такіх выпадкаў за апошнія гады я ня памятаю. Каму ахвота жыць асобна, калі ў колектыве ідзе такое поўнае жыцьцё?

— А калі хто і яго бацькі хочуць жыць разам?

— Хай сабе жывуць. Ніхто не перашкаджае. Але нікому з іх ніякай выгоды ад гэтага няма. Калі хто хоча, дык і так можа сядзець з бацькамі хоць увесь

дзень. А спаць, займацца, гуляць і самому хлопцу ці дзяўчынцы лепей у сябе ды і бацьком выгадней. Не сядзяць-жа бацькі побач з дзецьмі, калі тыя сьпяць, працуюць ці гуляюць?

Юзік часта ў думках раўнаў гэтых хлапцоў з сваімі ранейшымі таварышамі. На што ўжо разумны і жвавы быў Мотэль, але якім цёмным ён здаваўся побач з гэтым. А якім дзікуном здаваўся добры Максімка! Аб рэшце маёнткавых дзяцей нават няма чага казаць.

А тут усе разьбіраліся ў справах лепш за Мотэля. Так падрабязна распытваліся ў Юзіка аб жыцьці ў Заходняй Беларусі. Чыталі газэты і ведалі, што робіцца на сьвеце. Добра ведалі аб гаспадарчым становішчы Савецкай краіны, цікавіліся такімі пытаньнямі, як будаўніцтва, посьпехі прамысловасьці, культурнае жыцьцё у розных кутках вялікага Савецкага Саюзу. Нават дзесяцігадовыя дзеці ведалі ў шмат разоў болей за Юзіка. Кожны дзень Юзік чуў гутаркі, што на чарзе стаіць такая і такая грамадзкая задача. Часта адбываліся даклады, спрэчкі, або, як іх называлі— „дыскусіі“. Юзік слухаў усё гэта і зайдросьціў ім. Але затое-ж і стараўся навучыцца, дагнаць іх! І кожны дзень адчуваў, што рухаецца наперад досыць шпарка.

Хлопцы бачылі, што Юзік цёмны, адсталы, але ніхто не сьмяяўся з яго, ня кпіў. Наадварот, кожны стараўся дапамагчы. І ў новым асяродзьдзі сярод „чужых“, Юзік адчуваў сябе, як у сваёй сям'і.

Юзікавым суседам па ложку быў Квант, таму Юзік зблізіўся з ім больш як з іншымі. Квант быў маладзей за Юзіка на адзін год, але гэта не перашкаджала яму ўзяць, як ён казаў, шэфства над Юзікам. І шэфства было вельмі карыснае, бо Квант быў вельмі разьвіты. Ён меў тую асаблівасьць, што



заўсёды насіўся з „сусьветнымі проблемамі“. Пагражаў зьнішчыць усіх капіталістаў і імпэрыялістаў, марыў аб сусьветным комунізьме, штодзень чакаў сусьветнай рэволюцыі і прагнуў прыняць у ёй удзел, наогул больш за ўсё цікавіўся сусьветнымі справамі.

— Сусьветны пролетар, — жартаўліва называлі яго таварышы.

Другі таварыш, шаснаццацігадовы Электрон, быў „экономіст“. Ён цікавіўся больш гаспадарчымі справамі, сачыў за будаўніцтвам і разьвіцьцём прамысловасьці ў БССР, а таксама ва ўсім СССР, хваляваўся, калі чуў дзе пра гаспадарчыя непарадкі, першы заўважаў недахопы ў сваёй гаспадарцы, падымаў трывогу, пісаў у насьценгазэту.

Усё гэта не перашкаджала хлапцом гуляць і дурэць, як і ўсім хлапцом на сьвеце. Паміж іншым, у іх была вельмі цікавая гульня: скрынка з рознымі маленькімі часткамі машын. З гэтых частак можна было складаць усялякія машыны: аўтомобілі, трактары, вагоны, масты,—і ўсё гэта было бадай што зусім сапраўднае. Юзік пробаваў складаць прасьцейшыя рэчы, але для складаных трэба было шмат ведаў.

Калі Юзік першы раз зьявіўся ў Курычы, дык яму здалося, што людзі тут жывуць сабе ціха, павольна, бадай што нічога ня робяць. Кожны дзень, кожную гадзіну можна было бачыць людзей, якія ці сядзяць сабе, як тады цётка Агата, ці швэндаюцца, або чытаюць газэты, гуляюць у шахматы і гэтак далей. А калі ён азнаёміўся бліжэй, увайшоў у агульнае жыцьцё, дык убачыў, што гэта зусім ня так як здавалася на першы погляд. Такіх вольных людзей сапраўды можна было бачыць кожную хвіліну на кожным кроку, але гэта была зусім нязначная частка ад усіх жыхароў, нават тых, якія ў гэты час былі

вольныя ад працы. Увесь колектыў напружана працаваў і на вытворчасьці і ў розных комісіях, нарадах, гуртках па самаадукацыі.

Хутка Юзік пераканаўся, што і яму нехапае часу на ўсё тое, што ён жадаў-бы зрабіць. Тры гадзіны на вытворчасьці, столькі сама ў школе, потым трэба пачытаць, трохі пагуляць з таварышамі, а там цікавыя сходы, нарады, увечары радыё - концэрт, радыёкіно, часам спэктакль. Так увесь дзень і пройдзе, нават не пасьпееш трапіць усюды. Частка ён успамінаў і дзівіўся, як гэта ў маёнтку пана Загорскага нават пры шматгадзіннай працы, людзі часта ня ведалі як скарыстаць свой вольны час.

Але больш за ўсё Юзіка ўразілі вытворчыя нарады і наогул увесь характар працы ў гэтым маёнтку. У Загорскага ўсе работнікі ведалі толькі тое, каб адпрацаваць свае гадзіны, а як ідзе гаспадарка наогул—гэта іх не датычылася. А тут справа была пастаўлена так, што кожны работнік ведаў стан сваёй гаспадаркі, ведаў, як ідзе праца і вытворчасьць наогул, ведаў, што зроблена, і што трэба зрабіць, ведаў, што мяркуецца надалей і сам прымаў удзел у гэтым меркаваньні, ведаў ня толькі свае працоўныя гадзіны, але ўсё тое, што ён павінен зрабіць за гэты час, нават на месяц, на год і некалькі год наперад. Апрача таго кожны ведаў, у якой сувязі знаходзіцца яго праца з працай іншых таварышоў, і калі ён ня выканае свайго заданьня, дык гэта затрымае працу яго суседа, а гэта ў сваю чаргу адаб'ецца на працы далейшых таварышоў і, нарэшце, на ўсёй гаспадарцы. Мала таго, усім вядома было, у якой сувязі знаходзіцца ўсё іхняе прадпрыемства з гаспадаркай ва ўсёй краіне і як хібы ў іхняй працы адаб'юцца на ўсёй дзяржаўнай гаспадарцы.



Таму кожны працаваў не дзеля таго, каб адбыць свае гадзіны, а каб выканаць пэўную працу, даць пэўную продукцыю. Ня трэба было ніякіх наглядчыкаў, каб сачыць за працай кажнага работніка, падганяць яго. Калі хто, як, напрыклад, Пархомчык, адносіцца да працы нядбайна, дык гэта зараз-жа адбіваецца на працы яго таварышоў і тыя бяз ніякага начальства пачынаюць падцягваць яго. Таму Пархомчыка прыцягнула да адказнасьці і судзіла не начальства, а самі таварышы.

А ў маёнтку Загорскага кожны азіраўся толькі на аконама. Калі той не сачыў, дык кожны карыстаўся выпадкам прыпыніць працу і адпачыць.

Нават у кухеннай справе былі вытворчыя нарады, дзе абмяркоўвалася як экономней скарыстаць продукты, апал, як хутчэй і лепей абслужыць работнікаў. Апрача таго, былі цікавыя тлумачэньні аб процэсах гатаваньня.

Здаецца, простая рэч—згатаваць мяса. Але і тут ёсьць навука. Калі хочаш мець смачнае мяса, дык трэба апусьціць яго ў вар, праз некалькі хвілін зьменшыць тэмпэратуру (халоднай вадой) да 75°—і ў такой тэмпэратуры пратрымаць 1—2 гадзіны. Але тады юшка будзе менш смачная. А калі пакладзеш мяса ў халодную ваду і будзеш грэць павольна, тады будзе наадварот: юшка добрая, але мяса нясмачнае. А каб тое і другое было добрае, дык трэба апусьціць мяса ў ваду пры 30°, потым закіпяціць, праз некалькі хвілін зьменшыць тэмпэратуру да 70° і ў такой тэмпэратуры пратрымаць 1—2 гадзіны.

Юзік слухаў усё гэта і толькі дзіву даваўся. Ці думаў хто з хатніх гаспадынь аб такіх рэчах? А калі-б хто і падумаў, ці мог-бы выканаць гэтыя правілы?

Кожная шалупайка зьбіралася, скарыстоўвалася і Юзік чуў, што гэтыя шалупайкі складаюць у іхнай гаспадарцы тры тысячы кілёграмаў у год, а па ўсіх гаспадарках БССР—пятнаццаць мільёнаў кілёграмаў, што дае магчымасьць выкарміць сто тысяч сьвіней і г. д.

Выходзіла так, нібы ўсе гаспадаркі ў краіне складалі адну гаспадарку і кожны дбаў аб гэтай агульнай гаспадарцы.

Паступова і Юзік навучыўся гэтак сама глядзець на справу. Кожны недахоп, кожная дробная страта непакоіла яго больш як раней уласная страта. Ён ведаў, што ў гэты самы час у другім месцы іншыя рабочыя таксама мяркуюць аб іншых рэчах, якія яны вырабляюць для Курычаў.

Юзік, як і ўсе на яго бацькаўшчыне, добра ведаў, што кожная страта прыносіць каму-небудзь шкоду. Разьбілася шкло ў іхняй хаце,—вось яны і пацярпелі. Зламалася кола ў Захара—вось той і страціў некалькі рублёў.

Зламалася каса ў Максімкавага бацькі, вось ён і страціў рубель, а калі папсуецца аўтомобіль у пана, дык яго нават ня шкода: што яму значыць некалькі рублёў? А калі адкупіць гэтыя рэчы, дык ніякай страты ўжо і няма.

І вось цяпер Юзік убачыў, што справа стаіць зусім ня так. Вось папсаваў Пархомчык машыну. Хто страціў на гэтым? Ён? Не. Гаспадар маёнтку? Ды такога зусім і няма. Увесь колектыў? Але яму далі другую машыну, і страта нібы зьвернута. І Юзік выразна адчуў, як у яго нараджаецца зусім іншы сьветапогляд. Незалежна ад таго, ці адкупіў хто новую машыну, ці не,—а тая машына ўжо страчана. Дарэмная была праца тых рабочых, якія яе будавалі, складалі, везьлі, ставілі; дарэмна здабывалі недзе на Урале жалеза для яе, у далёкім Сібіры—вугаль, і гэтак далей. Страта датычыцца ўсіх, усёй дзяржаўнай гаспадаркі; страчана ня некалькі рублёў, а самая рэч.



І калі пасьля гэтага Юзіку здаралася папсаваць які-небудзь шрубок, ці бачыць што-небудзь папсаванае, дык ён ужо ня думаў, хто і на колькі пацярпеў страты, а шкадаваў самую рэч.

Нарэшце, ён пачаў разумець і тую нязвычайную кару, якую далі Пархомчыку. Юзік карыстаўся кожным выпадкам, каб паназіраць за ім. Вось увaходзіць Пархомчык у сталовую. Нельга сказаць, каб публіка таропіла на яго вочы, але ўсё-ж такі зірне на яго больш уважліва, як на іншых. А самому герою ўжо здаецца, што ўсе толькі і сочаць за ім. У залежнасьці ад настрою, ён прымаў то зухаваты, задзёрысты выгляд, то апускаў вочы і садзіўся за стол трохі далей ад людзей. Асабліва дрэнна адчуваў ён сябе, калі работніца сталовай пыталася ў яго, як і ў іншых, што яму даць, якую страву. Яму здавалася, што ўсе прыслухоўпаюцца, якія стравы ён выбірае, і часьцей за ўсё ён адказваў: „усяроўна, што-небудзь“. Калі суседзі адзін аднаму ціхенька што-небудзь скажуць, дык Пархомчыку здавалася, што гэта аб ім. Зірне скоса ўбок і ўтаропіцца ў сваю талерку. Відаць было, што харчаваньне зьяўлялася для яго пакутай. Ён стараўся хутчэй скончыць і выйсьці, выбіраў такі час, калі людзей было мала. Горш за ўсё было тое, што ніхто яму ніякай заўвагі не рабіў, усе адносіліся да яго, як звычайна. А калі здаралася, што каля яго сядуць таварышы, толькі што прышоўшыя з працы, ды пачнуць паміж сабой гаварыць аб вытворчых справах,—тады Пархомчык неяк крывіў твар, нібы ўсьміхаўся, нібы пакутваў.

Юзік глядзеў на яго і думаў, што сапраўды горшай кары няма на сьвеце. Усе працуюць, з спакойным сумленьнем адпачываюць, ядуць, адчуваюць сябе дзейнымі і карыснымі членамі колектыву, а тут туляйся, як вырадак. Хоць-бы ў якія-небудзь іншыя ўмовы паставілі, усё-ж лягчэй было-б. А то карыстайся ўсім, жыві, як усе, і кожную хвіліну адчувай, што ўсё гэта для цябе робяць іншыя, што табе ласку робяць, ды яшчэ незаслужаную.

Няпрыемныя хвіліны адчуваў Пархомчык, калі, бадзяючыся па садзе, сустракаў таварышоў, якія ідуць на працу ці з працы. Дрэнна было і ў чытальні, у кіно і ў іншых мясцох, прызначаных для адпачынку пасьля працы. Усюды адчувалася няёмкасьць, і ня толькі для самога Пархомчыка, але і для ўсіх іншых. Нават яго бліжэйшыя сябры гэта адчувалі.

Часам Пархомчык з вясёлым выглядам пачне з імі размову:

— Пашанцавала мне сёлета,—добры адпачынак маю.

— Ну і радуйся, а мы такога шчасьця не пажадалі-б.

— Я не прасіўся. А калі ім ужо так хочацца, каб я пагуляў, хай будзе так,—пагуляю.

— Няўжо-ж ты адчуваеш сябе добра?

— А чаму-ж не? Пагуляў, адпачыў, зноў пагуляў.

— Пад'еў,—дадаў сябра.

— Ну і пад'еў,—храбрыўся Пархомчык.—Ці ў часе адпачынку не ядуць?

— Поскудзь ты, як я бачу! Дарма я цябе бараніў!—плюнуў таварыш і адышоўся прэч.

Калі бліжэйшыя сябры гэтак глядзелі на справу, дык чаго было хацець ад больш далёкіх, сталых работнікаў?



... Праз дзён восем пайшлі чуткі, што Пархомчык падаў заяву, каб яго дапусьцілі да працы. З гэтага-ж часу ён пачаў да кожнага зварачацца з просьбай падтрымаць яго, кляўся, што ніколі гэтага не паўторыцца, шчыра ганьбіў свае паводзіны. Куды дзеўся яго задзёрысты, нахабны выгляд.

Наступны агульны сход дапусьціў яго да працы.

А таварыш Пархомчык з таго часу зрабіўся адным з лепшых працаўнікоў. Больш на яго ніхто ніколі ня скардзіўся...

## 8 ЗЕРНЕВАЯ ФАБРЫКА

Лета выдалася гарачае, сухое. Два тыдні ня было дажджу. Хлопцы не задавальняліся душамі і ваннамі, а лічылі за лепшае карыстацца сажалкай, што была каля пасёлку. Тэй самай сажалкай з балотцам і бярозкамі, аб якой чуў Юзік ад бацькі.

З якой ахвотай пабег Юзік да гэтай сажалкі! Але і тут ўбачыў зусім ня тое, што сабе ўяўляў. Гэта была ня сажалка, а басэйн з цэмантовымі берагамі і прыступкамі. З ранейшага балотца ўпадала ў сажалку рачулка-канал, а па берагох быў сухі лес-парк. Усюды навакол сухія сьцежкі з пяску і жарствы ды шмат лавак. Нават былі слупы з электрычнымі ліхтарамі, якія запальваліся ў часе гуляньня. Некалькі невялікіх рознакаляровых лодак стаяла ля берагу.

Калі хлопцы падбеглі да сажалкі, Электрон крыкнуў:

— Стой, хлопцы на пачастунак забыліся! Бяжы, Юзік, па кашу, што засталася ад абеду.

— Па якую кашу? Навошта—зьдзівіўся Юзік.

— Карасём. Бяжы.

— Ня ведаю. Не дадуць.

— Дадуць. Ну, пойдзем разам.

Праз некалькі хвілін хлопцы вывернулі ў ваду вялізную міску кашы, і тут толькі Юзік убачыў, што ў вадзе мільгала шмат залацістых карасёў. Яны, відаць, былі бадай што свойскія і зусім не баяліся людзей.

— Якая-ж іх тут плойма!—прамовіў Юзік.

Гэта ў нас такая самая галіна гаспадаркі, як і ўсё іншае.

Ї нацешыліся-ж хлопцы ў сажалцы! І плавалі, дурэлі, і з берагу скакалі, і на лодках езьдзілі па каналу аж у сярэдзіну ляска.

Было ўжо гадзін шэсьць, калі вярнуліся дадому

Тут Юзіка сустрэў дзед і сказаў:

— А ведаеш? Прыяжджаў твой Антэк.

— Няўжо-ж?—узрадваўся Юзік.—Дзе ён? Пойдзем хутчэй!

— Няма ўжо. Паехаў.

— Чаму так? Які жаль!

— Ды і мы самі дзівімся,—задуменна сказаў дзед— Ён прыехаў па справах МОПР'у, павінен быў даклад рабіць. Людзі пачалі былі зьбірацца, і зусім ня было відаць, што ён думае ад'яжджаць. Падышоў я да яго і кажу: „Вось добра, што вы заехалі да нас. Тут якраз ёсьць ваш зямляк“.—„Хто такі?“—хуценька пытаецца ён.—Ды мой унук Юзік,—кажу, сын Міхала, што ў маёнтку Загорскага служыць. Мусіць, ведаеце?“—„Ведаю, ведаю, як-жа ж. А дзе ён? „Ды недзе гуляе з хлопцамі, зараз прыдзе“.—Шкада, што яго няма, бо я павінен зараз ехаць“.—Чаму-ж так раптоўна?“—пытаюся.—„Толькі што тэлеграму атрымаў,“—кажа. Зьвярнуўся і паехаў, нібы зьбег. Вельмі гэта нас усіх зьдзівіла. Няўжо-ж ад цябе зьбег?



— Ня можа гэтага быць!—упэўнена адказаў Юзік.— Ён быў вельмі прыхільны да мяне. Мусіць, тэлеграма выклікала. Які жаль! Я нават згадзіўся-б спэцыяльна ехаць да яго.

— Ды і я хацеў-бы больш пагаварыць з ім. Тым болей, што і лісту ад Міхала няма. Будзем чакаць другога выпадку. Але ўсё гэта неяк незразумела вышла.

Як-бы там ні было, а іншага тлумачэньня, апрача тэлеграмы, прыдумаць нельга было. Таму больш не ламалі галавы і забыліся на гэтую справу.

Увечары Кім сказаў Юзіку:

— Заўтра я еду ў Іржышчы, да бацькі. Хочаш ехаць разам?

— Вядома! Яшчэ і як!—ускрыкнуў Юзік.

Назаўтра выехалі пасьля паўдня. Ускарабкаліся на скрыні з яйкамі, што адвозіў грузавы аўтомобіль у Іржышчы, і паімчаліся па роўнай шасе. Хутка мінулі апошнія будынкі Курычаў і апынуліся сярод засеяных палёў.

Юзік з гары аглядаў бязьмежнае збожжавае мора, сярод якога аднак віднеліся нейкія пабудовы. Вось адзінока стаіць ні то станцыённая вадакачка, ні то вятрак з нейкімі нязвычайнымі коламі-крыльлямі. У некалькіх мясцох стаяць вялізарныя будынкі-павеці, бяз сьцен і з нейкімі палацамі-паверхамі. А некаторыя з іх былі са сьценамі.

Гарачыня страшэнная; нават досыць значны ветрык не асьвяжае паветра, бо дзьме ён з усходу, і адзіная карысьць ад яго тая, што адносіць у бок пыл з-пад аўтомобілю. Ды колы ветрака круцяцца ад яго. Але пасевы трымаліся добра; сухмень, відаць, яшчэ не пашкодзіў ім.

— Эх, добрае жыта!—кінуў гаспадарскім вокам Юзік. Але што будзе, калі пратрымаецца яшчэ сьпякота?

— Ды нічога ня будзе,—абыякім тонам адказаў Кім.

Юзік зьдзіўлена зірнуў на яго.

— Яно адкрасавалася і наліваецца. Якраз цяпер і патрэбен дождж,—навучальна прамовіў Юзік,—бо зерне будзе дробнае.

Кім усьміхнуўся.

— Дармо! Вырасьце.

Юзік убачыў, што „гарадзкі" Кім нічога не разумее ў гэтых справах і з важным выглядам пачаў тлумачыць:

— Дождж не патрэбен толькі тады, калі жыта красуецца. А калі яно ўвесну расьце ды цяпер наліваецца, то вельмі патрэбен. Зерне ад гэтага робіцца буйным.

Кім усё усьміхаўся.

— А калі патрэбен, дык яго зробяць.

— Каго?

— Дождж.

— Хто?

— Вядома, мы самі. Не спадзявацца-ж на вашага бога.

Здаецца, пасьля трохтыднёвага жыцьця тут Юзік азнаёміўся з усімі „цудамі", але—на табе!—яшчэ новыя штукі.

— Як-жа ж гэта так?—прамовіў ён і нават спусьціўся ніжэй з скрынак.

— Ды так,—адказаў Кім, сьмяючыся.

— Якім чынам?

— А вось убачыш.

— Ну, скажы, як гэта робіцца?



— Пачакай, сёньня, напэўна, сам убачыш.

Як ні прасіўся Юзік, але Кім нічога больш не сказаў. Юзік скрыўдзіўся, узьлез яшчэ вышэй і адвярнуўся ад Кіма.

Зараз-жа паказаліся і Іржышчы. Белыя шматпавярховыя камяніцы, коміны, адным словам, як і ўсе тутэйшыя „вёскі".

Зьлезьлі з аўтомобілю, які паехаў далей на склады, а самі пайшлі ў адзін з дамоў-палацаў. Хоць гэтыя дамы і іншыя будынкі, таксама і сад, мелі іншы выгляд, як у Курычах, але агульны характар быў той самы. Толькі можна было заўважыць, што некаторыя будынкі былі старэйшыя за курыцкія і больш грамозныя. Відаць, Іржышчы заснаваліся раней.

Зайшлі ў пакой дзядзькі Сымона. Ён якраз зьбіраўся ісьці на працу.

— А-а! Калі ласка!—весела ўскрыкнуў ён.—Прывёз „эмігранта" паказаць нашу гаспадарку?

— І тое і другое,—адказаў Кім.—Ты ідзеш?

— Трэба ісьці ў поле. Званілі па тэлефону ў Менск, каб прыслалі дажджу,—адказваюць, што ў гэткі сухавей усе самалёты за працай. Прыдзецца самім рабіць.

Гаворачы аб гэтым, як аб звычайнай справе, бацька з сынам нават ня бачылі, што робіцца з Юзікам. Той стаяў, разявіўшы рот і вылупіўшы вочы, і з нейкім жахам пазіраў то на дзядзьку Сымона, то на Кіма.

— Растлумач ты яму тымчасам—засьмяяўся дзядзька Сымон.—Калі хочаце, падыйдзеце ў поле, а я пабягу.

— Вось у чым справа,—пачаў Кім, ідучы дарогаю.—Дождж адбываецца альбо самастойна, калі паветра досыць насычана вадою, альбо з дапамогай

электрычных разрадаў, як гэта бывае ў навальніцу. А калі мы самі ўладаем электрычнасьцю, дык мы можам скарыстаць яе заместа навальніцы. Для гэтага эскадрыльля самалётаў рассыпае ў паветры насычаны электрычнасьцю парашок, нібы пясок,—і выклікае дождж. Але гэты спосаб яшчэ добра не ўдасканалены і вельмі дарагі, таму часьцей даводзіцца ўжываць стары спосаб, які зараз ты і ўбачыш.

Ї сапраўды, спосаб быў вельмі прымітыўны. Рабочыя рассыпаліся па полі, і ў розных мясцох ўзьняліся фонтаны вады, як з пажарнага рукава. Разьмяркованы былі яны так, каб ахапіць пэўнымі вучасткамі ўсю плошчу.

Падышоўшы бліжэй, Юзік убачыў на межах, на пэўных адлегласьцях чыгуначныя тумбачкі, з якіх і бралася вада. Апрача таго, у розныя бакі ішлі маленькія раўкі, па якіх бегла вада. Але можна было заўважыць, што яна зараз-жа прыпынілася, калі пачалі паліваць поле з тумбачак.

— Няўжо-ж па ўсім полі пракладзены вадаправодныя трубы?—спытаўся Юзік.

— А чаму-ж не?—адказаў Кім.—Гэта каштуе ўсяго толькі пэўнай колькасьці труб і працы. Ї калі зрабіць раз, дык праз некалькі год усе выдаткі вернуцца. Ї мы вызваляемся ад ласкі прыроды, або, як раней казалі, бога.

— Адкуль-жа ж узяць столькі вады?

— Вось тая вежа і дае,—паказаў Кім на вятрак, які заўважыў раней Юзік.—Яна стаіць на самым высокім месцы, а побач у нізіне выкапана некалькі вялізных студняў. Не глядзі, што вежа адсюль здаецца невялікай; сапраўды-ж яна вельмі вялікая, і наверсе ў ёй зьмяшчаецца вады ня менш, як у нашай сажалцы. Колы самі круцяцца ад ветру



і ўвесь час напампоўваюць запас вады. Калі-ж, як, напрыклад, цяпер, яе патрэбна надта многа, дык пускаюцца ў ход яшчэ і электрычныя насосы. Такая опэрацыя, як сёньня, адбываецца ў выключных выпадках; звычайна хапае тэй вады, якая цячэ з вадакачкі вось па гэтых раўкох.

— Бач, якая рэч!—прамовіў Юзік.—Застаецца толькі знайсьці раду, калі дажджу бывае занадта.

— А гэта ўжо прасьцейшая справа. Лішняя вада сьцякае вось па тых больш вялікіх каналах. Яе зьбіраюць і нясуць туды гэтыя самыя раўкі, што цяпер абвадняюць поле. Вось бачыш тут, дзе маленькі равок упадае ў вялікі, зроблена цэмантовая грэбелька. Калі ад дажджу вады зьбіраецца занадта, яна праз гэтую грэблю выцякае ў большы канал. Такім чынам, гэтыя раўкі адначасова служаць і для абвадненьня і для асушкі.

Сонца схілялася на захад, але гарачыня не зьмяншалася. На небе ані хмаркі. А над палямі ўздымаліся дзесяткі вадзяных струменяў, рассыпаліся ўверсе на мільёны іскраў і сыпаліся на засевы сапраўдным дажджом. Ї ў дадатак да поўнай ілюзіі тут-жа побач заблішчала вясёлка. Невялікая, але яскравая і вельмі блізкая.

Юзік аж падбег да яе і пачаў хапаць рукамі.

— Першы раз у сваім жыцьці магу памацаць вясёлку рукамі!—крыкнуў ён.

— Ну і што адчуваеш?—са сьмехам спытаўся Кім.

— На вялікі жаль, нічога!

Але гэта было ня зусім так. Хоць адчуваць ён і нічога асаблівага ня мог, але на яго руках, на твары і ўсёй постаці выразна можна было бачыць рознакаляровыя істужкі.

Праз дзьве гадзіны вызначаная частка плошчы была палітая. На больш не хапіла вады.

Другую частку будзем паліваць заўтра,— казаў дзядзька Сымон, ідучы дадому.

А што-ж гэта за будынкі параскіданы на полі?— запытаў яго Юзік.

— Гэта нашы азяроты.

— А гэта што за зьверы такія „азяроты“?— спытаўся Кім.

Дзядзька Сымон весела засьмяяўся.

— Вы, моладзь, нават ня ведаеце. Толькі мы, старыя, я ды Юзік, памятаем тыя часы, калі снапы сушылі... пад дажджом, на жэрдках. А цяпер мы сушым іх пад тымі павецямі. Сажнем і зараз-жа туды,—ніякага дажджу не баімся. А калі трэба хутчэй, дык апускаем фанерныя сьцены, запускаем электрычныя вэнтылятары з гарачым паветрам—і праз некалькі гадзін снапы сухія. Праўда, цяпер мы большай часткай адразу жнем і малоцім комбайнамі, але часта здараецца, што трэба і сушыць, асабліва, калі надвор'е вільготнае. Нават наша жніво не залежыць ад надвор'я: можам жаць і вазіць хоць у дождж.

Юзіку вельмі хацелася зараз-жа агледзець усю гаспадарку, але надыходзіў вечар, і Кім параіў пераначаваць і адкласьці агляд да заўтрага. Юзік і не шкадаваў, бо ня менш цікава было правесьці вечар у новым колектыве, цікава было параўнаць тутэйшае жыцьцё з курыцкім. Але праз гадзіну ён адчуў сябе таксама, як і ў Курычах. Нават не заўважыў, што сталовая, дзе яны вячэралі, была цямнейшая і большая за курыцкую, што галоўны будынак быў у два паверхі, а ня ў тры, як у іх.

Ня было тут зімовага саду, але затое былі дасканалыя купальні для дарослых. Пад шкляным дахам з вітаглязу[1]), у вялікім басэйне, можна было купацца ня горш, як у курыцкай сажалцы. Увосень і зімку было аднолькава, толькі замест сонца былі ня горшыя ад яго электрычныя ультрафіялетавыя лямпы.

Скончыўся вечар опэрай, якой Юзік да гэтага часу ня бачыў і ня чуў. У тэатры-кіно на экране адбываліся дзеі, музыка і сьпевы артыстаў. Перадавалася опэра з Масквы.

Начаваць госьці пайшлі да іружышчаўскіх хлапцоў, Юзік вымушаны быў доўга расказваць аб жыцьці ў Заходняй Беларусі.

Назаўтра Юзіку паказалі гаспадарку.

Пасьля Курычаў ён ужо ня дзівіўся так, як першы раз. Ды і ня было тут такіх цудаў, як у птушынай гаспадарцы. Іржышчаўская гаспадарка была збожжавая, хлебная, і ўсё ў ёй было дапасавана да гэтай галіны.

Але і тут было на што паглядзець.

Узяць хоць-бы сьвіраны з сельскагаспадарчымі машынамі. Гэта былі нейкія фабрычныя склады! Чаго-чаго тут ня было; шматлямешныя плугі, вялізныя сявяркі, жняяркі, усялякія хітрыя бораны, і шмат машын, якіх і ў пана Загорскага ня было. Сярод іх асабліва вызначаліся караблі-комбайны; нават капітанскі мосьцік на іх быў з штурвалам[2]).

Побач была цэлая фабрыка для рамонту і наладжваньня ўсіх гэтых машын.

— А цяпер пойдзем на стайні,—сказаў хлопец, які паказваў гаспадарку.

На „стайнях“ было 360 трактараў, 80 грузавых аўтомобіляў і сотні пляцформ, падобных да чыгунач-

[1]) Вітагляз („шкло жыцьця“)—тое самае шкло, якое прапускае ультрафіялетавыя праменьні.

[2]) Штурвал—стырнавое кола.

ных. Гэтыя пляцформы на чале з трактарам ці аўтомобілем, складалі нібы цягнікі ў часе працы. Такія цягнічкі з некалькімі пляцформамі Юзік бачыў ужо раней

Далей — высокія элеватары, куды ссыпаецца збожжа. Там яно ачышчаецца, сушыцца, сартуецца, і непасрэдна ракой цячэ па трубах у млын, пабудаваны побач.

А з млына такім-жа самым чынам на хлебазавод...

Убачыўшы такую організацыю працы, Юзік з захапленьнем ускрыкнуў:

— Гэта-ж выходзіць, што варта толькі ўсыпаць збожжа ў элеватар, а далей яно само выйдзе печаным хлебам!

— Бадай што так,—адказвалі яму.—Навошта-ж важдацца з ім, цягаць узад і ўперад, калі ўсё можна зрабіць адразу на месцы. Ня толькі вы, але гаспадаркі на 100-150 кілёмэтраў навакол атрымоўваюць ад нас хлеб, нават цёплы яшчэ. Аўтомобілі па шасы за чатыры гадзіны даставяць хлеб у самы далёкі пункт, а назад прывязуць іншыя продукты, як, напрыклад, ад вас яйкі і курынае мяса.

Дадому Юзік ехаў якраз з хлебам. Кім чамусьці застаўся на некаторы час у Іржышчах. Юзік і не шкадаваў, што едзе адзін. Ён адчуваў патрэбу застацца адным, памаўчаць, падумаць, абмеркаваць новыя ўражаньні.

Прытуліўшыся ззаду ля гарачага хлеба, ён уяўляў сабе, як па ўсёй краіне параскіданы падобныя гаспадаркі, як кожная працуе для другіх, а ўсе для яе, як бязупынна паміж іх шнырацъ аўтомобілі і разносяць спажыўныя продукты, бы кроў у організьме. Зноў успомніў маёнтак, Смалякі, тую „вёску“ Курычы, куды ён ехаў—і ўсьміхнуўся.



Чаму ён так дзівіўся? Гэта-ж зусім простая рэч. І паны і мужыкі зусім непатрэбныя як каменьні і калдобіны вось на гэтай шасе. Ну, што, скажам, рабіў-бы тут Максімкаў ці яго, Юзікаў, бацька, хоцьбы ім далі па дваццаць гектараў зямлі? Ды яны-б прасіліся і маліліся, каб пазбавілі іх такога шчасьця. Нават пасадзі сюды пана Загорскага, дык ён сам зьбег-бы. Куды-б ён сунуўся з сваёй гаспадаркай, да каго далучыўся-б? Ды і хто пайшоў-бы працаваць да яго?

Як гэта ён, Юзік, не разумеў раней, што ня толькі паны, але і сяляне зусім непатрэбныя? І як гэтага не разумеюць там, на бацькаўшчыне?

А калі хто, як гэты Антэк, разумее, дык таго ў турму садзяць...

І такое ўзяло Юзіка жаданьне растлумачыць усё гэта сваім бацьком, батраком, смалякоўцам і іншай галоце, такая нянавісьць да ўсіх тых, хто тамака гэтаму перашкаджае,—што Юзік гатоў быў зноў „паляцець“ назад.

Замест гэтага ён хутка „прыляцеў“ у Курычы.

— Ну, што?—сустрэў яго дзед.—Як спадабалася наша зерневая фабрыка?

— Я толькі дзіўлюся, як гэта вы ўсе прызвычаіліся да ўсяго такога,—адказаў Юзік, паціснуўшы плячыма.

— Нічога! Пажывеш—і ты прызвычаішся.

## 9 НА ФРУКТОВЫМ ФРОНЦЕ

Аднаго разу замітусіўся Электрон. Бегае па ўсіх памяшканьнях, крычыць:

— Хлопцы! На сход! Важная справа! На „Бэры“ прарыў!

Хлопцы пачалі зьбірацца.

— Што такое „Бэра“? І што такое „прарыў“?— пытаўся Юзік у таварышоў.

— „Бэра“—гэта садова-гародніцкая гаспадарка, за дваццаць кілёмэтраў ад нас,—адказалі яму.— А слова „прарыў“ няўжо-ж ты сам ня ведаеш?

— Самае слова, вядома, ведаю, але зусім не разумею, у чым тут справа,—сарамліва адказаў Юзік.

— Гэта добры знак,—заўважыў Квант.—Гэта сьведчыць, што за увесь час твайго жыцьця ў нас ня было прарываў.

Хлопцы пабеглі далей, а Юзік так і не атрымаў тлумачэньня. Таму з яшчэ большай цікавасьцю пабег на сход.

Там ужо арудваў Электрон:

— Таварышы!—крычаў ён.—На „Бэры“ прарыў! Там не падрыхтаваліся да вялікага ўраджаю садавіны, і яна гіне, асыпаецца. Вішні, маліну, парэчкі і ўсю раньнюю садавіну не пасьпяваюць зьбіраць. На сёнешні дзень сабрана толькі сем процантаў. Калі такім тэмпам пойдзе праца і надалей, загіне восемдзесят процантаў. Трэба дапамагчы. Гэта наша справа. Лазіць па вішнях мы мастакі.

— Вядома! Едзем усе! Зараз-жа!—загулі хлопцы.

— І мы! І мы!—пачуліся галасы дзяўчынак.

— І то праўда! Яны будуць зьбіраць ягады.

— Правільна! Гайда!

Праз гадзіну тры аўтомобілі з дзевяноста чалавекамі дзяцей імчаліся па дарозе. Моцна тарахцелі аўтомобілі, але яшчэ мацней крычалі і сьпявалі дзевяноста галасоў. Юзік быў такі ўзрушаны, нібы ён ехаў на вайну.

Па дарозе трапілася яшчэ адна невядомага для Юзіка тыпу гаспадарка. Гэта быў значны гарадок, які складаўся з вялікай колькасьці аднолькавых,



нявысокіх будынкаў з загарадкамі каля іх і з дзіркамі ў сьценах. Сярод дрэў віднелася некалькі двух- і трохпавярховых жыльлёвых будынкаў, а трохі далей уздымаліся карпусы фабрыкі. Апрача таго, было некалькі іншых гаспадарчых будынкаў ды шмат сілосных вежаў.

Сярод шуму і гаму Юзік ледзь дабіўся тлумачэньня, што гэта за гаспадарка.

— Гэта Капачы, сьвінаводная гаспадарка. Вось у гэтых нізкіх будынках-хлявох гадуецца 20.000 сьвіней. Бачыш, вунь яны вылазяць і ўлазяць праз дзіркі ў свае загарадкі. Побач—бэконная фабрыка, якая апрацоўвае ўсе прадукты сьвінагадоўлі, ня толькі мяса і сала, але і скуру, поўсьць, капыты, косьці, нават тое, што знаходзіцца ў кішках.

— А што з гэтага можна зрабіць?—засьмяяўся Юзік.

— Угнаеньне. На палёх-жа, як бачыў, садзяць галоўным чынам бульбу, буракі, моркву і іншыя кармовыя караньплоды, ды яшчэ кукурузу на сілос.

— Ці аднэй гародніны досыць для сьвіней?

— Муку даюць збожжавыя гаспадаркі.

Пакуль Юзіку тлумачылі, гаспадарка засталася ззаду, а праз некалькі хвілін на небасхіле паказаўся лес. Хутка сярод дрэў вызначыліся будынкі. Відаць было, што ў іх шмат шкла, бо яны здалёк ужо зіхацелі на сонцы.

— Бач, і ў лесе нейкая гаспадарка,—заўважыў Юзік.

— Ды гэта-ж і ёсьць тая самая „Бэра“, куды мы едзем!—засьмяялася суседка-дзяўчынка.—І ня лес гэта, а сады.

Зноў нешта цікавае чакала Юзіка! Куды ні высунеш нос, усюды ўбачыш нешта нязвычайнае.

А усе навакольныя людзі нібы не заўважаюць усяго гэтага.

Шаса ўвайшла ў сад. Направа і налева стаялі дрэвы, дагледжаныя, падстрыжаныя, абмазаныя вапнай. Адлегласьць паміж дрэвамі была такая вялікая, што на ёй мог-бы зьмясьціцца ўвесь садок Мікіты Кулыгі ў Смалякох.

Сад быў падзелены на квадраты, і кожны вучастак быў засаджаны якім-небудзь адным гатункам. Вось моцныя антоны, вось дробныя пэпінкі, а вось і гонар гаспадаркі—слуцкія бэры.

Шаса ішла нібы ў лесе: агарожы ніякай ня было. Вось пад'ехалі да будынкаў. Вышла адміністрацыя, дзякавала за прыезд, але неяк сарамліва, нібы адчувала сваю віну. Юзіку-ж прышла думка, што вінаваціць тут зусім няма каго: калі сад нагадвае лес, дык ня дзіва, што справіцца з ім цяжка.

Выявілася, што сюды ўжо прыехала дапамога і з іншых гаспадарак. Ужо ёсьць тысяча дзьвесьце чалавек моладзі, ды чакаецца чалавек пяцьсот. І працаваць усім прыйдзецца тут тры-чатыры дні.

Юзік нават усьміхнуўся, пачуўшы слова „працаваць“.

Якая гэта праца? Гэта-ж найцікавейшая, прыемная гульня! З гэтакай вясёлай і вялікай кампаніяй у гэткіх умовах ахвотна можна было працаваць і тры-чатыры тыдні, месяцы.

— Можа, есьці хочаце?—спыталіся гаспадары.

— Не, не!—закрычалі дзеці.—Піць хочацца! Ой, якая смага! Вады, вады!

Але заместа вады ім далі фруктовага віна. Падвялі да бочак з крантамі.

— Піце, колькі ўлезе!



Юзік нават не хацеў верыць сваім вачом і вушом. Праціснуўся да кранта, наліў кубак, выпіў—ой, як смачна! Нерашуча пазірае,—ці можна яшчэ?

— Пі, дурань!—сказаў Квант, заўважыўшы гэта.—Тут гэтае віно—тое самае, што ў нас яйкі ці ў Іржышчах хлеб. Хопіць на ўсіх.

— А можа ап'янеем?

— Не. Яно—безалькогольнае. Хоць вырабляюць тут і такія, у якіх ёсьць крыху алькоголю.

Але, напіўшыся, дзеці адчулі сябе ня менш вясёлымі і п'янымі, як у былыя часы п'яніцы ад гарэлкі.

Весела рушыў атрад на працу. Па розных сьцежках павялі іх далёка ў глыбіню сада, дзе ўжо чуліся крыкі і сьмех тых, што прыступілі да працы раней.

Вось ужо і вішнёвы квартал, побач—ягадны. На дрэвах, бы хмары вераб'ёў, чапляюцца ня толькі хлопцы, але і дзяўчаты. Апрача таго, вакол дрэў шмат складных сходняў. Насустрач едуць вагонкі з ягадамі. Па сьцежках пракладзены часовыя складаныя рэйкі, па якіх і штурхаюць вагонкі. Калі пераходзяць на новае месца, пераносяць туды і рэйкі

— Ура! Хай жыве Курыцкі атрад!—закрычалі з дрэў іржышчаўскія і іншыя дзеці.

— Ці прывезьлі з сабой рыцыны? Можа спатрэбіцца,—чуліся галасы.

— Абвяшчаецца спаборніцтва між ёркшырамі і легорнамі,—крыкнуў нехта, намякаючы на атрад сьвінаводнай гаспадаркі і курынай.

Але з розных канцоў пачуліся абураныя галасы:

— Што за хуліганства! Сорам!

Закіпела работа. Толькі час-ад-часу прыпынялася яна, калі прыходзілі новыя атрады.

— Абвяшчаем сябе ўдарнікамі і выклікаем на спаборніцтва іскраўцаў!—урачыста абвясьціў адзін з новапрыбыўшых атрадаў.

Але ў адказ на гэта пачуўся сьмех.

— Адкуль вы ўзяліся? Схавайцеся. Мы ўсе і бяз гэтай урачыстасьці ўдарнікі. А спаборнічаць—калі ласка, паспрабуйце.

Чароўны выгляд меў парэчкавы і малінавы квартал. Здавалася, усе кусты былі аблеплены чырвонымі, белымі, залацістымі, блакітнымі матылямі, якія рухаліся, мільгалі, пералятлі ад куста да куста. Гэта хусткі і сукенкі дзяўчынак надавалі такі выгляд.

Вось адтуль пачуўся сьпеў:

„Мы—дзеці комуны"...

Зараз-жа ён перакінуўся на верхавіны вішняў і загуў сад-лес сотнямі маладых жыцьцярадасных галасоў...

... І ўспомніў Юзік, як ён летась з хлопцамі таксама зьбіраў вішні ў панскім садзе. Замест сьпеваў яны ўвесь час чулі выкрыкі: „хутчэй, хутчэй! Вы больш кладзеце ў рот, як у кошык!" Калі першая гадзіна здавалася ня надта цяжкой і нуднай, дык далейшыя былі ўжо пакутай. Рукі і ногі млелі, час цягнуўся доўга, увесь сьвет здаваўся нямілым.

А тут ён працаваў куды стараньней і спарней а зморанасьці не адчуваў. Заместа нуды— бязьмернае шчасьце, радасьць, уздым. А праца тая самая...

Чаму так? Ці ня сьпевы дапамагаюць?

Не. Сьпявалі на рабоце і ў часы паншчыны, але работа ад гэтага не рабілася салодкай. Ня была сьвятам і праца адзіночкі-гаспадара, бо заўсёды з ім была адна згрызота: як-бы забясьпечыць сябе, як-бы мець больш за другога. Праца зрабілася сьвятам



толькі з таго часу, калі працоўны, заместа гэтых згрызот зацікавіўся агульнай справай, калі ўбачыў сваімі ўласнымі вачыма, як тысячы рук разам пераварваюць прыроду і жыцьцё, калі адчуў каля сябе тысячы таварышоў, аб'яднаных аднэй мэтай...

У гэты самы час, па тэй самай дарозе, па якой прыехалі курыцкія дзеці, пад'яджаў легкавы аўтомобіль з адным пасажырам. Гэта быў малады чарнявы чалавек, чыста выгалены, у кепцы і плашчы. Адкінуўшыся на сьпінку сядзеньня, залажыўшы нагу на нагу, па-вайсковаму выставіўшы наперад грудзі, ён пазіраў па бакох з такім выглядам, нібы пад'яджаў да свайго ўласнага маёнтку. Грандыёзнасьць і дасканаласьць гаспадаркі, відаць, уразілі і яго, бо, нарэшце, ён нават ня вытрымаў і прамармытаў:

— Эх! Добры быў-бы маёнтак!

Але пад'ехаўшы да будынкаў, ён зьмяніў свой выгляд, зрабіў прасьцецкую і вясёлую міну, выскачыў з аўтомобілю насустрач члену праўленьня і сказаў:

— Добры дзень, таварышы! Мяне прыслалі да вас з цэнтру азнаёміцца з вашым становішчам і, калі трэба будзе, прыняць удзел у ліквідацыі вашага прарыву. Вось мае паперы.

Член праўленьня, паджылы мужчына з сівымі вусамі, зьлёгка зірнуў на паперу і прамовіў:

— Калі ласка! Дзякуем за ўвагу. Сапраўды становішча стварылася цяжкаватае. Але, здаецца, хутка мы з яго выйдзем. Ад усіх суседзяй прыехала на дапамогу моладзь. Такая праца пайшла, што сад дрыжыць. Чуеце?

Здалёк данесьліся крыкі і сьпевы.

Прыежджы радасна ўсьміхнуўся.

— Вось гэта я разумею! З гэткай дапамогай мы адразу ўсё ліквідуем.

Яны ўвайшлі ў канцылярыю.

— Можа пад'ясьцё з дарогі?— сказаў гаспадар.

— Не, дзякую: я ўжо абедаў. А вось ад вашага ўсяму сьвету вядомага бэравага віна не адмовіўся-б.

— Калі ласка, зараз дамо!—ахвотна адказаў гаспадар і папрасіў, каб прынесьлі некалькі бутэлек.

Але-ж і віно! — цмокнуў прыежджы, выпіўшы шклянку.—Лепш за ўсялякае шампанскае. Нездарма там у нас б'юцца за яго.

— Нічога дзіўнага,—усьміхнуўся дзядзька.—Гэта-ж наша спэцыяльнасьць. З чаго вы думаеце пачаць? Можа, пойдзем спачатку „на фронт"?

— Вядома, прыдзецца пайсьці паглядзець.

Яны вышлі з памяшканьня і накіраваліся ў сад.

— Як вы мяркуеце?—спытаўся па дарозе прыежджы.—Хопіць у вас людзей? Справіцеся?

— Хопіць. Тысяча семсот трыццаць дзевяць чалавек прыехала. Ды як працуюць! Праз два-тры дні пэўна скончым.

— І здалёк?

— Ды нават з-за шэсьцьдзесят кілёмэтраў.

— А... а... з Курычаў таксама прыехалі?

— А як-жа-ж?

Прыежджы замаўчаў і сьцішыў крокі. Потым спыніўся і запытаўся:

— Ці ня ведаеце, ёсьць сярод курыцкіх адзін хлопчык, Юзік Кухаронак?

Ён нядаўна з Польшчы прыбыў. З тэй самай мясцовасьці, адкуль я.

— Ня ведаю. Але думаю, што павінен быць. Здаецца, чуў, як нехта з іх крыкнуў—„Эй, ты, эмігрант!"—Мусіць, да яго.

— Хацеў-бы яго бачыць,—задуменна прамовіў прыежджы.—Але зараз, мусіць, ня прыдзецца. Ве-



даеце, я думаю, што нічога там не дапамагу. Праца ідзе—і добра. Галоўная мая задача — высьветліць прычыны вашага прарыву. Можа вернемся?

— Як хочаце. Нам усяроўна,—адказаў член праўленьня. І яны завярнуліся назад.

— Галоўныя прычыны,—казаў па дарозе гаспадар,—гэта гарачае надвор'е і надзвычай вялікі ўраджай. Дзякуючы такому надвор'ю ў нас пасьпелі бадай усе ягады адразу, а ўраджай у два разы больш за леташні. Такім чынам, і тэрмін збору скараціўся і колькасьць працы павялічылася.

Вось і вышаў затор.

— Але, але. Вядома,—ківаў галавой прыежджы.—Справа ясная. Ня варта і важдацца. Тым болей, што зараз, як відаць, ніякай небясьпекі няма.

Цяпер ужо мы спакойныя! Можам лічыць, што прарыў ліквідаваны цалкам,—упэўнена адказаў член праўленьня.

— Але. І я так думаю,—казаў прыежджы.

У канцылярыі ён пазваніў па тэлефону:

— Дайце, калі ласка, 6-04-97... Так... Але...Прарыў можна лічыць ліквідаваным. Зьехалася каля дзьвёх тысяч моладзі... Праз два дні ўсё будзе сабрана.. Мне няма чаго тут рабіць... Што?.. Ехаць?.. Зараз-жа?.. Добра.

— Вось якая рэч,—сказаў прыежджы, палажыўшы трубку.—Мне загадалі зараз-жа, тэрмінова, ехаць у другое месца. Лічаць, што больш тут мне няма чаго рабіць. Добра, што так скончылася. Бывайце здаровы.

— Можа, крыху пабылі-б яшчэ?—пачаў угаварваць гаспадар,—азнаёміліся-б з гаспадаркай, з працай.

— Пасьпею яшчэ. Можа заеду па дарозе назад. Ах, я і забыўся! Мой аўтомобіль паехаў. Можа, даставіце мяне на станцыю?

— Можна, можна.

Праз некалькі хвілін прыежджы ехаў па тэй самай дарозе, але выгляд яго быў зусім не такі, як ён ехаў сюды...

Хоць і радавалася праўленьне, што гэтулькі народу прыехала на дапамогу, але-ж паламала галаву над тым, як пракарміць і разьмясьціць такую армію.

Старшыня да поту працаваў ля тэлефону:

— Альлё!.. Іржышчы?.. Гаворыць Бэра. Заўтра прысылайце лішніх 800 кілёграмаў хлеба: пракарміць вашу і іншую дзетвару.—Альлё!.. Чырвоная Зорка?.. Заўтра дадайце лішніх 300 кілёграмаў мяса і 20 кілёграмаў масла.—Бэконная фабрыка?.. Гаворыць Бэра. Прысылайце лішніх 200 кілёграмаў сала: да нас прыбыло лішніх 1700 чалавек,—і г. д.

А разьмясьціць увесь гэты народ на начлег было яшчэ цяжэй. Адкуль набрацца ложкаў, пасьцеляй, падушак, коўдраў? На чалавек паўтараста-дзьвесьце зашчэ магло-б знайсьціся, а тут каля дзьвёх пасу яшчэ магло-б знайсьціся, а тут каля дзьвёх тысяч.

Нарэшце, здалёк пачуўся гоман, сьпевы, усё бліжэй, бліжэй. Праз некалькі хвілін увесь двор напоўніўся юнацтвам.

Сталыя людзі толькі цешыліся, гледзячы на іх. Зусім нельга было пазнаць, што яны прышлі з працы. Там двое тузаюцца, там ганяюцца адзін за адным, а там мільгаюць ногі над галовамі: фізкультурнікі ня ўстрымаліся ад спакусы пусьціцца навыперадкі на руках.

Дзяліліся ўражаньнямі, жартавалі, папікалі адзін аднаго, спрачаліся. Асабліва сьмяяліся з аднаго хлопца,



у якога „ня было сьпіны“. Ён паляцеў з дрэва, таварыш ухапіў яго за сьпіну, г. зн. за кашулю, і ўся „сьпіна“ засталася ў руках.

— Ну, і цяжкі каб яго ліха! Нават кашуля ня вытрымала.

— Мусіць, занадта пад'еў ягад.

— Але ўсё-ж такі кашуля дапамагла зьменшыць удар аб зямлю прынамсі напалову.

Сталоўка, разьлічаная на мясцовых жыхароў, не магла ўмясьціць усіх адразу. Пусьцілі ў тры зьмены.

Было ўжо цёмна, калі павялі іх на начлег. Павялі некуды ў бок, далей ад будынкаў. І прывялі ў нейкі „шкляны гарадок“.

Наколькі можна было заўважыць у змроку, тут было шмат будынкаў з шклянымі сьценамі і дахамі. Некаторыя былі такія вялікія, што ў іх зьмясьціліся-б якія-небудзь Смалякі.

У адзін з такіх будынкаў трапіў Юзік з сваёй партыяй. Раптам запаліліся электрычныя лямпы, і Юзік убачыў вялізнае памяшканьне, падтрымліванае жалезнымі слупамі—і больш нічога. Потым яшчэ заўважыў, што па зямлі былі разасланы рагожкі.

„Няўжо так прыдзецца спаць?“—падумаў Юзік.

Пачуліся і яшчэ галасы:

— Ой-ой-ой! Вось дык начлег! Я лепш пераначаваў-бы на вішні!

— Супакойцеся, таварышы!—пачуўся гучны голас.—Вы-ж разумееце, што на тысячу семсот чалавек мы ня можам знайсьці ложкаў і пасьцеляй. Пацярпіце крыху. Але ведайце, што тут зусім ня так дрэнна, як можа каму здаецца. Зямля ў оранжарэях падрыхтавана да зімы, чыстая, сухая, мяккая. Тэмпэратура зямлі і паветра ўсю ноч будзе падтрымлівацца такая самая, як тэмпэратура нашага цела, гэта значыць 37°.

Можаце спаць хоць голымі, ды яшчэ пакінуць сьвятло хоць на ўсю ноч. Вы-ж ведаеце, што лямпы ультрафіялетавыя. Адзіны недахоп—няма падушак. Ну, дык можна пакласьці пад галаву сваё адзеньне.

— Правільна! Добра!—закрычалі хлопцы.—Мы будзем тут як на пляжы[1]) у Крыму, ці на Каўказе. Нават загарым за ноч.

І братва пакацілася па зямлі, скінула верхняе адзеньне, палажыла пад галаву, а потым зьняла і сподняе.

Апусьціўся на зямлю і Юзік—цёплая! Зьняў верхняе адзеньне—добра! Зьняў сподняе—яшчэ лепш! Нібы на сонцы ляжыш.

— Вось мы і на курорце!—сказаў Квант, расьцягнуўшыся каля Юзіка.—Што? Добра?

— Вельмі добра!—прамовіў Юзік.—Але якім чынам усё гэта робіцца?

— Неахвота мне лекцыю табе чытаць,—пазяхаючы, сказаў Квант,—але трэба. Ну дык вось. Гэтая аранжарэя падобная да нашага зімовага саду. Толькі там дрэвы, а тут для гародніны. Тут усю зіму растуць агуркі, памідоры, морква, салата, радыска, адным словам, усё тое, што ўлетку. Лямпы служаць заместа сонца, а цяплыню даюць электрычныя трубы ў зямлі, пад намі. Вось і ўсё.

Сапраўды, усё. Нічога хітрага і складанага. Але што сказалі-бы Юзікавы бацькі і знаёмыя, каб убачылі, як тут ляжаць „на пляжы“? Не! Мусіць, хоць сто год тутака жыві, усяроўна на кожным кроку будзеш сустракаць такія „простыя“ рэчы.

— Таварышы! Прапаную загасіць сонца! Перашкаджае спаць!—крыкнуў нехта здалёк.

[1]) Пляж—морскі бераг для купаньня.



Адны падтрымалі, другія хацелі яшчэ трохі „падзагарэць“, але, нарэшце, большасьць пастанавіла „загасіць сонца“.

— Холадна будзе!—спалохана крыкнуў Юзік.

У адказ пачуўся агульны сьмех.

— Накрыйся рагожкай! Закапайся ў зямлю!

— Эх ты! пхнуў яго ў бок Квант.—Няўжо-ж ты ня ведаеш, што ня лямпы даюць цяплыню? Я-ж казаў, што саграецца зямля, а ў даным выпадку яшчэ і паветра.

Відаць, гэдзе які-небудзь мэханік сачыў за тэмпэратураю ўсю ноч, бо ўсю ноч яна была аднолькавая, і нават не адчувалася, ці пакрыты, ці не.

Дружна і весела прапрацавалі і ўвесь наступны дзень. Але на гэты раз зморанасьць ужо адчулі, бо працавалі ня тры і ня пяць гадзін, а, мусіць, дванаццаць.

— Дзеці!—казалі старэйшыя.—Занадта не старайцеся. Хай кожны працуе, колькі можа.

— Не, дзядзенька!—адказвалі дзеці.—Не дзеля таго мы прыехалі, каб адбываць „законныя“ гадзіны. Мы-ж на фронце.

На трэці дзень праца была скончана. Тады, хто хацеў, агледзеў завод, які ў гэты час поўным ходам працаваў цэлыя суткі. Але-ж і вялікі быў завод! Вялізарнейшыя чаны, трубы, насосы сіпелі, пырскалі, кіпелі. А з апошняга аддзяленьня вывозіліся на склады-халадзільнікі розныя смачныя рэчы: павідла, пасьціла, мармалядa, варэньне, віно, сушаныя фрукты, марынаваныя і шмат падобных ласункаў. Дзеці маглі есьці ўсё гэта, колькі хто хоча, але хутка спагналі ахвоту і нават глядзець не хацелі на ласункі.

Праз некаторы час з усіх бакоў пачалі зьяжджацца аўтомобілі і забіраць дзяцей.

Вярнуліся дадому героямі, з гонарам адчуваючы, што „ліквідавалі прарыў“.

## 10 ВОСЬ ДЫК АНТЭК!

Час ішоў. Юзік ужо зусім прызвычаіўся да свайго жыцьця. Ня дзівіўся, наведваючы Іржышчы, азнаёміўся бліжэй з сьвінаводнай гаспадаркай, трапілася наведаць і агледзець тую малочную гаспадарку, праз якую ён праяжджаў у першы дзень. З новых гаспадарак ён азнаёміўся яшчэ з пчалярскай і ільняной, што былі ў іхнім раёне. Паступова і для яго ўсё гэта зрабілася такой звычайнай справай, што аб гэтым і ня думалася.

Тады яго ўвага і цікавасьць накіравалася па-за межы свайго раёну, па-за межы Савецкай Беларусі. Ён пільна сачыў за газэтамі, чытаў часопісы. Праз іх яму адкрыўся сьвет, яшчэ больш дзіўны, як тут.

Вось Магнітагорск, самы вялікі мэталёвы завод у сьвеце.

Вось электрастанцыя на Волзе, самая вялікая электрастанцыя ў сьвеце. А на Ангары, у Сібіры, дык яшчэ большая.

Вось чыгунка праз Каўкаскія горы. То ідзе яна нібы ў паветры, то сьвідруе вялізныя горы.

А вось апісаньне і малюнкі дзіўнага гораду Ігаркі каля Ледавітага акіяну. Вакол-жа Дняпроўскай электрастанцыі ўвесь раён—адзін суцэльны горад.

Сотні апісаньняў прачытаў ён, і кожны дзень знаходзіў усё новыя незнаёмыя яму краіны, гарады, заводы, гаспадаркі. Нарэшце, дайшло да таго, што і Курычы, і Іржышчы, і ўсе тыя гаспадаркі, якія раней



здаваліся яму казачнымі, цяпер пачалі здавацца мізэрнымі.

І Юзік пачаў ужо марыць, каб убачыць новыя краі. Нават завёў быў гутарку з дзедам.

— Ага!—сказаў дзед.—Ты ўжо разласваўся на далёкія краі! А ці ведаеш ты, што для таго, каб агледзець наш вялікі Савецкі Саюз, патрэбна шмат гадоў? Але ты пасьпееш яшчэ сёе-тое ўбачыць. Прыдзе час, трапіш у якую-небудзь экскурсію, якія ў нас адбываюцца бязупынна. Некаторыя з нашых, у тым ліку і Кім, ужо езьдзілі.

Тады Юзік прычапіўся да Кіма.

І той вымушан быў яму расказваць пра соцыялістычныя гарады, пабудаваныя ў тры—чатыры гады на бязьлюдным месцы, гарады, лепшыя за амэрыканскія. Пра вялізарныя фабрыкі і заводы, пра ўсялякія гаспадаркі, нават большыя і лепшыя за тутэйшыя. Пра тое, як працоўныя перайначваюць нават прыроду сваёй краіны. У тундрах—дасканалыя аленевыя гаспадаркі, у пустынях—баваўняныя плянтацыі, у тайзе—фабрыкі і гарады, у балатох—жывёлагадоўчыя і збожжавыя гаспадаркі.

— Няўжо-ж усё гэта лепш, як у Амэрыцы?—пытаўся Юзік.

— Трохі лепш,—усьміхнуўся Кім,—прынамсі ў два разы.

— Няўжо-ж і яны ня могуць гэтак зрабіць?

— Пакуль што не. Бо ў іх кожны капіталіст сам сабе пан і робіць, што сам захоча, што карысна толькі для яго самога. А ў нас такі лад, што мы ўсе дбаем аба ўсіх. А калі ўсе 300 мільёнаў чалавек аднолькавыя гаспадары і аднолькава зацікаўлены агульнай справай, дык, вядома, яны могуць зрабіць у ты-

сячы разоў болей, як нязначная колькасьць капіталістаў з іх паднявольнымі рабочымі.

— Дзіўная рэч! — задуменна прамовіў Юзік. — Гэткія справы робяцца побач, а там у нас ніхто і ня ведаў!

— Гэта вы ня ведалі,—сьмяючыся, адказаў Кім.— А каму трэба было, добра ведалі, а часам і занадта добра. Ды вам не казалі, каб не спадабалася нашае жыцьцё і каб не надумаліся гэтак сама зрабіць як і мы.

— Нават Антэк ня ведаў.

— Які Антэк?

— Ды той, што ўцёк адтуль і, памятаеш, прыяжджаў да нас.

— Ну, ён, мусіць, ведаў куды больш. Але, магчыма, усяго таго, што мы бачым і аб чым цяпер гаворым, ён і ня ведаў.

— Скажы мне яшчэ,—крыху падумаўшы спытаўся Юзік:—няўжо-ж усюды, па ўсей краіне такія самыя гаспадаркі?

— Не яшчэ. У гэткай вялікай краіне ўсе куткі так дасканала абсталяваць яшчэ не пасьпелі. Шмат яшчэ такіх гаспадарак, дзе жывуць у старых будынках, дзе ніякай фабрыкі няма. Але з кожным годам такіх гаспадарак застаецца ўсё менш і менш. А паасобных гаспадароў, якія-б адны поркаліся на сваім кавалку зямлі, даўно ўжо няма аніводнага.

Прайшло ўжо досыць часу, але ад Юзікава бацькі ня было ніякіх вестак. Дзед занепакоіўся.

— Ці правільны адрас ты напісаў—казаў ён Юзіку.

— Правільны. Я-ж добра ведаю.

— Ну, дык, відаць, ліст затрымалі.

— Хто?



— Вядома хто. Вашыя паны. Для іх праўдзівыя весткі аб нашай краіне—нож у сэрца.

— Тады зноў паспрабуем напісаць.

— Паспрабуем. Але, мусіць, дарэмна будзе. З такім-жа самым посьпехам яны могуць затрымаць і другі ліст.

— Праз некаторы час дзеду прапанавалі па нейкіх там справах зьезьдзіць у Менск. Хоць і не ахвотнік быў дзед да паездак, але на гэты раз згадзіўся ахвотна: ён надумаў адшукаць Антэка і перагаварыць з ім аб сваім сыне. Магчыма, што ён знойдзе спосаб наладзіць сувязь з Міхалам.

Прыехаўшы ў горад і выканаўшы даручэньне, дзед пачаў распытвацца аб таварышу Баркоўскім. Даведацца было няцяжка, і хутка дзед апынуўся ва ўстанове, дзе быў Антэк.

— Вы да мяне справу маеце?—спытаўся той, не пазнаўшы дзеда.

— Але, таварыш Баркоўскі. Можа памятаеце, калі вы былі ў Курычах, я зьвяртаўся да вас адносна майго сына Міхала Кухаронка, што жыве ў маёнтку Загорскага.

Баркоўскі ўздрыгануўся і хуценька запытаўся:

— Вы адны тут?

— Адзін. Унук застаўся дома.

— Памятаю, памятаю,—ласкава сказаў Баркоўскі.— Сядайце, калі ласка. Ну, дык у чым справа?

— Вось якая рэч,—пачаў дзед, усеўшыся,—я даўно ўжо паслаў яму ліст, але да гэтага часу ня маю адказу. Ня ведаю, чым гэта тлумачыцца. Можа за ім сочаць, можа ліст перахапілі? Як вам здаецца?

— Ня думаю, каб за ім сачылі,—прамовіў Баркоўскі.—Павінен вам сказаць, што сын ваш, нажаль, лічыцца вельмі адданым пану, ад нашых спраў ён

заўсёды быў вельмі далёка, і наўрад ці будуць за ім сачыць. Думаю, што ліст проста згубіўся, як гэта часта здараецца. Напішэце яшчэ.

— Вы, мусіць, маеце сувязь з тамтэйшымі таварышамі. Можа вы згадзіліся-б зьвязаць мяне з сынам?

— Таварыш Кухаронак!—адказаў Баркоўскі сур'ёзным голасам.—Я думаю, вы самі павінны разумець, што мае сувязі такога характару, пры якім умешваць новых асоб рызыкоўна. Тым болей, як я вам ужо казаў, сын ваш, нажаль, стаіць на другім баку.

— Эх, дурны ён!—паківаў галавой дзед.—Але-ж калі-б я яму напісаў ды растлумачыў, дык ён адразу зразумеў-бы.

— А вось гэта для нас якраз і небясьпечна,—усьміхнуўся Баркоўскі.—Калі такі ліст трапіць у рукі жандармэрыі, дык загінуць і нашы таварышы і ваш сын.

— Няўжо-ж ніякім чынам нельга сьпісацца з сынам?—зьбянтэжана сказаў дзед.

— Я-ж вам казаў, што па адным лісьце судзіць нельга. Напішэце яшчэ раз. І нават трэці раз, калі нічога ня выйдзе. А тады ўжо, мажліва, я паспрабую што-небудзь зрабіць.

— Вельмі дзякую, таварыш Баркоўскі!—узрадваўся дзед.—Вы з ім разам працавалі?

— Але.

— Ну, як яму тамака жывецца?

— Жыве нядрэнна, бо дагаджае пану. Мы з ім ня надта сябраваліся.

— Вось дурны, цёмны хлапец! Затое Юзік кажа, што ён быў ваш прыяцель.

— Які Юзік?—спытаўся Баркоўскі, нібы ня ведаючы.



— Ды ўнук, Міхалаў сын, што цяпер у Курычах. Ці-ж вы ня ведаеце?

— Гэты хлопчык? Бачыў яго.

— Ён кажа, што вы былі вельмі прыхільныя да яго.

— Нішто сабе хлопчык. Але адкуль ён узяў, што я быў вельмі прыхільны да яго?

— Ды, кажа, гутарыў з вамі. Нават вы яму дапамагалі вызваліцца ад рэлігійнага дурману.

— Але, была такая гутарка, як і з іншымі.

— Ён вельмі жадаў вас бачыць тады ў Курычах.

— Наўрад ці ён пазнаў-бы мяне. Наогул мы з ім мала сустракаліся.

— Кажа, што пазнаў-бы.

Пры гэтых словах Баркоўскі бліснуў вачыма і неяк злосна сказаў:

— Ня думаю, каб ён мяне пазнаў. Я таксама наўрад ці пазнаў-бы яго. І адкуль ён узяў сяброўства? Калі я раз-другі пагутарыў з ім, дык гэта ня значыць, што мы былі нейкімі прыяцелямі. Я-ж вам кажу, які яго бацька, а я вёў рэволюцыйную работу і ня мог сябравацца з маленькім хлапчуком, ды яшчэ з такім, сям'я якога небясьпечная для мяне.

— Але,—згадзіўся дзед.—А ён, бачце, узяў сабе ў галаву, што зусім ваш таварыш і прыяцель. Вядома, малы ды дурань яшчэ.

На твары Баркоўскага мільганула задавальненьне.

— Я тлумачу гэта тым, што ён хлопчык добры і чулы. Досыць было сказаць яму два-тры шчырыя словы, як ён і адчуў прыхільнасьць да чалавека. У кожным разе жадаю яму ўсяго найлепшага. А заместа мяне ён тут знойдзе шмат лепшых сяброў, якія яму дадуць больш карыснага, чымся я тады мог зрабіць. А вам раю напісаць яшчэ і яшчэ раз. А калі нічога ня выйдзе, тады зьвярнецеся да мяне

калі-небудзь, таксама, як цяпер, і мы паглядзім, што можна будзе зрабіць далей.

Дзед вышаў ад Баркоўскага зусім задаволены. Добры і разумны чалавек: усё растлумачыў і абяцаў дапамагчы. Нездарма і Юзіку ён спадабаўся. Сьмешна толькі, што хлопчык убіў сабе ў галаву, нібы гэта яго таварыш. Вядома, дзіця.

Калі дзед вярнуўся дадому, Юзік зараз-жа спытаўся:

— Ну, што? Бачылі яго?

— Бачыў.

— Што ён казаў?

— Параіў яшчэ і яшчэ раз напісаць, а потым ужо абяцаў дапамагчы.

— Ці пытаўся пра мяне? Ці казалі, што я жадаю яго бачыць?

Дзед засьмяяўся.

— А ты думаеш, ён толькі пра цябе і думае? Які ён табе сябра? Ён старэйшы ад цябе на гадоў дзесяць. А ці праўду ён кажа, што твой бацька не спачувае рэволюцыянэрам, падлашчваецца да пана?

— Але, праўда.

— Ну, вось бачыш. Ён крыху пагутарыў з табой, як добры таварыш, а ты ўявіў сабе яго сябрам. Калі-б ён тут жыў, вы маглі-б працягваць знаёмства, а так лезьці да яго ня варта. Якія справы ён можа з табой мець? А я напішу яшчэ, пачакаю, а потым зноў зьвярнуся да яго. Ён, відаць, добры і разумны хлопец.

Зьдзівіўся крыху Юзік, што Антэк абыяк адносіцца да яго, але, падумаўшы, згадзіўся з дзедам. Вядома, Антэк чалавек дарослы, а Юзік хлопчык. А што Антэк Юзіку там вельмі спадабаўся, гэта нічога ня значыць. Можа сам Антэк зусім ня цікавіўся Юзікам.



Уласна кажучы, яны і ня так дужа сустракаліся і гутарылі.

Пад восень у Курычах організавалася маленькая экскурсія ў Менск. Настаўнік хацеў паказаць вучням некаторыя фабрыкі і заводы. Сабралася чалавек пятнаццаць дзяўчат і хлапцоў, у тым ліку і Юзік.

Цяпер ужо Юзік ехаў па той самай дарозе зусім з іншым пачуцьцём, як першы раз. Ён ахвотна наглядаў, як па палёх ходзяць трактары, цягнуць плугі, бароны, цэлыя шарэнгі сявярак, машын для капаньня бульбы, як цягнуць па дарозе цэлыя абозы,—але глядзеў на ўсё гэта зусім іншымі вачыма. Цяпер ён болей зьдзівіўся-б, калі ўбачыў-бы якую вёску ці сялянскую хату.

Зноў убачыў гарадзкія вуліцы, вялізарныя будынкі і хоць глядзеў на іх з такой самай цікавасьцю, як раней, але адчуваў сябе зусім інакш, адчуваў, што ён ужо ня чужы тут.

Спыніліся яны ў такім памяшканьні, з такімі выгодамі, ад якіх раней у Юзіка закруцілася-б галава, а цяпер ён глядзеў на ўсё гэта так, нібы іначай быць ня можа, нібы ён увесь свой век пражыў у такіх умовах.

Аглядзелі вялізарную фабрыку-кухню, галоўны хлебазавод, але нельга сказаць, каб яны надта ўразілі дзяцей, бо і ў іхнім раёне былі падобныя, толькі меншыя. Больш цікавымі былі абутковая фабрыка, швэйная і асабліва гарбарня. На гарбарні Юзіка больш за ўсё зьдзівіла тое, што такая брудная і смуродная праца, як апрацоўка скуры, была організована так, што зусім гэтага не адчувалася: чыстата, сьвежае паветра, круцяцца нейкія вялізныя барабаны, скура пераходзіць з аддзяленьня ў аддзяленьне і выходзіць гатовым таварам.



Больш за ўсё быў цікавы мэталёвы завод. Вялізарныя машыны, колы, усялякія падважнікі, пад'ёмныя краны, конвэер, — усё гэта грукаціць, круціцца, рухаецца і выносіць з заводу гатовыя машыны і прылады, якія Юзік бачыў ва ўсіх гаспадарках свайго раёну.



Рабочыя рухаюцца мерна, жвава, ніводнага руху дарма ня робяць. Юзік заўважыў, што тут працуюць трохі інакш, як у тых гаспадарках, што ён аглядаў. Адчувалася, што тут рабочыя больш спаяныя, арганізаваныя і складаюць нібы адзін організм. Праца была цяжкая, напружаная, а калі паглядзець збоку, дык здавалася, што яна зусім лёгкая, нібы рабочыя гуляюць.

— Адкуль?—пытаецца адна жанчына, апрацоўваючы на варштаце нейкую мэталёвую штуку.

— З Курычаў.

— Ага! Значыцца, вашыя яйкі і курэй мы ямо. Дзякуем. А мы вось вам вагончыкі робім. Ці выконваеце вы свой плян?

— Выконваем!—разам адказалі дзеці.

— Ну і мы не адстаем,—кажа работніца, ні на хвіліну ня спыняючы сваёй працы.

На ўсіх прадпрыемствах, якія яны аглядалі, настаўнік тлумачыў ня толькі процэсы вытворчасьці, але і фізычныя, хэмічныя і мэханічныя законы, згодна якіх пабудавана даная вытворчасьць. Слухаючы яго, Юзік толькі дзіву даваўся: як гэта настаўнік столькі ведае?

І вось аднаго разу, ідучы па вуліцы, Юзік убачыў наперадзе чалавека, які прыцягнуў яго асаблівую ўвагу. Нават сэрца забілася мацней.

Гэта быў звычайны чалавек, як і ўсе іншыя. Ішоў ён насустрач, трапіў у гурток вучняў і праціскаўся праз яго, не зьвяртаючы ні на каго ўвагі. Але Юзіку адразу здалося, што ён яго недзе бачыў раней, і нават добра ведае.

Але дзе і хто ён такі—ня мог успомніць.

Чалавек тымчасам праціснуўся і прашоў міма. Юзік прыпыніўся і азірнуўся ўсьлед.

Дзе-ж ён яго бачыў? І чаму нават нейкае асаблівае няпрыемнае пачуцьцё зьявілася? Асабліва знаёмы гэты выраз вачэй.

Усю дарогу Юзік ламаў галаву, больш нічым ня цікавіўся. Яму нават абрыдла гэтая думка, ён хацеў-бы ўжо адвязацца ад яе. Але і з усімі часта здараецца, што прыдзе да галавы якое-небудзь забытае слова, нават зусім непатрэбнае, а мы ня можам адчапіцца ад яго. Так было і з Юзікам.

Нарэшце, увечары, лежачы ўжо на ложку, ён успомніў:

Такія вочы ён бачыў тады, калі Чэсь выцяў яго бізуном!

Няўжо-ж гэта ён? Ня можа быць! Ды і твар ня зусім падобны. Можна нават сказаць, зусім не падобны. Але ў чым розьніца—Юзік ня мог сказаць. Нарэшце, ці мала ёсьць на сьвеце людзей, яшчэ болей падобных адзін да аднаго? Па адных вачох ды па сваім уласным уражаньні меркаваць нельга.

Вырашыўшы такім чынам пытаньне, Юзік супакоіўся і зараз-жа заснуў. А ў наступныя два дні, якія прабыў у горадзе, нават і не ўспамінаў аб гэтым здарэньні.

І толькі дома, ды і то праз некаторы час, зноў пачаў аб гэтым успамінаць. Асабліва, калі заходзіла гутарка з дзедам аб тым, што лісту ад бацькоў няма. Тады прыпаміналася жыцьцё Юзіка на бацькаўшчыне, падзеі, якія ён там перажыў, і сярод гэтых падзей самы востры момант—бізун Чэся. І тады яскрава ўяўляў сабе Юзік таго Чэся, а разам з тым і гэтага чалавека, якога бачыў на вуліцы.

А можа і сапраўды ён? А розьніца, відаць, у тым, што ў Чэся, здаецца, былі вусы, а ў гэтага няма. А вусы-ж лёгка зьняць!



Нарэшце, Юзік падзяліўся сваімі думкамі з дзедам. Зноў падрабязна расказаў усю гісторыю з Чэсем.

Дзед задумаўся. Але зараз-жа пачаў разважаць, што падстава надта ненадзейная. Ці мала што магло здацца хлопчыку? Здавалася-ж яму, што Антэк яго сябра.

— Наўрад ці можна совацца з такой справай,—казаў ён.—Яшчэ людзей насьмяшыш. Якім чынам польскі афіцэр можа гуляць па вуліцах Менску? Ды і ты бачыў яго адзін толькі момант, і сам кажаш, што ён ня зусім падобны.

— Але-ж я адчуваю, што гэта ён,—настойваў Юзік.—Чым больш я думаю, тым больш упэўніваюся ў гэтым.

— Ну, з адчуваньнямі, ды яшчэ такімі, як твае, далёка не паедзеш,—прамовіў дзед.

Але праз некаторы час і яго пачала трывожыць думка: а што, калі сапраўды шпіён? Гэта-ж будзе злачынства з боку яго, дзеда, калі ён будзе маўчаць.

— Вось паеду ў Менск да Антэка з лістом і параюся з ім,—парашыў дзед.—Ён-жа ж ведае гэтага Чэся?

— Пэўна павінен ведаць.

І дзед паехаў.

Антэк сустрэў яго ветліва, як старога знаёмага.

— Ну, што? Усё яшчэ няма адказу?—спытаўся ён.

— Няма.

— Тады ўжо я паспрабую. Для пачатку напішэце маленькі ліст, а там, можа, мы і злучым вас.

Дзед з вялікай падзякай перадаў ліст.

Ну, як жыве ўнук? Прызвычаіўся?

Дзякую. Жыве добра. Але вось з ім было адно здарэньне. Хачу параіцца з вамі.

— Якое?

— Ды вось сустрэў ён на вуліцы аднаго чалавека ды кажа, што гэта нейкі Чэсь, польскі афіцэр, значыцца шпіён. Вы, мусіць, ведаеце такога? Як вам здаецца? Ці можна зьвяртаць на гэта ўвагу?

І дзед падрабязна расказаў усю справу.

Твар Баркоўскага скамянеў, і пальцы нэрвова забарабанілі па стале.

Потым ён усьміхнуўся і спакойна прамовіў:

— Зноў здаецца гэтаму хлопчыку? А каму ён аб гэтым казаў?

— Ды мне толькі. Я спачатку не зьвярнуў увагі. Але потым падумаў, можа, яно і праўда. Тады будзе злачынства з нашага боку.

— Вядома, будзе злачынства, калі гэта праўда,— пацьвердзіў Баркоўскі.

— Але-ж, з другога боку, можна трапіць і ў сьмешнае становішча, калі бегчы пасьля кожнага слова малога хлопчыка. Трэба спачатку добра абмеркаваць. Я гэтага Чэся добра ведаю. Гэта дрэнны і паскудны чалавек і да таго-ж дурны, як бот, і мне здаецца, што да такой рызыкоўнай справы ён не падыходзіць. Прынамсі я гэтага аніяк не магу сабе ўявіць. Вы кажаце, ён скрыўдзіў вашага ўнука, вось таму яму і здаецца. Можна знайсьці тысячы людзей, якія досыць падобныя адзін да аднаго.

— Вось і я гэта казаў. Але ён усё больш і больш упарта сьцьвярджае.

Відаць ён у вас нейкі асаблівы, нэрвовы. Трэ' было-б яго падлячыць, адправіць на курорт, у Крым ці на Каўказ. Я даўно заўважваў гэта. Адносна-ж гэтага шпіёна павінен вам сказаць, што я сам не адважыўся-б савацца на такіх падставах. Калі-б унук ваш бачыў яго некалькі разоў, прыгледзеўся добра, тады яшчэ сяк-так можна было-б меркаваць, а так



адразу неяк няёмка. Ды каб сапраўды гэты Чэсь швэндаўся тут па вуліцах, я-б хутчэй мог яго сустрэць. Але да гэтага часу ня бачыў. Раю плюнуць на ўсю гэтую справу і не ламаць галавы.

— Ну, бывайце здаровы. Дзякую вам,—сказаў дзед і вышаў на вуліцу.

Тады Баркоўскі ўскочыў з месца, ускінуў на галаву замест сваёй кепкі капялюш аднаго з супрацоўнікаў установы—і накіраваўся ўсьлед за дзедам так, каб той яго ня бачыў.

Кожны раз, калі дзед прыпыняўся,—прыпыняўся і Баркоўскі, куды зварочваў дзед,—туды ішоў і Баркоўскі...

Дзед ішоў павольна, прыпыняўся ля вакон магазынаў, глядзеў па бакох і ішоў з выглядам чалавека, які нікуды не сьпяшаецца, ня мае ніякай мэты.

Ды і сапраўды ён нічога ня меў на ўвазе рабіць. Ехаць яму трэба было праз гадзіны чатыры, спраў ніякіх ён болей ня меў, сядзець у сваім пакоі не хацеў.

Тлумачэньне Баркоўскага адносна шпіёна яму здавалася слушным. Сапраўды няёмка савацца з дзіцячымі падазрэньнямі.

А праз некалькі хвілін зноў мільгала думка: а што, калі праўда?

Такім чынам ён дайшоў да таго будынку, дзе знаходзілася ўстанова, што вырашае гэтыя справы. Каля дзьвярэй ходзіць вартавы, такі маладзенькі, сымпатычны хлапчук, што дзеда ўзяла спакуса пагутарыць з ім. Але дзед ведаў, што так справа ня робіцца.

Дзед сьцішыў крокі.

„А што, каб зайсьці? Рабіць няма чаго, час ёсьць. Дзьверы пад самым носам. Скажу, што справа хоць

і няпэўная, але ўсё-такі крыху трывожная. Хай выбачаюць, калі нічога сур'ёзнага няма. Але тады маё сумленьне будзе спакойным. Ня трэба будзе ламаць галавы: ці сур'ёзная справа, ці глупства?“

Дзед спыніўся.

А за дваццаць крокаў ад яго спыніўся і Баркоўскі.

Бледны, як сьмерць, прытуліўся ён да слупа і пачаў шукаць у сваіх кішэнях папяросы, запалкі. Рабіў гэта нібы так старанна, што ніхто не заўважыў-бы, як ён нічога ня бачыць, апрача дзеда.

Дзед падышоў да вартавога, нешта сказаў яму і пераступіў парог...

А Баркоўскі зьвярнуўся і, стрымліваючыся, каб не пабегчы, пасьпешна пайшоў назад...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз некалькі хвілін у Курычах атрымалі загад: зараз-жа прывесьці ў ДПУ Юзіка.

Курыцкая грамадзкасьць захвалявалася: што такое здарылася? Занепакоіўся і Юзік: можа, яго хочуць адправіць назад?

Далі яму правадатага, толькі на гэты раз не вайскоўца, а аднаго з сваіх работнікаў, і праз некалькі гадзін Юзік са сьціснутым сэрцам уваходзіў у тыя самыя дзьверы, у якія ўваходзіў у першы дзень свайго „прылёту“ у Краіну Саветаў.

Тая самая лава, на якой ён спаў, тыя самыя калідоры і сходні, па якіх яго тады вялі, і, нарэшце, той самы пакой і той самы дзядзька, у якога ён быў.

Ледзь жывы, увайшоў Юзік у пакой. Глядзіць— дзядзька ласкава ўсьміхаецца, нават жартуе:

— Здароў, эмігрант! Зноў давялося ўбачыцца. Ну, як жывеш?

Юзік глядзіць на яго вялікімі вачыма і ня ведае, што думаць, што казаць.



Чаго ты так пазіраеш?—сьмяецца дзядзька.—Сядай, пагаворым.

— А... а... вы... не адправіце мяне назад?—прамармытаў Юзік.

Дзядзька нават зарагатаў.

— Не, не! Наадварот. Можа нават і бацьку твайго сюды прывязем.

Тут увайшоў дзед, вольна, спакойна, нібы ў свой пакой.

— А ўнук ваш баіцца, каб яго не адправілі назад,— зьвярнуўся да яго дзядзька.

— Не, брат! Калі да гэтага часу не адправілі дык цяпер тым болей,—сказаў дзед —Магчыма, дзякуючы табе, мы выкрыем шпіёна. А я, дурны, лічыў, што ўсё гэта глупства!

Небарака і цяпер ня ведаў, як далёка ён стаіць ад праўды. Ён усё думаў, што будуць шукаць нейкага новага, незнаёмага шпіёна.

І калі усьлед за гэтым адчыніліся дзьверы і ўвялі чалавека, дзед ледзь не падскочыў на месцы.

Што гэта значыць? Антэк Баркоўскі, ды яшчэ, відаць, арыштаваны!

А калі зірнуў на яго Юзік, дык пазнаў таго самага чалавека, якога сустрэў на вуліцы...

— Ну, хлопчык! Ці ведаеш ты гэтага чалавека?— сказаў дзядзька. Юзік пільна паглядзеў на яго. Той тастаяў, як загнаны зьвер, і глядзеў на хлопчыка такімі вачыма, нібы зьесьці яго хацеў.

І па гэтых вачох Юзік пазнаў яго канчаткова.

— Ён! Ён!—ускрыкнуў хлопчык.

— Хто?—спакойна спытаўся дзядзька.

— Чэсь, Захараў сын, польскі афіцэр, які выцяў мяне бізуном!

— Лжэш, шчанё! Я цябе ніколі ня бачыў! Тавары́шы! Ці можна грунтавацца на словах дзіцяці?

— Досыць!—сурова перапыніў дзядзька. — Адвядзеце яго!

— Вось табе і Антэк...—разьвёў рукамі дзед.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтыя хуткія падзеі адбыліся такім чынам. Калі дзед зайшоў у ДПУ, сарамліва расказаў аб сваіх сумненьнях, дык убачыў, што тут да яго слоў аднесьліся вельмі ўважліва і сур'ёзна.

Дзед падрабязна расказаў аб гутарцы з „Баркоўскім", аб тым, што той таксама ведае таго Чэся, што ён не зьвярнуў увагі на словы дзеда і нават ня раіў пачынаць справу.

Зараз-жа кінуліся да „Баркоўскага", але ва ўстанове яго не знайшлі. Не знайшлі і на яго кватэры. Суседзі сказалі, што ён толькі што быў і вышаў з поўгадзіны назад. У пакоі яго былі параскіданыя рэчы і парваныя ды спаленыя паперы.

... Праз дзьве гадзіны яго злавілі за пятнаццаць кілёмэтраў на захад ад Менску.

Дзед-жа ў гэты час швэндаўся па горадзе, нават ня думаючы аб тым, які вынік магла мець яго заява. Яго адпусьцілі пасьля заявы і прасілі зайсьці, калі прыедзе Юзік.

Пасьля ўсяго таго, што адбылося, даводзіць, хто такі быў „Баркоўскі", ужо ня трэба было. Заставалася толькі высьветліць, якім чынам зрабілася гэтае „ператварэньне".

Але пакуль што гэта было невядома.

Юзік падрабязна расказаў, што ведаў аб гэтай справе. Усё гэта запісалі, падзяквалі і адпусьцілі. З лёгкім сэрцам паехалі дзед з унукам дадому.



— Хто-б мог падумаць, што выйдзе гэткая гісторыя?—дзівіўся дарогаю дзед.—А я з ім яшчэ раіўся, што рабіць наконт гэтага Чэся! Сьмехата!

— Дык вось чаму „Антэк" не хацеў сустракацца са мной!—прамовіў Юзік.

## 11 ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Была глыбокая восень. Пачарнела зямля, агаліліся дрэвы. Няпрытульна знадворку: шэрыя хмары, змрок, вільгаць, холад, вецер.

У такія часы Юзік любіў ляжаць з кнігай на лаўцы пад зялёнымі дрэвамі ці хадзіць па дарожках саду. Прыгожыя рознакаляровыя кветкі асабліва цешылі вока ў такія змрочныя часы. Цяплыня, ціша і яскравае сьвятло часамі больш падабалася, як улетку, асабліва, калі побач, за тонкімі шклянымі сьценамі зімовага саду, было так холадна, цёмна і няпрытульна.

У адзін такі дзень падбегла да яго дзяўчынка Хрызантэма з газэтай у руках.

— Чытаў? Пра цябе, брат, у газэтах пішуць.

— Дзе? Што?—ускочыў Юзік.

Дзяўчынка дала яму „Савецкую Беларусь". Там было надрукавана:

„Нядаўна ў Менску быў затрыманы польскі агент Чэслаў Купрэйчык. Ён прабраўся да нас пад выглядам польскага комуніста Антона Баркоўскага і некалькі месяцаў працаваў у нашых установах. Выкрылі яго выпадкова, дзякуючы хлопчыку Юзіку Кухаронку, які таксама перабраўся да нас з Польшчы і ведаў гэтага Купрэйчыка. Цікавыя акалічнасьці, пры якіх гэты шпіён забраўся да нас. Таварыш Баркоўскі, батрак з маёнтку памешчыка Загорскага, у ліку іншых ахвяр фашыцкага тэрору, быў арыштаваны і засаджаны ў Несьвіскую турму. І вось тут была аргані-

завана д'ябальская провокацыя. Політычныя вязьні знайшлі некалькі чалавек з вартаўнікоў, якія ім „спачувалі“, увайшлі ў зносіны з таварышамі на волі і ўцяклі. Небаракі ня ведалі, што ўсё гэта арганізавала сама ўлада. Зразумела, усіх уцекачоў і іх таварышоў на волі злавілі і ўрачыста зноў пасадзілі ў турму, а таварыша Баркоўскага ціхенька перавезьлі ў іншае месца, пусьціўшы чуткі, што ён уцёк. Замест-ж яго выпусьцілі свайго агента Купрэйчыкі, афіцэра польскай арміі. Плян удаўся, па-першае, таму, што таварыша Баркоўскага, радавога батрака-рэвалюцыянэра, мала хто з нашых таварышоў ведаў у твар і, па-другое, у провокатара знайшліся дакуманты, якія сьведчылі аб асобе Баркоўскага“.

Юзік зараз-жа пабег да дзеда.

— А, каб іх ліха!—ускрыкнуў дзед, прачытаўшы артыкул.—Бач на якія хітрыкі пускаюцца! Але дарма: у нас вачэй больш, як у іх.

— А што з ім цяпер будзе?—спытаўся Юзік.

— Ды, мусіць, па галоўцы не пагладзяць, засьмяяўся дзед.

— Хай яго хоць расстраляюць, шкадаваць ня буду,—злосна прамовіў Юзік.—Добра памятаю яго бізун.

•

Але яго не расстралялі...

Прасачыўшы працу провокатара за час яго жыцьця ў Савецкім Саюзе, пераканаліся, што за гэты кароткі тэрмін ён не пасьпеў сабраць такіх вестак, якія-б вельмі пашкодзілі краіне. Таму прапанавалі Польшчы памяняцца на сапраўднага Антэка Баркоўскага, потым Мотэлевага бацьку, які за гэты час апынуўся ў турме, і ў дадатак яшчэ патрабавалі згоды на выезд з Польшчы Юзікавых бацькоў.

Польская ўлада згадзілася:

І праз некаторы час у Курычы прыехала цэлая коленія: Юзікавы бацькі, Антэк і Мотэль з бацькам.



Колькі было радасьці для Юзіка! Ды яшчэ таму, што ён зьяўляўся галоўным героем у гэтай справе.

З якім гонарам паказваў ён гасьцём „сваю“ гаспадарку. З якім важным выглядам тлумачыў ім тыя „цуды“, якія так нядаўна дзівілі яго самога.

Адна толькі думка псавала яго радасны настрой—гэта думка аб Максімку.

— А ён застаўся там,—сумна казаў Юзік.—Ніколі не забудуся, як самаахвярна дапамог ён мне выбрацца адтуль. А сам будзе жыць, бы ў склепе. Ня ўбачыць нашага жыцьця.

— Ну, не!—упэўнена адказаў Мотэль.—Убачыць. І хутка ўбачыць. Не ў маёнтках вырашыцца справа, а ў гарадох. А я цяпер добра ведаю, што там робіцца. Прыглядзеўся да рабочай арміі, якая рыхтуецца да апошняга рашучага бою. Хутка гэта будзе, нават хутчэй, як мы з табой можам думаць.

Мотэль не памыліўся.

Праз восем месяцаў выбухнулі падзеі, якія перавярнулі капіталістычны лад ня толькі ў Польшчы, але і ва ўсім сьвеце...



# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ



## ЧАСТКА ДРУГАЯ



---